ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ X

№ 2
Люты 1936 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул., ЦК КП(б)Б, пакой 21.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000, даб. 68.



# ГУТАРКА таварыша СТАЛІНА

## з старшынёй амерыканскага газэтнага аб'яднання „Скрыпс-Говард Ньюспейперс“ п. Рой Говардам 1-га сакавіка 1936 года

**Говард:** Якія будуць, па Вашаму, вынікі нядаўніх падзей у Японіі для становішча на Далёкім Усходзе?

**Сталін:** Пакуль трудна сказаць. Для гэтага ёсць занадта мала матар'ялаў. Карціна недастаткова ясная.

**Говард:** Якая будзе пазіцыя Совецкага Саюза ў выпадку, калі Японія адважыцца на сур'ёзны напад супроць Мангольскай Народнай Рэспублікі?

**Сталін:** У выпадку, калі Японія адважыцца напасці на Мангольскую Народную Рэспубліку, робячы замах на яе незалежнасць, нам прыдзецца дапамагчы Мангольскай Народнай Рэспубліцы. Намеснік Літвінава Стаманякоў ужо заявіў нядаўна аб гэтым японскаму паслу ў Маскве, указаўшы на нязменна прыязныя адносіны, якія СССР падтрымлівае з МНР з 1921 года. Мы дапаможам МНР так сама, як мы дапамаглі ёй у 1921 годзе.

**Говард:** Ці прывядзе, такім чынам, японская спроба захваціць Улан-Батор да пазітыўнай акцыі СССР?

**Сталін:** Так, прывядзе.

**Говард:** Ці развілі японцы за апошнія некалькі дзён якую-небудзь такую актыўнасць у раёне граніцы МНР, якая (актыўнасць) была-б палічана ў СССР, як агрэсіўная?

**Сталін:** Японцы, здаецца, прадаўжаюць накапляць войскі ля граніцы МНР, але якіх-небудзь новых спроб да пагранічных сутычак пакуль не заўважваецца.

**Говард:** Совецкі Саюз апасаецца, што Германія і Польшча маюць накіраваныя супроць яго агрэсіўныя намеры і падрыхтоўваюць ваеннае супрацоўніцтва, якое павінна дапамагчы рэалізаваць гэтыя намеры. Між тым Польшча заяўляе аб сваім нежаданні дазволіць любым іншаземным войскам скарыстаць яе тэрыторыю, як базу для аперацый супроць трэцяй дзяржавы. Як у СССР уяўляюць сабе напад з боку Германіі? З якіх пазіцый, у якім напрамку могуць дзейнічаць германскія войскі?

**Сталін:** Гісторыя гаворыць, што калі якая-небудзь дзяржава хоча ваяваць з другой дзяржавай, нават не суседняй, то яна пачынае шукаць граніцы, праз якія яна магла-б дабрацца да граніц дзяржавы, на якую яна хоча напасці. Звычайна агрэсіўная дзяржава знаходзіць такія граніцы. Яна іх знаходзіць або пры дапамозе сілы, як гэта мела месца ў 1914 годзе, калі Германія ўварвалася ў Бельгію, каб ударыць па Францыі, або яна бярэ такую граніцу «у крэдыт», як гэта зрабіла Германія ў адносінах Латвіі, скажам, у 1918 годзе, спрабуючы праз яе прарвацца к Ленінграду. Я не ведаю, якія іменна граніцы можа прыстасаваць для сваіх мэт Германія, але думаю, што ахвотнікі даць ёй граніцу «у крэдыт» могуць знайсціся.

**Говард:** Ва ўсім свеце гавораць аб вайне. Калі сапраўды вайна немінуча, то калі, містэр Сталін, яна, па Вашаму, разразіцца?

**Сталін:** Гэта немагчыма прадсказаць. Вайна можа ўспыхнуць нечакана. Цяпер войны не аб'яўляюцца. Яны проста пачынаюцца. Але, з другога боку, я лічу, што пазіцыі прыяцеляў міру ўмацоўваюцца. Прыяцелі міру могуць працаваць адкрыта, яны апіраюцца на магутнасць грамадскай думкі, у іх распараджэнні такія інструменты, як напрыклад, Ліга нацый. У гэтым плюс для прыяцеляў міру. Іх сіла ў тым, што іх дзейнасць супроць вайны апіраецца на волю шырокіх народных мас. Ва ўсім свеце няма народу, які хацеў-бы вайны. Што датычыць ворагаў міру, то яны вымушаны працаваць тайна. У гэтым мінус ворагаў міру. Аднак, не выключана, што іменна ў сілу гэтага яны могуць адважыцца на ваенную авантуру, як на акт роспачы.

Адным з навейшых поспехаў справы прыяцеляў міру з'яўляецца ратыфікацыя франка-савецкага пакта аб узаемнай дапамозе французскай палатай дэпутатаў. Гэты пакт з'яўляецца пэўнай перашкодай для ворагаў міру.

**Говард:** Калі ўспыхне вайна, то ў якой частцы свету яна можа разразіцца раней? Дзе навальнічыя хмары вайны больш за ўсё згусціліся—на Ўсходзе ці на Захадзе?

**Сталін:** Ёсць, па-мойму, два ачагі ваеннай небяспекі. Першы ачаг знаходзіцца на Далёкім Усходзе, у зоне Японіі. Я маю на ўвазе неаднаразовыя заявы японскіх ваенных з пагрозамі па адрасу другіх дзяржаў. Другі ачаг знаходзіцца ў зоне Германіі. Трудна сказаць, які ачаг з'яўляецца найбольш пагражаючым, але абодва яны існуюць і дзейнічаюць. У параўнанні з гэтымі двума асноўнымі ачагамі ваеннай небяспекі італа-абісінская вайна з'яўляецца эпізодам. Пакуль найбольшую актыўнасць праяўляе далёка-ўсходні ачаг небяспекі. Магчыма, аднак, што цэнтр гэтай небяспекі перамесціцца ў Еўропу. Аб гэтым гаворыць хоць-бы і нядаўняе інтэрв'ю п. Гітлера, данае ім адной французскай газеце. У гэтым інтэрв'ю Гітлер як быццам спрабуе гаварыць міралюбівыя рэчы, але гэта сваё «міралюбства» ён так густа перасыпае пагрозамі ў адносінах да Францыі і Савецкага Саюза, што ад «міралюбства» нічога не астаецца. Як бачыце, нават

тады, калі п. Гітлер хоча гаварыць аб міры, ён не можа абыйсціся без пагроз. Гэта сімптом.

**Говард:** У чым, па Вашаму, заключаецца асноўная прычына сучаснай ваеннай небяспекі?

**Сталін:** У капіталізме.

**Говард:** У якіх іменна праяўленнях капіталізма?

**Сталін:** У яго імперыялістычных захватніцкіх праяўленнях.

Вы памятаеце, як узнікла першая сусветная вайна. Яна ўзнікла з-за жадання перадзяліць свет. Зараз тая-ж падаплёка. Ёсць капіталістычныя дзяржавы, якія лічаць сябе абдзеленымі пры папярэднім перадзеле сфер уплыву, тэрыторый, крыніц сыравіны, рынкаў і г. д. і якія хацелі-б зноў перадзяліць іх у сваю карысць. Капіталізм у яго імперыялістычнай фазе—такая сістэма, якая лічыць вайну законным метадам вырашэння міжнародных супярэчнасцей, метадам законным калі не юрыдычна, то па сутнасці.

**Говард:** Ці не лічыце Вы, што і ў капіталістычных краінах можа існаваць абгрунтаванае апасенне, як-бы Совецкі Саюз не рашыў сілай навязаць свае палітычныя тэорыі іншым народам?

**Сталін:** Для падобных апасенняў няма ніякіх падстаў. Калі Вы думаеце, што совецкія людзі хочуць самі, ды яшчэ сілай, змяніць твар акружаючых дзяржаў, то Вы жорстка заблуджаецеся. Совецкія людзі, вядома, хочуць, каб твар акружаючых дзяржаў змяніўся, але гэта справа саміх акружаючых дзяржаў. Я не бачу, якую небяспеку могуць бачыць у ідэях совецкіх людзей акружаючыя дзяржавы, калі гэтыя дзяржавы сапраўды цвёрда сядзяць у сядле.

**Говард:** Ці азначае гэта Ваша заява, што Совецкі Саюз у якой-небудзь меры пакінуў свае планы і намеры зрабіць сусветную рэволюцыю?

**Сталін:** Такіх планаў і намераў у нас ніколі не было.

**Говард:** Мне здаецца, містэр Сталін, што ва ўсім свеце на працягу доўгага часу стваралася іншае ўражанне.

**Сталін:** Гэта з'яўляецца плодам непаразумення.

**Говард:** Трагічным непаразуменнем?

**Сталін:** Не, камічным. Ці, бадай, трагікамічным.

Бачыце, мы, марксісты, лічым, што рэволюцыя адбудзецца і ў іншых краінах, але адбудзецца яна толькі тады, калі гэта знойдуць магчымым ці патрэбным рэволюцыянеры гэтых краін. Экспарт рэволюцыі—гэта бязглуздзіца. Кожная краіна, калі яна гэтага захоча, сама зробіць сваю рэволюцыю, а калі не захоча, то рэволюцыі не будзе. Вось, напрыклад, наша краіна захацела зрабіць рэволюцыю і зрабіла яе, і цяпер мы будуем новае бяскласавае грамадства. Але сцвярджаць, быццам мы хочам зрабіць рэволюцыю ў іншых краінах, умешваючыся ў іх жыццё, гэта значыць гаварыць тое, чаго няма і чаго мы ніколі не прапаведвалі.

**Говард:** У момант устанаўлення дыпламатычных адносін паміж СССР і ЗША прэзідэнт Рузвельт і п. Літвінаў абмяняліся тоеснымі нотамі па пытанню аб прапагандзе. У п. 4 ліста п. Літвінава прэзідэнту Рузвельту гаварылася, што совецкі ўрад абавязваецца «не дапускаць утварэння ці прабывання на сваёй тэрыторыі якіх-небудзь арганізацый ці груп і прымаць на сваёй тэрыторыі папераджальныя меры супроць дзейнасці якіх-небудзь арганізацый ці груп або прадстаўнікоў, ці службовых асоб якіх-небудзь арганізацый ці груп у адносінах Злучаных Штатаў у цэлым, ці якой-небудзь іх часткі, іх тэрыторыі ці ўладанняў, маючых на мэце звяржэнне ці падрыхтоўку звяржэння або змяненне сілай палітычнага ці соцыяльнага ладу». Я прашу Вас, містэр Сталін, растлумачыць мне, чаму п. Літвінаў падпісаў гэты ліст, калі выкананне абавязацельства па гэтаму пункту несумяшчальна з жаданнямі Совецкага Саюза ці па-за яго ўладай?

**Сталін:** Выкананне абавязацельстваў па пункту, які Вы працытавалі,—у нашай уладзе, мы гэтыя абавязацельствы выконвалі і будзем выконваць.

Па нашай канстытуцыі палітычныя эмігранты маюць права пражываць на нашай тэрыторыі. Мы ім прадастаўляем права ўбежышча акурат так сама, як і ЗША даюць права ўбежышча палітычным эмігрантам. Зусім відавочна, што калі Літвінаў падпісваў гэты ліст, ён выходзіў з таго, што абавязацельствы, якія ў ім змяшчаюцца, маюць узаемны характар. Ці лічыце Вы, містэр Говард, супярэчачым пагадненню Рузвельт—Літвінаў, калі на тэрыторыі ЗША знаходзяцца рускія белагвардзейскія эмігранты, якія вядуць прапаганду супроць Советаў і ў карысць капіталізма, якія карыстаюцца матар'яльным падтрыманнем амерыканскіх грамадзян і часамі прадстаўляюць сабою групы тэрарыстаў? Відавочна, гэтыя эмігранты карыстаюцца правам убежышча, якое ёсць і ў ЗША. Што датычыць нас, то мы ніколі не пацярпелі-б на сваёй тэрыторыі ні аднаго тэрарыста, супроць каго-б ён ні замышляў свае злачынствы. Як відаць, у ЗША права ўбежышча тлумачыцца больш расшырана, чым у нашай краіне. Што-ж, мы не ў прэтэнзіі.

Вы мне, быць можа, запярэчыце, што мы спачуваем гэтым палітычным эмігрантам, якія прыбываюць на нашу тэрыторыю. Але хіба няма амерыканскіх грамадзян, якія спачуваюць белагвардзейскім эмігрантам, якія вядуць прапаганду за капіталізм і супроць Советаў? Стала быць, аб чым-жа гутарка? Гутарка ідзе аб тым, каб не дапамагаць гэтым асобам, не фінансаваць іх дзейнасць. Гутарка ідзе аб тым, каб службовыя асобы абодвух краін не ўмешваліся ва ўнутранае жыццё другой краіны. Нашы службовыя асобы чэсна выконваюць гэта абавязацельства. Калі хто-небудзь з іх правініўся, няхай нам скажуць.

Калі зайсці занадта далёка і патрабаваць высылкі ўсіх белагвардзейскіх эмігрантаў з ЗША, то гэта было-б пасяганнем на права ўбежышча, агалошанае і ў ЗША і ў СССР. Тут трэба прызнаць вядомы разумны прэдзел для патрабаванняў і контр-патрабаванняў. Літвінаў падпісаў свой ліст прэзідэнту Рузвельту не ў якасці прыватнай асобы, а ў якасці прадстаўніка дзяржавы, акурат так сама, як гэта зрабіў і прэзідэнт Рузвельт. Іх пагадненне з'яўляецца пагадненнем паміж двума дзяржавамі. Падпісваючы гэта пагадненне, і Літвінаў і прэзідэнт Рузвельт, як прадстаўнікі двух дзяржаў, мелі на ўвазе дзейнасць агентаў сваёй дзяржавы, якія не павінны і не будуць умешвацца ва ўнутраныя справы другога боку. Агалошанае ў абодвух краінах права ўбежышча не магло быць закранута гэтым пагадненнем. У гэтых рамках трэба тлумачыць пагадненне Рузвельт—Літвінаў, як пагадненне прадстаўнікоў двух дзяржаў.

**Говард:** Але хіба амерыканскія дэлегаты Броудэр і Дарсі не заклікалі на VII кангрэсе Комуністычнага Інтэрнацыянала, які адбыўся ў мінулым годзе ў Маскве, да насільнага звяржэння амерыканскага ўрада?

**Сталін:** Прызнаюся, што не памятаю прамоў тт. Броудэра і Дарсі, не памятаю нават, аб чым яны гаварылі. Магчыма, што яны гаварылі што-небудзь у гэтым родзе. Але не совецкія людзі стваралі амерыканскую комуністычную партыю. Яна створана амерыканцамі. Яна існуе ў ЗША легальна, яна выстаўляе сваіх кандыдатаў на выбарах, уключаючы і прэзідэнцкія. Калі тт. Броудэр і Дарсі выступілі аднойчы ў Маскве з прамовай, то ў сябе дома, у ЗША, яны выступалі з падобнымі і нават напэўна больш рашучымі прамовамі сотні раз. Амерыканскія-ж комуністы маюць магчымасць свабодна прапаведваць свае ідэі. Зусім няправільна было-б лічыць совецкі ўрад адказным за дзейнасць амерыканскіх комуністаў.

**Говард:** Так, але на гэты раз гутарка ідзе аб дзейнасці амерыканскіх комуністаў, меўшай месца на совецкай тэрыторыі, у парушэнне п. 4 пагаднення Рузвельт—Літвінаў.

**Сталін:** Што прадстаўляе сабой дзейнасць комуністычнай партыі, у чым яна можа праяўляцца? Дзейнасць гэта заключаецца звычайна ў арганізацыі рабочых мас, у арганізацыі мітынгаў, дэманстрацый, забастовак і т. д. Зусім зразумела, што ўсяго гэтага амерыканскія комуністы не могуць прарабіць на совецкай тэрыторыі. У нас, у СССР, няма амерыканскіх рабочых.

**Говард:** Ці магу я зразумець Вашу заяву так, што можа быць знойдзена такое растлумачэнне ўзаемных абавязацельстваў, пры якім добрыя адносіны паміж нашымі краінамі былі-б абаронены і прадоўжаны?

**Сталін:** Так, безумоўна.

**Говард:** Вы прызнаеце, што комуністычнае грамадства ў СССР

яшчэ не пабудавана. Пабудован дзяржаўны соцыялізм. Фашызм у Італіі і нацыянал-соцыялізм у Германіі сцвярджаюць, што імі дасягнуты падобныя рэзультаты. Ці не з'яўляецца агульнай рысай для ўсіх названых дзяржаў парушэнне свабоды асобы і іншыя лішэнні ў інтарэсах дзяржавы?

**Сталін:** Выраз «дзяржаўны соцыялізм» недакладны. Пад гэтым тэрмінам многія разумеюць такі парадак, пры якім пэўная частка багацяў, часамі даволі значная, пераходзіць у рукі дзяржавы ці пад яе кантроль, тым часам як у велізарнай большасці выпадкаў уласнасць на заводы, фабрыкі, зямлю астаецца ў руках прыватных асоб. Так многія разумеюць «дзяржаўны соцыялізм». Часамі за гэтым тэрмінам скрываецца парадак, пры якім капіталістычная дзяржава, у інтарэсах падрыхтоўкі ці вядзення вайны, бярэ на сваё ўтрыманне некаторую колькасць прыватных прадпрыемстваў. Грамадства, якое мы пабудавалі, ніяк не можа быць названа «дзяржаўным соцыялізмам». Наша савецкае грамадства з'яўляецца соцыялістычным, бо прыватная ўласнасць на фабрыкі, заводы, зямлю, банкі, транспартныя сродкі ў нас скасавана і заменена ўласнасцю грамадскай. Тая грамадская арганізацыя, якую мы стварылі, можа быць названа арганізацыяй савецкай, соцыялістычнай, яшчэ не ў поўнай меры дабудаванай, але ў корані сваім соцыялістычнай арганізацыяй грамадства. Асновай гэтага грамадства з'яўляецца грамадская ўласнасць: дзяржаўная, г. зн. усенародная, а таксама кааперацыйна-калгасная ўласнасць. Ні італьянскі фашызм, ні германскі нацыянал-«соцыялізм» нічога агульнага з такім грамадствам не маюць. Перш за ўсё таму, што прыватная ўласнасць на фабрыкі і заводы, на зямлю, банкі, транспарт і т. д. асталася там някранутай і таму капіталізм астаецца ў Германіі і Італіі ва ўсёй сіле.

Так, Вы правы, мы яшчэ не пабудавалі комуністычнага грамадства. Пабудаваць такое грамадства не так-то лёгка. Розніца паміж грамадствам соцыялістычным і комуністычным Вам, мабыць, вядома. У соцыялістычным грамадстве яшчэ ёсць некаторая маемасная няроўнасць. Але ў соцыялістычным грамадстве ўжо няма беспрацоўя, ужо няма эксплаатацыі, ужо няма прыгнечання нацыянальнасцей. У соцыялістычным грамадстве кожны абавязан працаваць, хоць і атрымлівае за сваю працу яшчэ не адпаведна сваім патрэбнасцям, а адпаведна колькасці і якасці ўкладзенай працы. Таму яшчэ існуе заработная плата, прытым няроўная, дыферэнцыяваная. Толькі тады, калі ўдасца стварыць такі парадак, пры якім людзі атрымаюць ад грамадства за сваю працу не па колькасці і якасці працы, а адпаведна іх патрабаванням, можна будзе сказаць, што мы пабудавалі комуністычнае грамадства.

Вы гаворыце аб тым, што для таго, каб пабудаваць наша соцыялістычнае грамадства, мы афяравалі асабістай свабодай і цярпелі лішэнні. У Вашым пытанні мільгае думка, што соцыялістычнае гра-

мадства адмаўляе асабістую свабоду. Гэта няверна. Вядома, для таго, каб пабудаваць што-небудзь новае, прыходзіцца наганяць эканомію, накапляць сродкі, скарачаць часова свае патрэбнасці, пазычаць у другіх. Калі хочаш пабудаваць новы дом, то копіш грошы, часова ўрэзваеш свае патрэбнасці, інакш дома можаш і не пабудаваць. Гэта падаўна справядліва, калі гутарка ідзе аб тым, каб пабудаваць цэлае новае чалавечае грамадства. Прыходзілася часова ўрэзваць некаторыя патрэбнасці, накапляць адпаведныя сродкі, напружваць сілы. Мы так іменна і паступілі і пабудавалі соцыялістычнае грамадства.

Але гэта грамадства мы пабудавалі не для ўшчамлення асабістай свабоды, а для таго, каб чалавечая асоба адчувала сябе сапраўды свабоднай. Мы пабудавалі яго дзеля сапраўднай асабістай свабоды, свабоды без двукоссяў. Мне трудна ўявіць сабе, якая можа быць «асабістая свабода» у беспрацоўнага, які ходзіць галодным і не знаходзіць прымянення сваёй працы. Сапраўдная свабода ёсць толькі там, дзе знішчана эксплаатацыя, дзе няма прыгнечання адных людзей другімі, дзе няма беспрацоўя і жабрацтва, дзе чалавек не дрыжыць за тое, што заўтра можа страціць работу, жыллё, хлеб. Толькі ў такім грамадстве магчыма сапраўдная, а не папяровая, асабістая і ўсякая іншая свабода.

**Говард:** Ці лічыце Вы сумяшчальным паралельнае развіццё амерыканскай дэмакратыі і совецкай сістэмы?

**Сталін:** Амерыканская дэмакратыя і совецкая сістэма могуць мірна суіснаваць і спаборнічаць. Але адна не можа развіцца ў другую. Совецкая сістэма не перарасце ў амерыканскую дэмакратыю і наадварот. Мы можам мірна суіснаваць, калі не будзем прыдзірацца адзін к другому па ўсякіх дробязях.

**Говард:** У СССР распрацоўваецца новая канстытуцыя, якая прадугледжвае новую выбарчую сістэму. У якой меры гэта новая сістэма можа змяніць становішча ў СССР, паколькі на выбарах па-ранейшаму будзе выступаць толькі адна партыя?

**Сталін:** Мы прымем нашу новую канстытуцыю мабыць у канцы гэтага года. Камісія па выпрацоўцы канстытуцыі працуе і павінна будзе хутка сваю работу закончыць. Як ужо было аб'яўлена, па новай канстытуцыі выбары будуць усеагульнымі, роўнымі, прамымі і тайнымі. Вас прыводзіць у замяшанне, што на гэтых выбарах будзе выступаць толькі адна партыя. Вы не бачыце, якая можа быць у гэтых умовах выбарчая барацьба. Відавочна, выбарчыя спісы на выбарах будзе выстаўляць не толькі комуністычная партыя, але і разнастайныя грамадскія беспартыйныя арганізацыі. А такіх у нас сотні. У нас няма процістаўляючых сябе адна другой партый, акурат так сама як у нас няма процістаячых адзін другому класа капіталістаў і класа эксплаатуемых капіталістамі рабочых. Наша грамадства

складаецца выключна са свабодных працаўнікоў горада і вёскі—рабочых, сялян, інтэлігенцыі. Кожная з гэтых праслоек можа мець свае спецыяльныя інтарэсы і адлюстроўваць іх праз маючыяся шматлікія грамадскія арганізацыі. Але паколькі няма класаў, паколькі грані паміж класамі сціраюцца, паколькі астаецца толькі некаторая, але не карэнная розніца паміж рознымі праслойкамі соцыялістычнага грамадства, не можа быць пажыўнай глебы для стварэння змагаючыхся паміж сабою партый. Дзе няма некалькіх класаў, не можа быць некалькіх партый, бо партыя ёсць частка класа.

Пры нацыянал-«соцыялізме» таксама існуе толькі адна партыя. Але з гэтай фашысцкай аднапартыйнай сістэмы нічога не выйдзе. Справа ў тым, што ў Германіі астаўся капіталізм, асталіся класы, класавая барацьба, якая ўсёроўна прарвецца напаверх, у тым ліку і ў галіне барацьбы партый, якія прадстаўляюць процілеглыя класы, так сама як прарвалася, скажам, у Іспаніі. У Італіі таксама існуе толькі адна—фашысцкая—партыя, але з тых-жа прычын і там з гэтага нічога не выйдзе.

Чаму нашы выбары будуць усеагульнымі? Таму, што ўсе грамадзяне, за выключэннем пазбаўленых выбарчых праў па суду, будуць мець права выбіраць і быць выбранымі.

Чаму нашы выбары будуць роўнымі? Таму, што ні розніца ў маемасных адносінах (яшчэ часткова існуючая), ні расавая і нацыянальная прыналежнасць не будуць даваць ніякіх прывілей ці ўшчэрбу. Жанчыны будуць карыстацца актыўным і пасіўным выбарчым правам на роўных правах з мужчынамі. Нашы выбары будуць сапраўды роўнымі.

Чаму тайныя? А таму, што мы хочам даць совецкім людзям поўную свабоду галасаваць за тых, каго яны хочуць выбраць, каму яны давераць забяспечанне сваіх інтарэсаў.

Чаму прамыя? Таму, што непасрэдныя выбары на месцах ва ўсе прадстаўнічыя ўстановы, аж да вярхоўных органаў, лепш забяспечваюць інтарэсы працоўных нашай неабдымнай краіны.

Вам здаецца, што не будзе выбарчай барацьбы. Але яна будзе, і я прадбачу вельмі ажыўленую выбарчую барацьбу. У нас не мала ўстаноў, якія працуюць дрэнна. Бывае, што той ці іншы мясцовы орган улады не ўмее задаволіць тыя ці іншыя з разнастайных і ўсё ўзрастаючых патрэбнасцей працоўных горада і вёскі. Пабудаваў ты ці не пабудаваў добрую школу? Ці палепшыў ты жыллёвыя ўмовы? Ці не бюракрат ты? Ці дапамог ты зрабіць нашу працу больш эфектыўнай, наша жыццё больш культурным? Такавы будуць крытэрыі, з якімі мільёны выбаршчыкаў будуць падыходзіць да кандыдатаў, адкідаючы нягодных, выкрэсліваючы іх са спісаў, вылучаючы лепшых і выстаўляючы іх кандыдатуры. Так, выбарчая барацьба будзе ажыўленай, яна будзе праходзіць вакол мноства вастрэйшых пытанняў



няў,—галоўным чынам пытанняў практычных, якія маюць першаступеннае значэнне для народу. Наша новая выбарчая сістэма падцягне ўсе ўстановы і арганізацыі, прымусіць іх палепшыць сваю работу. Усеагульныя, роўныя, прамыя і тайныя выбары ў СССР будуць бізуном у руках насельніцтва супроць дрэнна працуючых органаў улады. Наша новая савецкая канстытуцыя будзе, па-мойму, самай дэмакратычнай канстытуцыяй з усіх існуючых у свеце.

Запісаў: **К. Уманскі**.

**Н. Гікало**

# Прамова на пленуме праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР

*16 лютага 1936 г.*

Таварышы, дазвольце на пленуме Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР, прысвечаным пытанням літаратуры, паэзіі, заняць крыху часу для пытанняў нашай палітыкі і практыкі будаўніцтва соцыялізма тут, на заходняй граніцы нашага вялікага Совецкага саюза. **(Апладысменты).**

Ініцыятыва, якая была праяўлена кіраўнікамі Саюза совецкіх пісьменнікаў, каб іменна тут сабраць гэты пленум, мае выключна вялікае значэнне. Комуністы, рабочыя, калгаснікі—увесь беларускі народ з велізарнай увагай сочаць за работай пленума. Вялікая дапамога, якая ў рэзультаце работы пленума Саюза совецкіх пісьменнікаў будзе нам аказана і ўжо аказана, старыцаю скажацца, у асаблівасці на далейшым развіцці беларускай соцыялістычнай культуры.

Кожнаму большэвіку, рабочаму, калгасніку Беларусі асабліва радасна, што пленум Саюза совецкіх пісьменнікаў сабраўся іменна тут, на заходняй граніцы, у сталіцы Совецкай Беларусі—горадзе Менску. **(Апладысменты).**

Не толькі ў вас, перадавых людзей культуры, але і ў кожнага грамадзяніна нашай соцыялістычнай радзімы, зразумела, ёсць жаданне ведаць, што робіцца на граніцы для ўмацавання абараназдольнасці нашай краіны. Чым мацней граніцы, тым спакайней працоўныя совецкай краіны могуць будаваць соцыялізм, ажыццяўляць другую пяцігодку—пяцігодку пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. І я думаю, што кожны з вас пераканаўся на справе і ведае, што заходнія граніцы—у моцных руках адданых радзіме людзей, якія павінны будуць у першую чаргу ў выпадку вайны прыняць удар ворага, адбіць гэты ўдар і разграміць ворага. **(Апладысменты).**

Калі вораг адважыцца напасці, то наша гераічная Чырвоная армія, у рады якой з радасцю стане кожны рабочы, калгаснік, працоўны, не толькі не аддасць ворагу ні адной пядзі нашай совецкай зямлі, але і здолее разграміць ворага на яго ўласнай тэрыторыі. **(Бурныя апладысменты).**

Вы чулі выступленні пагранічнікаў, якія стаяць на варце заходніх граніц. Вы бачылі сваімі ўласнымі вачамі моц нашых граніц (многія з вас, пісьменнікаў і паэтаў, пабывалі цяпер на самой граніцы). Вы бачыце вашымі вачамі—вачамі пісьменніка і паэта тое, што можа быць не дана кожнаму бачыць. І вы на справе пераканаліся ў тым,

што граніцы на Захадзе, як і граніцы на Далёкім Усходзе, як і ўсе граніцы нашага вялікага Совецкага саюза, знаходзяцца ў руках аддданых партыі, краіне, совецкаму народу, уладаючых выключным гераізмам, мужнасцю і любоўю да радзімы, людзей. Празільна гаварылі тут на пленуме таварышы, правільна сказаў тав. Эйдэман, што паэты, пісьменнікі, як усе народы нашай совецкай краіны, гэта байцы і абаронцы совецкіх граніц. І ўвесь беларускі народ—гэта баец і абаронца совецкіх заходніх граніц. **(Апладысменты).**

Бо кожны з беларускага народу—няхай ён член партыі ці беспартыйны, няхай ён рабочы, калгаснік, няхай ён пісьменнік, паэт па сутнасці з'яўляецца непасрэдным падчаскам кожнага пагранічніка.

Сёння пагранічнік стаіць на варце, абараняе граніцу. А калі заўтра куля ворага зніме пагранічніка, то кожны з нас тут будзе тым падчаскам, які ў першую чаргу заменіць яго на баявым пасту.

Совецкая Беларусь—гэта краіна, народ якой жыве і працуе на граніцы з капіталістычным Захадам. І ў выпадку нападу імперыялістаў на свяшчэнныя граніцы нашага Совецкага саюза, мы станем непасрэдным социялістычным тылам Чырвонай арміі

Будуючы соцыялізм разам з іншымі народамі, укладваючы сваю долю ў агульную соцыялістычную будоўлю: у літаратуру, паэзію, прамысловасць, сельскую гаспадарку, культуру і т. д., Совецкая Беларусь і ўвесь беларускі народ памятае і рыхтуецца да таго, каб першым грудзьмі прыняць удары армій імперыялістычных дзяржаў. І беларускі народ, першым уступаючы ў бой, пакажа, што ў вялікай брацкай сям'і совецкіх народаў народ беларускі не зойме апошняга месца ў гэтай рашаючай схватцы. **(Працяжныя апладысменты).**

Таварышы, з дакладаў на пленуме аб беларускай літаратуры і паэзіі вы маеце ўжо значнае ўяўленне аб беларускім народзе.

У совецкай літаратуры праўдзіва адлюстроўваецца тое, што адбываецца на справе ў нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі, у жыцці і развіцці таго ці іншага народу.

Вядома, мы не можам яшчэ сказаць, што наша літаратура поўнасцю на сёнешні дзень адлюстроўвае тое, што адбываецца ў нас, як развіваецца Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка, як расце і квітнее беларуская соцыялістычная культура і мастацтва, як радасна і весела жыве беларускі народ.

Совецкая Беларусь пад кіраўніцтвам партыі, урада, пад непасрэдным безупынным геніяльным кіраўніцтвам таварыша **Сталіна,** дабілася велізарных поспехаў, як і ўсе іншыя народы нашага вялікага Совецкага саюза.

Рост і росквіт Совецкай Беларусі—бліскучы ўзор аграмадных, велічных рэзультатаў ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і вялікай дружбы народаў, аб якой так выдатна і мудра сказаў таварыш Сталін.

Беларусь, да рэволюцыі выключна адсталая—сапраўдная турма народаў—цяпер карэнным чынам змянілася.

Мы маем прамысловасць, якая па сваіх размерах не займае вялікага месца ў Совецкім саюзе, але па сваёй прадукцыі мае велізарнае значэнне. Выраслі новыя заводы-гіганты, новыя галіны прамысловасці, варштатабудаўніцтва, штучны шоўк, хімічная, лясная і т. д. Значна вырасла ўдзельная вага прамысловасці Совецкай Беларусі, якая дае прадметы шырокага спажывання для працоўных усяго Совецкага саюза.

Па калектывізацыі мы таксама рушылі наперад і маем звыш 85 процантаў усіх гаспадарак у калгасах. **(Апладысменты).**

І ў галіне культуры, навукі, мастацтва нам удалося дабіцца, безумоўна, немалых поспехаў.

Калі мы з радасцю і гордасцю гаворым аб нашых поспехах, то мы ведаем, што нас слухаюць і там, за рубяжом, слухаюць і ворагі, слухаюць і нашы прыяцелі. Там, на Захадзе, рабочыя і сяляне робяць прымітыўныя радыё-прыёмнікі, слухаюць, аб чым гавораць тут, у совецкай краіне, і ўсёй душой сваёй, кожным сваім нервам перажываюць тое, што адбываецца ў нас. Недарма фашысты і фашысцкія ўрады праследуюць працоўных толькі за тое, што яны слухаюць па радыё совецкіх людзей.

Рабочыя і сяляне Заходняй Беларусі, якія ўсёй душой і сэрцам сваім—з намі, з совецкай краінай, ведаюць, што яны чуюць праўду, бачаць стварэнне вялікай справы—соцыялізма, бачаць, як адсталы раней і прыгнечаны беларускі народ узняўся пры совецкай уладзе на найвышэйшыя вяршыні росквіту яго культуры і гаспадаркі.

І яны ўпэўнены ў тым, што рабочыя і калгаснікі Совецкай Беларусі ведаюць і памятаюць, што нашай работай па будаўніцтву соцыялізма мы набліжаем вызваленне нашых зарубежных братоў. **(Апладысменты).**

Таварышы, нам тут, у Беларусі, не проста, не лёгка і не без барацьбы даліся тыя поспехі, якія мы маем у рэзультаце мудрага кіраўніцтва партыі і ўрада, у рэзультаце соцыялістычнай перабудовы ўсёй народнай гаспадаркі.

Гісторыя барацьбы беларускага народу ведае шмат цяжкіх старонак, прасякнутых горыччу, слязамі, а часамі і крывёю.

Беларусь была краінай, праз якую ішлі велізарныя арміі імперыялістычных дзяржаў. Палі і лугі Беларусі былі заліты крывёю. Беларусь была арэнай імперыялістычнай вайны. Беларусь была краінай, якая перажыла дзве акупацыі — нямецкую і белапольскую. А што такое нямецкая і белапольская акупацыя—добра ведаюць і памятаюць беларускія сяляне і рабочыя, ведаюць не па гістарычных успамінах, а па жывых фактах барацьбы рабочых і сялян Беларусі супроць прыгнятальнікаў і гвалтаўнікоў.

Няма раёна, няма горада, мястэчка і вёскі ў Беларусі, дзе-б не было афяр нямецкай акупацыі, афяр белапольскай акупацыі. Калі едзеш па палях, лясах, вёсках і сёлах Беларусі, усюды сустракаеш магілы рабочых і сялян—герояў грамадзянскай вайны, якія змагаліся супроць нямецкіх і белапольскіх акупантаў, якія змагаліся за ўладу Советаў, за пролетарскую рэволюцыю.

Зразумела, што гэтыя падзеі ніколі не могуць быць выкраслены з памяці беларускага народу, і вельмі добра тав. Шчэрбакоў у сваім уступным слове аб гэтым нам напомніў і сказаў.

Беларускі народ і наша большэвіцкая арганізацыя не могуць выкрасліць з памяці і другіх ворагаў, подлых, хітрых, прыстасоўваючыхся да ўмоў Совецкай Беларусі і гэтым больш небяспечных—гэта беларускіх нацыяналістаў, эсэраў і іншых здраднікаў беларускага народу.

Я зачытаю толькі адзін дакумент, адну маленькую старонку гісторыі, каб зразумець, якія агідныя двурушнікі і здраднікі тут, у Беларусі, вялі сваю подлую работу. Вось вытрымка з паказанняў Ігнатоўскага, былога прэзідэнта Беларускай Акадэміі Навук, у мінулым

актыўнага эсэра, у мінулым чалавека, які супрацоўнічаў у падрыхтоўцы і выпуску юбілейных выданняў да 300-годдзя дома Раманавых:

> «Я прызнаю, што з моманту ўступлення ў партыю я вёў свядомую падвойную палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі».

А паплечнік Ігнатоўскага нацдэм Гуткоўскі гаворыць:

> «Чым большая мяжа будзе вырыта паміж беларускім і рускім народамі, тым для беларускай культуры будзе лепш. Мы павінны апрацоўваць беларускую мову так, каб праз пяць год яна была для «расейца» зусім незразумелай».

Адзін з буйнейшых нацдэмаў прыводзіць сваю размову з Ігнатоўскім: «Калі мы пакідалі Менск, Ігнатоўскі гаварыў: «нічога, хлопцы, мы будзем тут лаяць вас, а вы з заграніцы лайце нас, а ад гэтага агульная беларуская справа толькі выйграе».

А гэты Ігнатоўскі быў кіруючым работнікам у галіне культуры і навукі Беларусі.

Які хітры і небяспечны гэты пралезшы ў партыю вораг, самы агідны, двурушніцкі вораг, які на словах за савецкую ўладу і партыю, а на справе вядзе работу так, каб адарваць ад Савецкага саюза Беларусь і аддаць беларускі народ у кабалу нямецкім і польскім панам.

Гэтыя ворагі, выкарыстоўваючы тое, што беларускі народ шмат афяр панёс на крывавых палях імперыялістычнай вайны, што царскае самадзяржаўе, памешчыкі і капіталісты давілі да руйнавання беларускі народ, выкарыстоўваючы векавую адсталасць гэтага народу, вялі палітыку на адрыў Беларусі ад Савецкага саюза, на раз'яднанне і варожасць народаў, на паднявольванне беларускага народу.

Большэвікі Беларусі, следуючы ўказанням геніяльнейшага правадыра партыі вялікага **Сталіна,** выкрылі і ўскрылі перад шырокімі масамі працоўных усю здрадніцкую контррэволюцыйную сутнасць беларускіх нацдэмаў і іх агентуры ўнутры партыі—двурушнікаў нацыянал-апартуністаў.

І з гэтымі ворагамі наша большэвіцкая арганізацыя і беларускі народ грунтоўна раздзелаліся ў 1929 годзе. Як бачыце, не так даўно гэта было. Гэта патрэбна было пераджыць беларускаму народу і ён змог гэта пераджыць, разбіць і разграміць ворагаў з дапамогай брацкіх народаў і, у першую чаргу, з дапамогай вялікага рускага пролетарыята. **(Бурныя працяжныя апладысменты).**

Таварышы, як і ўсе народы нашай вялікай савецкай радзімы, беларускі народ вядзе наша большэвіцкая партыя, вядзе наш **Сталін. Наш,** бо кожны з народаў нашай вялікай савецкай краіны лічыць, што таварыш Сталін—наш любімы бацька, наш вялікі настаўнік і правадыр. **(Бурныя апладысменты).** І калі я гавару, калі беларускі калгаснік гаворыць—наш Сталін, то мы выходзім не з якіх-небудзь нацыяналістычных пабуджэнняў, а з меркаванняў пролетарскага інтэрнацыяналізма і вялікай дружбы паміж народамі. **(Апладысменты).**

Пра Сталіна спяваеце сёння не толькі вы—паэты і пісьменнікі,— спявае кожны народ нашай вялікай савецкай краіны. **(Бурныя апладысменты).**

Таварышы, няма народу ў савецкай краіне і за межамі яе, няма народу, які не складаў-бы песень пра вялікіх нашых большэвіцкіх арлоў, якімі з'яўляюцца Ленін і Сталін. **(Бурныя апладысменты).**

Таварыш Сталін пастазіў перад усёй партыяй, перад усёй краінай найвялікшую задачу—вырошчваць кадры, дапамагаць людзям, аўладаўшым тэхнікай, любоўна, клапатліва адносіцца да нашых людзей.

Мы пабудавалі фабрыкі і заводы, маем буйную сацыялістычную гаспадарку—калгасы і соўгасы, дабіліся росквіту культуры і навукі, ідзе быстры ўздым і росквіт усіх совецкіх рэспублік.

Галоўнае і рашаючае для нас, большэвікоў, сёння—гэта новых людзей выкаваць, людзям дапамагчы, падтрымаць іх і прасунуць наперад.

Беларусь раней адзначалася сваёй культурнай і гаспадарчай адсталасцю. І пытанне аб кадрах, аб вылучэнні людзей у Совецкай Беларусі мела і мае выключнае значэнне.

Паглядзіце, як за гады соцыялістычнага будаўніцтва вырас чалавек, вырас працоўны беларус, яўрэй.

Мы цяпер можам смела сказаць, што ў Совецкай Беларусі ёсць нямала людзей, якімі можа ганарыцца совецкая краіна.

Беларусы, якія заўсёды спявалі сумныя песні гора, галечы, прыгнечання і падаўленасці,—я ўжо не гавару аб сумнай песні яўрэйскага мястэчка,—стварылі цяпер новыя песні вясёлага і радаснага жыцця.

І беларускі народ узнят да жыцця дзякуючы мудрасці і вялікай любві да ўсіх народаў нашай партыі і вялікага правадыра партыі і народаў таварыша Сталіна.

Новыя людзі расцвітаюць, новыя сілы, новыя пласты, раней нябачаныя, падымаюцца.

Некалькі дзён назад я расказваў таварышам Стаўскаму і Шчэрбакову аб размове з калгаснікамі, якія паехалі на нараду па жывёлагадоўлі ў Маскву.

Бачу—сядзяць два старыя, старыя дзяды, гадоў ім, відаць, на 65—70.

Калі я назваў прозвішча аднаго з гэтых дзядоў, раздаецца раптам гучны голас «тут».

Я пытаю, дзе ён раней працаваў, што за жыццё было.

Расказвае: «Я ў 1891 годзе прызываўся ў кавалерыйскі полк і служыў у велізарнай моцнай крэпасці».

Пытаю—у якой-жа?

— У Полацкай **(смех).**

Аказваецца, гэты стары ў 1891 годзе прызываўся ўжо ў царскую армію. Дазвольце мне дапусціць, што мала хто з вас у той час нарадзіўся—у 1891 годзе **(смех).**

Я запытаўся—як ён жыве.

Ён адказвае: «Па совесці кажучы, адносна калгасаў я раней думаў вельмі дрэнна. Што калгасы—справа добрая, гэта я адчуў толькі гадоў пяць. Ёсць у мяне ўнучак, вучыцца, ён мне ўсё растлумачыў.

Мне 65 год, і я думаў, што калгасы—гэта добра для маладых, для людзей, якія яшчэ сілы захавалі. А ў пазалеташнім годзе мне прапанавалі, як старому кавалерысту, ведаючаму каня,—у нашым калгасе людзі зналі, што я ў конях разумею,—каб я заняўся конскай гаспадаркай у калгасе. Я заняўся. Ну, і пастараўся як трэба».

А на сёнешні дзень ад 46 конематак у гэтым калгасе ёсць 46 жарабят. Гэта, таварышы, вялікая справа. Гэты стары на 65 годзе жыцця так глядзеў за коньмі, што ні адно жарабё не загінула. Ён вырасціў 46 маладых добрых коней, а гісторыя гэтых коней, можа

быць, будзе такая, што вы ў сваіх паэмах раскажаце пра тое, як гэтыя коні ў Чырвонай конніцы пройдуць палі вялікіх надыходзячых баёў і на Захадзе і на Ўсходзе. **(Бурныя доўгія апладысменты. Усе ўстаюць і наладжваюць авацыю).**

Вось другі чалавек: калгасніца—сірата з Заслаўскага раёна Антаніна Кірмашук. Месяц назад яна была ў Менску на злёце знатных людзей барацьбы за лён. Яна тады выпрацавала за дзень ручным трапаннем 50 кілограмаў ільну.

Аднойчы ў гадзіну ночы на кватэры раздаецца званок. Падыходжу да тэлефона, думаю, можна сказаць, сакратара ЦК раптам нехта трывожыць **(смех)**. Аказваецца, з Заслаўскага раёна звоняць. Жаночы голас гаворыць, што ёсць, моў, у нас, у калгасе, калгасніца Антаніна—вы яе ведаеце, рабенькая такая. Яна зрабіла вялікую справу і хоча вам першаму сказаць пра рэзультаты сваёй работы, але сароміцца. Я, як парторг калгаса, угаварыла яе. Бярэ яна трубку, чую—хвалюецца чалавек.

— Добры дзень,—гавару. Што хочаце сказаць?

— Зрабіла я, гаворыць, па трапанню ільну 115 кілограмаў за дзень.

А ведаеце, таварышы, што значыць натрапаць 115 кілограмаў ільну за дзень? У той час гэта быў усесаюзны, яшчэ неперакрыты, рэкорд. **(Апладысменты).**

Потым я сустрэўся з Антанінай Кірмашук тут, у Менску, куды яе выклікалі, пагаварылі з ёю. Што рушыла яе ў гэтай справе?

Паставіла яна сабе задачу так працаваць, каб паехаць адсюль з Беларусі ў Маскву, убачыць і пацiснуць руку таварышу Сталіну. **(Бурныя апладысменты).**

Гэтыя прыклады я прывёў не таму, што яны асабліва характэрныя для Беларусі—у любым народзе савецкім, на снежных гарах Каўказа, на Урале, у велізарных стэпах Казахстана, у гарачых ад сонца пясках Сярэдняй Азіі, у Далёкай Сібіры, растуць, узнімаюцца людзі, якія па сваіх адносінах да працы—людзі новыя, людзі комуністычнага грамадства.

Таварышы, я павінен прама сказаць, што калі з гэтымі людзьмі сустракаешся ў практыцы сваёй работы, то часамі сябе адчуваеш кепскавата **(Смех)**. А ведаеце чаму? Таму, што адчуваеш і пытаеш сябе ўнутрана, крытычна, а чорт яго ведае—ці не адстаеш ад гэтых людзей... **(Апладысменты).** Мы часамі не ўсе адразу можам зразумець усю празорлівасць і геніяльнасць указанняў таварыша Сталіна, а ўжо калі практык падпірае, калі новыя людзі з новымі, павышанымі запросамі і патрабаваннямі да кіраўніцтва паяўляюцца, тады думаеш—як-жа ты раней не прадумаў, не адчуў, не зразумеў усёй велічы геніяльных праніцальных слоў таварыша Сталіна. Калі-б лепш зразумеў раней, то і на сёнешні дзень лепш-бы справіўся з кіраўніцтвам. **(Апладысменты).**

Паглядзіце, як нашы заводы і фабрыкі, рабочыя Менска рыхтаваліся цёпла і гасцінна спаткаць вас—пісьменнікаў і паэтаў Савецкага саюза.

На прадпрыемствах і заводах—велізарны попыт на вашы творы. Рабочыя з выключнай любоўю адносіліся да таго, што вы прыдзеце, раскажаце аб вашых творах, аб вашай творчасці, азнаёміцеся з іх работай на фабрыцы, на заводзе. Няма ні аднаго прадпрыемства

ў Менску, дзе-б людзі не рыхтаваліся вас сустрэць, не чыталі-б вашых твораў. Гэта гаворыць аб тым, як совецкі народ культурна вырас, як ён любіць і ведае літаратуру і паэзію.

Паглядзіце на людзей мастацтва—артыстаў. Паказалі вам тут п'есу «На купалле». Наш беларускі першы дзяржаўны тэатр усяго 7 дзён працаваў над гэтай рэччу і тры разы п'есу перарабляў. За два-ж дні да пленума ССП мы ў ЦК партыі абмяркоўвалі і рашылі, што п'есу «На купалле», у якой былі элементы нацдэмаўшчыны, патрэбна перарабіць. І тады паэт Александровіч разам з работнікамі тэатра за адну ноч перарабіў гэту п'есу для таго, каб вы яе ўбачылі. **(Апладысменты).**

Паглядзіце, з якім велізарным напружаннем, сапраўды стаханаўскім гераізмам і жаданнем ва што-б там ні стала даць за кароткі тэрмін высокаякасную пастаноўку працавалі работнікі нашага тэатра—артысты. Людзі перажывалі гэту справу, падняліся.

Хіба гэта не новыя адносіны да працы хоць-бы работнікаў мастацтва? Хіба гэта не новыя людзі, якія працуюць па-новаму?

Хіба гэта не характарызуе, як людзі ўзнімаюцца і ў галіне мастацтва, тэатра? Я не буду гаварыць тут пра стаханаўцаў—выдатных людзей, якія дзесяткамі і сотнямі растуць у нашай прамысловасці, як браты Скабло, Лучкоўскі, Рушко, Хвашчэўскі, Семянідава, Харнас, Дыдо і многія іншыя.

Вазьміце нашых рабочых-вынаходцаў. Каваль віцебскай шчотачнай фабрыкі т. Гофман пабудаваў новыя машыны, такія машыны, якіх яшчэ няма за рубяжом, у капіталістычных краінах. **(Апладысменты).**

Прыязджалі немцы нядаўна да нас; яны да яго звярнуліся—ці нельга атрымаць ваша вынаходніцтва? Ён гаворыць—я комуніст, у мяне ёсць партыя; партыя скажа, што патрэбна вам даць, калі ласка, дам. **(Апладысменты).**

Гэты вынаходца быў на службе ў Чырвонай арміі ў танкавых часцях і даў цэлы рад каштоўных вынаходстваў для ваеннай справы, для ўмацавання абароны совецкай краіны. **(Апладысменты).**

Наша беларуская літаратура і паэзія, яе лепшыя прадстаўнікі і ўвесь калектыў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў за апошнія гады, асабліва за апошнія два-тры гады, значна выраслі.

Нашы пісьменнікі і паэты пачынаюць рассоўваць рамкі нацыянальнай тэматыкі, выходзіць на больш шырокую арэну, пераходзяць да тэматыкі, звязанай з жыццём іншых народаў нашага Совецкага саюза. Нашы паэты і пісьменнікі ад некаторых сваіх ранейшых недахопаў, магчыма ад нацыянальнай абмежаванасці, пачынаюць пазбаўляцца і таму яны пачынаюць у агульнай сям'і пісьменнікаў і паэтаў Совецкага саюза так слаўна расці.

Апошнія творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Александровіча робяць велізарнае ўражанне. Добрыя творы далі і іншыя пісьменнікі і паэты Совецкай Беларусі—Харык, Броўка, Лынькоў і інш. Паэтычная шчырасць, праўда новага жыцця, хараство і музыка слова у іх апошніх творах моцна гучаць. Гэта сведчыць пра тое, што жыццё ўсяго беларускага народу—гэта новае, прыгожае, гучнае, бадзёрае і радаснае жыццё. **(Бурныя апладысменты).**

З ростам людзей новых, якія растуць па-сталінску, стаханаўцаў, людзей мастацтва і літаратуры, што ўсю сваю энергію, волю, усе





свае фізічныя і духоўныя сілы аддаюць нашай совецкай радзіме і вялікай справе соцыялізма, нам самім, партыйным кіраўнікам, трэба моцна расці.

Калі мы не прадумаем да канца ўсёй мудрасці і глыбіні ўказання таварыша Сталіна аб кадрах, аб людзях, якія аўладалі тэхнікай і па-новаму адносяцца да вытворчасці, да працы, калі мы не справімся з нашым агульным ростам, як партыйныя кіраўнікі, будзе для нас дрэнна.

Зараз, калі пры велізарным уздыме ў нашай совецкай краіне мы змагаемся за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства, партыйным кіраўнікам, якія непасрэдна займаюцца практычнай работай, кіраўніцтвам, вырашэннем пытанняў у галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, нельга не расці.

Кожны з нас, хто не будзе працаваць над сабой, хто не будзе расці ў ідэйна-тэарэтычных, палітычных, культурных адносінах, хто не будзе ўзнімацца, хто будзе важнічаць і фанабэрыцца дасягнутымі поспехамі,—будзе няўхільна адставаць і адыходзіць ад жыцця.

Мы, большэвікі, працуючыя на граніцы, лічым, што вам, пісьменнікам і паэтам совецкай краіны, трэба стаханаўскі рух і новых растучых людзей не толькі адлюстроўваць у сваёй творчасці, у сваіх творах, але і ўлічваць з пункту погляду таго, як патрэбна сёння працаваць.

Наша літаратура—совецкая літаратура—самая прынцыповая, самая рэволюцыйная, самая праўдзівая і паслядоўная літаратура ў свеце. Наша літаратура займае самае передавое месца ў свеце, як літаратура і паэзія самага перадавога і рэволюцыйнага класа—рабочага класа. Гэта ясна.

Але, таварышы, не трэба забываць, што людзі растуць, наша краіна расце і вам, інжынерам чалавечых душ, патрэбна бачыць, што адбываецца сёння з чалавекам.

Я гавару аб велізарнай зацікаўленасці літаратурай на заводах, калгасах, аб любві народу да вас—тварцоў гэтай літаратуры.

Новыя растучыя людзі—стаханаўцы прамысловасці, сельскай гаспадаркі, пагранічнікі, байцы Чырвонай арміі выраслі і растуць культурна і прад'яўляюць павышаныя патрабаванні да літаратуры і паэзіі. Гэта абавязвае вас самакрытычна адносіцца да сваёй работы, да сваіх твораў, працаваць яшчэ больш над кожным творам.

Знайдзіце такога чалавека—я гавару нават пра нас саміх, пра партыйных работнікаў, якія моцна праводзяць у жыццё лозунг таварыша Сталіна аб самакрытыцы,—які любіў-бы накіраваную на яго самога крытыку і самакрытыку. Такіх выпадкаў я, наогул кажучы, не сустракаў. **(Смех, апладысменты).**

Можна не любіць асабіста аб сабе самакрытыку, можна на самакрытыку рэагаваць па-рознаму, але патрэбна галоўнае разумець, што ў нашай совецкай краіне на любым участку работы без самакрытыкі нельга ісці наперад. У нас, непасрэдна працуючых на партыйнай рабоце, і вопыт па частцы самакрытыкі большы, чым у вас **(смех),** і прывычка да ўздзеяння самакрытыкі—большая, і уменне рэагаваць на самакрытыку—большае, чым у вас. Пастарайцеся і вы да гэтага прывыкаць. Патрэбна і вам аўладаць большэвіцкай самакрытыкай, як асноўнай зброяй, і разгортваць яе.

Выступленні пісьменнікаў і паэтаў на пленуме паказваюць вялікі рост не толькі творчы, але і палітычны.

Гэты рост выражаецца і ў тым, што вы пачынаеце разгортваць самакрытыку і ў кожным вашым выступленні, калі вы гаворыце аб партыі, аб граніцы, аб абароне нашай радзімы.

Калі вы адлюструеце стаханаўскі рух і велізарны рост нашай краіны, калі вы будзеце разгортваць самакрытыку, неаслабна працаваць над кожным творам, то разам з усёй совецкай краінай вы будзеце моцна крочыць наперад. Наша совецкая літаратура і паэзія будзе самай лепшай у свеце літаратурай і паэзіяй.

Наша партыя і ўсе народы Совецкага саюза дапамагаюць і будуць усямерна і ўсебакова вам дапамагаць. Велізарнае значэнне мае работа па перакладах, якую неабходна значна ўзмацніць.

Неабходна, развіваючы і ўзнімаючы мову кожнага народу совецкай краіны, зрабіць шляхам перакладаў творчасць пісьменнікаў і паэтаў кожнага народу здабыткам усіх народаў вялікага Совецкага саюза.

Мы выказваем шчырую падзяку ад беларускага народу і нашай большэвіцкай арганізацыі тым пісьменнікам і паэтам іншых народаў нашай краіны, якія любоўна, з усёй шчырасцю, лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў і паэтаў робяць здабыткам вялікага рускага народу і ўсіх іншых народаў Совецкага саюза. **(Апладысменты).**

Таварышы, я не магу не прынесці сардэчную найглыбейшую падзяку вам, пісьменнікам і паэтам, і за гэту велізарную дапамогу, якую вы аказалі нам тым, што пабывалі на нашых прадпрыемствах, заводах, бачылі нашу Совецкую Беларусь і беларускі народ. Кожны з рабочых, калгаснікаў, нашых работнікаў, якія бачылі і чулі тут вас, будзе не толькі яшчэ лепш і больш чытаць і цаніць вашы творы, але возьмецца яшчэ мацней за вялікую справу будаўніцтва соцыялізма і абароны нашых заходніх граніц. **(Апладысменты).**



Ініцыятыва тав. Эйдэмана, які прапанаваў стварыць альбом з подпісамі, урыўкамі прозы і вершаў усіх пісьменнікаў і паэтаў, якія прысутнічаюць на пленуме, гэта надзвычай вялікая справа. Гэты альбом з подпісамі кожнага пісьменніка і паэта Совецкага саюза застанецца ў нас, у Беларусі, як сцяг вялікай дружбы народаў, і кожны калектыў рабочых і калгаснікаў будзе змагацца за тое, каб сваёй работай заваяваць высокі гонар на атрыманне і захаванне гэтай кнігі—альбома ўсёй совецкай літаратуры і паэзіі. Гэта—найвялікшая справа. **(Апладысменты).**

Таварышы, мы абавязваемся вашы прыгожыя творы і подпісы, якія будуць у гэтым альбоме, хаваць, як зяніцу вока. **(Апладысменты).**

Гэты альбом мы захаваем і для пакаленняў. Цяперашнія піонеры, окцябраты, грамадзяне вялікай совецкай краіны, якія нараджаюцца цяпер, можа быць, праз дзесяткі год будуць глядзець і чытаць вашы подпісы, пажаданні, вершы, напісаныя ў дні, калі мы будавалі і абаранялі соцыялізм тут, на заходніх граніцах Совецкага саюза. **(Апладысменты).**

Таварышы, я паказаў вельмі маленькі кавалачак жыцця Совецкай Беларусі, таго, як раней прыгнечаны і адсталы беларускі народ прышоў да росквіту сваёй культуры і гаспадаркі.

Таварышы, кожны рабочы, калгаснік, культурны работнік, кожны з нас, усе совецкія народы і рабочыя, працоўныя любога нар-



які знаходзіцца за межамі совецкай краіны, ведаюць і думаюць аб тым вялікім чалавеку, які кожнаму з народаў вялікага Совецкага саюза, кожнаму з нас з найвялікшай любоўю і цеплынёй ва ўсіх вялікіх і малых справах нашых дапамагае, які з геніяльнай празарлівасцю і мудрасцю кіруе намі і вядзе нас да светлага будучага ўсяго чалавецтва—комунізма.

І таму кожны паэт і пісьменнік не можа не натхняючыся думаць і пісаць, як не можа і кожны з нашых рабочых, калгаснікаў, працоўных, як не можа любы народ не любіць і не пець вуснамі ўсяго народу хвалу любімаму, мудраму, найвялікшаму з людзей таварышу Сталіну. **(Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Воклічы: «Няхай жыве наш Сталін!»).**

---

Д. Валковіч

Сакратар ЦК КП(б)Б

# Палітычныя вынікі праверкі партдакументаў па КП(б)Б*)

Праверка партыйных дакументаў, прадпрынятая па ініцыятыве таварыша Сталіна, выцякала з таго, што былі ўскрыты шматлікія факты, калі ворагі партыі, рабочага класа карысталіся доступам да партыйных дакументаў, атрымалі партыйныя білеты і, прыкрываючыся імі, вялі гнусную работу па падрыву справы партыі і савецкай дзяржавы. Таму ЦК партыі паставіў перад партыйнымі арганізацыямі задачу—у бліжэйшы час навесці поўны парадак у гэтай справе, устанавіць сапраўдную колькасць членаў і кандыдатаў партыі, наладзіць іх правільны ўлік, трымаць у захаванасці партыйныя білеты, безумоўна знішчыць сваявольства ў справе выдачы партбілетаў, выключыць усякую мажлівасць пранікнення ў партыю чуждых і варожых людзей.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам і пры штодзеннай дапамозе ЦК ВКП(б), асабліва тт. Ежова і Маленкова, завяршыла праверку партыйных дакументаў. Праароблена велізарнейшай важнасці работа, якая адрозніваецца ад усіх папярэдніх работ апошняга часу тым, што мы вялі непасрэдную барацьбу за ўмацаванне ўсёй нашай партыі і кожнай паасобнай партыйнай арганізацыі, выяўляючы і выганяючы з яе большэвіцкіх радоў усякіх чужакоў, прамых ворагаў, шпіёнаў, белагвардзейцаў, двурушнікаў, усіх прымазаўшыхся і пасіўных людзей, якія нявартыя насіць вялікае пачэснае званне члена партыі Леніна—Сталіна.

У гэтай барацьбе за непахіснасць сталінскага статута, за чыстату радоў нашай партыі, за высокую ідэйнасць, прынцыповасць і непрымірымасць да ворагаў, двурушнікаў, да ўсякага роду прытаіўшыхся, контррэвалюцыйных падонкаў са змяіным жалам, да трацкісцка-зіноўеўскага белагвардзейскага ахвосця—наша партарганізацыя і галоўным чынам яе кіраўнікі прашлі вялікую палітычную школу і набылі агромнейшы вопыт ідэйнага выхавання комуністаў. Няма больш высокага гонару для партыйных работнікаў і кожнага члена партыі, як барацьба за партыю Леніна—Сталіна.

Праходзячы гэту сур'ёзнейшую школу барацьбы за партыю, безумоўна не кожная партыйная арганізацыя, не кожны яе кіраўнік,

*) З даклада на пленуме ЦК КП(б)Б.

закончылі яе, так сказаць, з аднолькавымі адзнакамі. Мы ведаем, што ў працэсе барацьбы за чыстату радоў партыі сёй-той з партыйных кіраўнікоў паказаў сябе не зусім на вышыні свайго становішча.

Праверка партдакументаў адначасова з'яўлялася і праверкай таго, наколькі кожны з нас здольны быць сапраўдным кіраўніком партыйнай арганізацыі.

І трэба прама сказаць, што кожны з нас, партыйных работнікаў, праводзячы гэтую велізарнейшую работу, што называецца ўбачыў сябе, усвядоміў свае недахопы, сваю палітычную і культурную адсталасць, няведанне і забыццё арганізацыйных прынцыпаў нашай партыі, а галоўнае—зусім недастатковую пільнасць і недапушчальную самасупакоенасць.

Адны з кіраўнікоў партыйных арганізацый адразу пасля рашэння ЦК ВКП(б) па Заходняй абласці і цэламу раду іншых арганізацый аб адмене праверкі здолелі ацаніць палітычную сутнасць гэтага мерапрыемства і па-сапраўднаму прыступіць да ачысткі радоў партыі ад чуждых і класава-варожых элементаў, выяўлення і выхавання новага актыва.

Другія, не гледзячы на дапамогу Цэнтральнага Камітэта, да самага апошняга часу не здолелі правесці работу так, як гэтага патрабаваў ЦК ВКП(б).

Прымаючы партыйныя арганізацыі, бюро ЦК выносіла па кожнай спецыяльнае рашэнне з ацэнкай палітычнага становішча партыйнага кіраўніцтва, таму кожны сакратар райкома партыі ведае аб сваіх промахах.

Прымежнае становішча БССР, наяўнасць у ёй усякага роду нацыяналістычных элементаў і рэштак розных разгромленых контррэвалюцыйных партый (эсэраўскай, бундаўскай і інш.), падрыхтоўка вайны супроць Савецкага саюза нямецкім і польскім фашызмам, іх дзейнасць па падрыву нашага сацыялістычнага будаўніцтва—усе гэтыя акалічнасці патрабавалі ад КП(б)Б выключнай палітычнай завостранасці і ўвагі ў правядзенні праверкі партыйных дакументаў. ЦК ВКП(б) спецыяльна займаўся нашай рэспублікай, як прымежнай, дапамагаў і ўказваў, як трэба правесці гэту работу. У выніку наша КП(б)Б правяла праверку партдакументаў на высокім палітычным узроўні.

Матар'ялы праверкі настолькі багаты, разнастайны і цікавы, што над імі прыдзецца яшчэ многа папрацаваць. Яны і ў далейшым дапамогуць нам паставіць цэлы рад пытанняў у сувязі з нашым пагранічным становішчам і нацыянальнымі асаблівасцямі, навучаць членаў партыі, як шукаць ворагаў, якімі шляхамі яны прабіраюцца ў партыю, якімі метадамі змагаюцца супроць рэволюцыі.

Праверка партдакументаў як-бы падзяляецца на два этапы.

Першы этап характэрны тым, што многія партыйныя арганізацыі, асабліва сакратары райкомаў, не зразумелі палітычнага сэнсу дырэктывы ЦК ВКП(б) ад 13 мая і звялі праверку партдакументаў да простай тэхнічнай зверкі.

Цэлы рад партарганізацый супакойваўся тым, што ў нас усё добра, што мы пераможна рухаем уперад справу будаўніцтва соцыялізма і можам крыху запусціць партыйную гаспадарку, менш пільна захоўваць статут партыі, бо ў гэтым цяпер няма асаблівай патрэбы.

Аднак, якраз у гэтым і заключаецца асноўная прычына таго,

чаму рад партарганізацый не ўсвядоміў усёй сур'ёзнасці і вострасці дырэктывы ЦК ВКП(б) аб прывядзенні ў парадак нашай партыйнай гаспадаркі.

Дабрадушша і самасупакоенасць вынікаюць з таго, што многія з нас забылі вучэнне Леніна—Сталіна аб класавай барацьбе ў перыяд дыктатуры пралетарыята і ў перыяд пераможнага руху к соцыялізму.

У сваім прывітанні венгерскім рабочым Ленін пісаў, «што пасля ўстанаўлення дыктатуры пралетарыята класавая барацьба не зні кне, а толькі зменіць свае формы, робячыся ва многіх адносінах яшчэ больш жорсткай»

Тав. Сталін у 1933 г. на пленуме ЦК і ЦКК з усёй рэзкасцю адзначыў:

> «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць Совецкай улады».

З гэтага вучэння Леніна—Сталіна выцякае, што самае небяспечнае для пралетарыята, для яго партыі—пайсці па шляху самасупакоенасці. Там, дзе самасупакоенасць бярэ верх, ствараюцца найлепшыя магчымасці актывізацыі і пранікнення ворага ў партыю, у дзяржаўны апарат, ва ўсе поры совецкага гаспадарчага арганізма: на прадпрыемствы, у соўгасы, калгасы, навуковыя ўстановы і т. д.

Вось чаму тав. Сталін з такой рэзкасцю паставіў на XVII партз'ездзе пытанне аб неабходнасці барацьбы з самасупакоенасцю і дабрадушшам: «Няма нічога небяспечней падобных настрояў, бо яны раззбройваюць партыю, дэмабілізуюць яе рады. Калі такія настроі пераважаюць у нашай партыі, мы можам апынуцца перад пагрозай зрыву ўсіх нашых поспехаў».

Гэтага некаторыя партыйныя арганізацыі не зразумелі, а таму і не ацанілі палітычнага сэнсу праверкі партыйных дакументаў, прывядзення партыйнай гаспадаркі ў належны парадак.

Другая прычына—нізкі палітычны ўзровень некаторых партыйных арганізацый і іх кіраўнікоў, што ў вялікай меры зніжае іх палітычную чуткасць. Іменна гэтай акалічнасцю тлумачыцца тое, што ў вельмі многіх комуністаў пераважаў дзяляцкі падыход да такога важнейшага палітычнага мерапрыемства, як праверка партыйных дакументаў. Члены партыі, а тым больш—кіраўнікі, павінны быць настолькі чуткімі ў палітычным сэнсе, каб умець адразу па-партыйнаму зразумець кожнае рашэнне партыі, кожны кіруючы артыкул «Праўды», «Звязды» і правільна рэагаваць на кожную з'яву, якая адбываецца ў калгасе, на прадпрыемстве, на любым участку нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Праверка партдакументаў выявіла, што такой чуткасці няма ў многіх членаў партыі, і гэта павінна паслужыць для нас вельмі сур'ёзным урокам.

Трэцяя прычына—надзвычай жорсткае супраціўленне класавага ворага, якое выразілася ў пэўным націску яго на паасобныя партыйныя арганізацыі.

Класавы вораг зразумеў адразу, што праверка партыйных даку-

ментаў ёсць самая вострая зброя, накіраваная супроць яго. Ён зразумеў, што калі гэтую зброю партыйная арганізацыя правільна выкарыстае, яна выкрые яго і выкіне са сваіх радоў, як ярага ворага партыі, совецкай улады і дыктатуры пролетарыята. Пралезшы ашуканчым шляхам у партыю, класавы вораг усімі мерамі пачынае супраціўляцца прывядзенню ў парадак партыйнай гаспадаркі.

На першай стадыі праверкі класавы вораг з партыйным білетам у кішэні імкнецца звесці гэтую справу да тэхнічнай зверкі, заяўляючы: «Гэта-ж не чыстка партыі. Партбілет у мяне ў парадку, картка ў парадку,—значыць усё ў парадку. Што-ж вы пытаеце мяне, чаго прыдзіраецеся, чаго хочаце ад мяне?» Так многія ставілі пытанне.

Другая форма супраціўлення—кругавая парука. Усякія выхадцы з іншых партый, чуждыя людзі з контррэволюцыйным мінулым і багатым вопытам барацьбы супроць нашай партыі і дыктатуры пролетарыята ведалі, што для іх нясе праверка, і таму ўсімі мерамі стараліся скалаціць кругавую паруку, каб незаўважанымі праскочыць праз праверку.

Трэцяя форма—праяўленне класавым ворагам паказной актыўнасці. У гомельскай і віцебскай партарганізацыях трацкісцка-зіноўеўскае контррэволюцыйнае ахвосце, убачыўшы, што так ці інакш яго выкрыюць, паспрабавала апошні сродак—зрабіцца актыўным. Многія з гэтых людскіх падонкаў пачалі «дапамагаць» сакратару, бюро райкома ў праверцы. Даведаўшыся загадзя аб выкрытых асобах, пісалі на іх заявы, каб адвесці ад сябе ўвагу і самім праскочыць праверку. Не ўсе партарганізацыі і іх кіраўнікі зразумелі гэтыя манэўры класавага ворага, не ўсе яны здолелі выявіць і выкрыць яго варожы твар.

Вось, прыкладна, прычыны, якімі можна тлумачыць, чаму на першым этапе праверкі многія партыйныя арганізацыі не зразумелі палітычнага сэнсу ліста ЦК ВКП(б).

Другі этап пачынаецца з таго часу, калі нашы партыйныя арганізацыі—адна раней, другая пазней—па-сур'ёзнаму, па-сапраўднаму ўзяліся за ачыстку сваіх радоў. Але гэта далося не адразу.

Цэнтральным камітэтам ВКП(б) і КП(б)Б прышлося яшчэ многа папрацаваць для таго, каб уся партыйная арганізацыя зразумела неабходнасць і важнасць праверкі партыйных дакументаў. ЦК КП(б)Б адмяніў праверку па 21 партарганізацыі поўнасцю і па вельмі многіх—часткова. Каб дабіцца сапраўды большэвіцкай работы, ЦК КП(б)Б амаль штодня займаўся партарганізацыямі: слухаў іх на бюро, выклікаў у АКПО і т. д.

Пасля нарады ў ЦК ВКП(б), якою кіраваў тав. Ежоў, мы склікалі сваю нараду і вельмі рэзка паставілі пытанне аб большэвіцкім разгортванні работы. Тады нашы партарганізацыі пачалі раскачвацца.

АКПО стаў нашым партыйным штабам, калі можна так выразіцца. Тав. Рубінштэйн, як яго начальнік, паказаў партыйную вострасць і палітычную пільнасць у кіраўніцтве праверкаю партдакументаў.

ЦК, асабліва АКПО, прышлося надзвычай востра гаварыць з радам таварышоў. Трэба сказаць, што спачатку многія сакратары РК не зусім разумелі такую пастаноўку пытання, сярод іх былі непартыйныя настроі. Але ЦК зрабіў усё ад яго залежнае для таго,

каб больш вывучыць людзей і менш рабіць оргвывадаў, больш папраўляць і менш знімаць.

Такая пастаноўка справы дала магчымасць захаваць нашы кадры, узняць іх палітычна вышэй і разам з тым ачысціць рады партыі ад ворагаў, як гэтага патрабаваў ліст ЦК ВКП(б).

* * *

Ленін—Сталін заўсёды вучылі нашу партыю як ахоўваць яе ад пранікнення ўсякага роду чуждых элементаў. Праводзіліся неаднаразовыя чысткі, асабліва ў перыяд, калі наша партыя стала на чале ўлады. Апошняя чыстка праводзілася зусім нядаўна—у 1933 г. Калі мы прагледзім цяпер вопыт чысткі ў 1933 г. і параўнаем яго з вопытам праверкі партыйных дакументаў, то ўбачым характэрныя асаблівасці праверкі як у метадах, так і ў выніках самой работы.

У чым-жа яны заключаюцца?

Па-першае, у тым, што чыстку праводзіў не партыйны апарат, а спецыяльныя камісіі, якімі кіравала ЦКК РСІ. Кожны з партыйных работнікаў ведае, што партыйны апарат па сутнасці стаяў у баку ад чысткі. Праверка-ж партыйных дакументаў праведзена выключна партыйным апаратам пры актыўным удзеле усёй партарганізацыі і яе кіраўнікоў, якія ведаюць сваю гаспадарку. Адсюль і высокая якасць праведзенай работы.

Па-другое, у тым што мы не толькі выкрылі і выгналі з партыі ворагаў, але адначасова выявілі выдатнейшых большэвікоў, невычэрпны рэзерв сапраўды большэвіцкіх кадраў, якога партыйныя арганізацыі раней не заўважалі. Гэта вельмі важная акалічнасць станоўча адрознівае праверку партыйных дакументаў ад папярэдніх **чыстак.**

І нарэшце ў тым, што мы маем агульны ўздым партыйнай работы на аснове вывучэння членаў партыі, праверкі іх работы не па анкетах, а на жывой канкрэтнай справе.

Прывяду некаторыя лічбовыя вынікі праверкі партыйных дакументаў па КП(б)Б. Выключана па ўсёй КП(б)Б членаў партыі 15,4% і кандыдатаў 20,5%, а ўсяго 16,9%. Пры чыстцы 1933 года таксама было выключана каля 17%, але потым, у працэсе апеляцыі, адноўлена прыблізна 3—4%.

Гэта даныя без транспарту. Па чыгуначных партыйных арганізацыях 5-ці палітаддзелаў выключана: членаў партыі 23,2% і кандыдатаў 33,8%, а ўсяго 26%.

Чаму ў нашы рады пранікла такая вялікая колькасць класавароўжых элементаў?

У перыяд, калі ў нашай краіне партыя разгарнула план вялікіх работ, арганізавала наступленне соцыялізма па ўсяму фронту, класавы вораг перашоў да іншых форм і метадаў барацьбы. Выхадцы з нэпманаў і кулакоў, усякага роду прахадзімцы, змагаючыся супроць дыктатуры пролетарыята, мяняюць тактыку і ціхаю сапай імкнуцца прабрацца ў партыю, каб, прыкрыўшыся партбілетам, прадаўжаць сваю контррэволюцыйную работу.

У гэты час на прадпрыемствы прабіраецца вялікая колькасць былых кулакоў і нэпманаў, якія бачаць, што ў Совецкім саюзе для іх больш не знойдзецца патрэбнай праслойкі людзей, на якіх можна было-б абаперціся ў сваёй контррэволюцыйнай рабоце, бо апошняя іх апора, кулацтва, ліквідавана.

Вось чаму якраз да гэтага часу і адносіцца такая значная колькасць уступленняў у партыю класава-чуждых людзей.

З другога боку, пераможны поступ соцыялізма, нашы поспехі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва сяму-таму з кіраўнікоў партыйных арганізацый ускружылі галаву. Яны пачалі разважаць так, што паколькі кулацтва як клас ліквідавана, то і класавая барацьба не павінна разгортвацца, а значыць няма асаблівай патрэбы цвёрда прытрымлівацца партыйнага статута.

У гэты час, як ніколі ў гісторыі нашай партыі, парушэнне статута набывае прама пагражаючы характар, як гэта можна бачыць цяпер, пасля праверкі партдакументаў. У партыю прымалі людзей цэлымі групамі, пачкамі. Класавы вораг скарыстаў наша ратазейства. Ён прабіраўся на прадпрыемствы, рабіўся «ударнікам» і пранікаў у партыю.

Такім чынам пранікалі ў партыю і шпіёны. Мы ведаем, што шпіёны ў барацьбе супроць нас не пагарджаюць ніякімі метадамі, але зусім недапушчальная справа, калі гэтыя шпіёны маюць у кішэні партбілеты. Здарыцца гэта магло толькі таму, што мы самасупакоіліся, забыліся аб асноўных арганізацыйных прынцыпах статута нашай партыі, забыліся аб тым, што пры прыёме ў партыю патрэбна асаблівая пільнасць.

Пасля праверкі партдакументаў і выдачы новых партыйных білетаў мы ні ў якім разе не павінны дапусціць, каб у партыі засталіся яшчэ людзі, якія пралезлі ў яе рады са спецыяльнай шпіёнскай мэтай.

Другая група выкрытых і выключаных з партыі—гэта эсэраўскія і нацдэмаўскія элементы.

Не прыходзіцца многа гаварыць аб тым, што эсэры з'яўляюцца самымі заядлымі ворагамі нашай партыі, што яны ўвесь час, асабліва ў перыяд брэсцкага міру, актыўна змагаліся супроць пролетарскай рэволюцыі, супроць нашай партыі. Там, дзе ім удавалася захапіць уладу, яны самым жорсткім чынам распраўляліся з партыйнымі савецкімі работнікамі (а паўстанні эсэраў былі часты і на Беларусі і на тэрыторыі ўсяго Саюза).

Чаму пытанне аб эсэрах асабліва ўсплыло ў нас, у беларускіх умовах? Таму, што на Беларусі, у той час як яна прадстаўляла сабою фронт, эсэры мелі значную арганізацыю. Будучы выкрыты як ворагі народу, эсэры ў нацыянальных рэспубліках сталі часта прыкрывацца нацыянальным флагам. Пад гэтым флагам яны арганізоўвалі ўсемагчымыя групы, стваралі нацдэмаўскія гурткі пад выглядам «Зарніцы» і т. п. Вядомы махровы эсэр Ігнатоўскі стварыў так званую «Беларускую комуністычную арганізацыю».

У гэты перыяд эсэраўскія элементы ва многіх буйных раённых цэнтрах Беларусі (Сянно, Орша, Горкі, Слуцк, Карма і інш.) узнімалі паўстанні, арганізоўвалі баявыя эсэраўскія дружыны і ўсімі мерамі па заданню ЦК эсэраў, каб не даць нам магчымасці ўмацаваць маладую яшчэ совецкую рэспубліку, спрабавалі сарваць палітыку міру, якую праводзіла тады наша партыя.

Палітыка партыі, палітыка Леніна ў 1918 г. была накіравана на заключэнне брэсцкага міру. Перад падпольнымі комуністычнымі арганізацыямі пастаўлена была задача—павесці сярод нямецкіх салдат палітычна разлагаючую работу. А эсэры ўсемагчымымі спосабамі спрабавалі сарваць брэсцкі мір, каб нанесці нам удар.

Калі дыктатура пролетарыята перамагла, эсэры мяняюць формы барацьбы. Скрываючы сваё эсэраўскае мінулае, яны пралазяць у нашу партыю, каб прадаўжаць у ёй свае контррэволюцыйныя справы. Цяпер гэтыя эсэраўскія элементы хочуць прадставіць сваю контррэволюцыйную барацьбу супроць совецкай улады пры нямецкай акупацыі ў такім святле, што яны арганізоўвалі паўстанцкія дружыны нібы для таго, каб «змагацца за ўмацаванне совецкай улады».

Прышчэпаў у 1918 г. узначальваў паўстанне ў Сянно. Эсэры расстрэльвалі тады чырвонаармейцаў. Аднойчы, каб справакаваць немцаў на вайну, яны захапілі ні ў чым непавінных нямецкіх самакатчыкаў і расстралялі іх на нейтральнай зоне. Прышчэпаў тады камандваў палком. Пад кіраўніцтвам цэнтральнага камітэта эсэраў ён праводзіў яўна варожую работу супроць совецкай улады. У канцы 1918 г. Прышчэпаў трапляе ў партыю і пачынае хутка прасоўвацца. Ён нарком, ён член бюро ЦК. Ён, што называецца,—да самага канца праводзіў на практыцы эсэраўскую праграму ў пытаннях зямельнай палітыкі.

Другая яркая фігура—Іваньковіч. Займаў адказнейшыя пасты, працаваў у газетах, а ў апошні час у Белдзяржвыдавецтве. Гэта таксама ўдзельнік паўстання разам з Прышчэпавым. У сваіх паказаннях ён заяўляе, што да апошняга дня праводзіў контррэволюцыйную эсэраўскую работу:

«У партыю я ўступіў у сакавіку 1919 года па рэкамендацыі Прышчэпава. Пры чым у анкетах пры ўступленні ў партыю свой удзел у паўстанні скрыў. Паручыцельства Прышчэпава за мяне ў партыі я разглядаў як прыкрыццё эсэраўскага паўстання, а таксама як тое, што Прышчэпаў абавязан быў мне за маю эсэраўскую работу з ім, будучы рэдактарам газеты, г. зн. паручыцельства Прышчэпава пры маім уступленні ў партыю з'яўляецца актам кругавой парукі».

... «На працягу ўсіх год прабывання ў партыі я заставаўся ідэйным эсэраўцам, з эсэраўшчынай не парваў, а калі і былі паасобныя перыяды, калі я імкнуўся пакончыць з эсэраўскімі пераконаннямі, дык гэта мне не заўсёды ўдавалася. Яны заўсёды бралі верх, і я такім і застаўся».

Характэрнай асаблівасцю эсэраў наогул з'яўляецца ўпартае скрыванне сваёй прыналежнасці да эсэраўскай партыі. А калі некаторыя з іх не маглі гэтага зрабіць, то звычайна пісалі, што, моў, «быў яшчэ пры Керэнскім у арміі, два-тры месяцы блытаўся з эсэрамі».

Так, напрыклад, было з Брыгневічам, які ўвесь час займаў адказныя пасады: сакратара райкома, начальніка палітаддзела, намесніка наркамасветы, намесніка старшыні Дзяржплана.

Дакументамі ўстаноўлена (і Брыгневіч сам гэта прызнаў), што ён не выпадкова трапіў у партыю эсэраў у 1917 годзе.

Пры Керэнскім эсэр Брыгневіч абіраецца ў корпусны салдацкі камітэт. У час Окцябрскай рэволюцыі—камісарам палка (відавочна, у захопленых эсэрамі вайсковых часцях). Затым ён арганізатар дружыны, г. зн. вельмі актыўны эсэр. Але як толькі прышлося перайсці на бок совецкай улады ў канцы 1918 г., Брыгневіч робіцца справаводам павятовага АНА, потым школьным работнікам, потым наццэм Баліцкі перацягвае яго ў менскі акрАНА. Далей Брыгневіч пачынае прасоўвацца. Успамінаюцца яго «заслугі». Дазвольце, кажуць: пры Керэнскім ён-жа ўвесь час абіраецца ў корпусны камі-

тэт, ён палкавы камісар, у Круглым—арганізатар эсэраўскай дружыны і т. д. Але маўчаць пра тое, што пры совецкай уладзе ён робіцца справаводам, а каб не ісці ў Чырвоную армію—настаўнікам. Калі супроць рэволюцыі, тады ён ваюе, а калі за рэволюцыю—атрымлівае адтэрміноўку. Гэта характэрна для цэлай групы эсэраўскіх элементаў.

Пры праверцы партыйных дакументаў выкрыта вельмі цікавая справа так званага «Капыльскага партызанскага атраду» і так званай «Капыльскай большэвіцкай падпольнай арганізацыі». Пачынаючы з 1917 года, у Капылі была вельмі буйная эсэраўская арганізацыя, у якую ўваходзілі: Змітрок Чарнушэвіч, Рыгор Чарнушэвіч і наогул вельмі многа Чарнушэвічаў. У эсэраўскім камітэце былі і бундаўцы. Усе яны зблакаваліся на агульнай плацформе барацьбы супроць Окцябрскай рэволюцыі. У 1931 г. гэтыя людзі, зразумеўшы, што ўсе нацдэмаўскія групоўкі выкрыюцца адна за другой і што трэба як-небудзь замесці сляды сваёй контррэволюцыйнай работы, выдаюць капыльскую эсэраўскую дружыну за чырвоны партызанскі атрад, а сябе імянуюць чырвонымі партызанамі. На справе-ж ніхто з іх ніколі партызанам не быў.

Аказваецца, што ў 1920 годзе, за два дні да адыходу палякаў, эсэраўскія элементы стварылі ў Капылі дружыну самаабароны, баючыся, каб палякі не аграбілі іх пры адступленні. Штэйнгард і Каменштэйн апавядаюць, што адзіным «геройствам» дружыннікаў было тое, што яны затрымалі адстаўшую польскую падводу з булкамі і падзялілі іх паміж сабою, за што атрымалі назву «булачнай дружыны». А вось калі народ патрабаваў затрымаць і злавіць польскага палкоўніка, які запазніўся выехаць, то яны яго вельмі далікатна адпусцілі.

І зараз гэтыя людзі выдаюць сваю дружыну самаабароны за чырвоны партызанскі атрад. Усе яны маюць партызанскія кніжкі. Усе яны члены партыі з 1917 г., г. зн. эсэраўскі стаж запісалі сабе за стаж большэвіцкай работы. Гурло ручаўся за Дземідовіча, Дземідовіч за Гурло. Чарнушэвіч ручаўся за Гурло, Гурло за Чарнушэвіча. У партызанскай камісіі сядзелі «шляпы», якія, паверыўшы ўсёй гэтай справе, давалі ім атэстацыю, пацвярджаючы, што атрад сапраўды быў партызанскі, баявы і т. п.

Тое-ж самае і з капыльскай групай эсэраў. Яры манархіст Гурло, які быў у Калчака, у чэхаў, у Дзенікіна, у палякаў, выдаў бундаўска-эсэраўскую арганізацыю ў Капылі за большэвіцкую і ў 1921 г. пралез у партыю, прыпісаўшы сабе стаж з 1917 года.

Зараз у архівах мы знаходзім рад дакументаў.

Напрыклад, слуцкі камітэт партыі паведамляе, што ў Менск з цэлага раду былых валасцей, у тым ліку і з Капыля, з'яўляюцца людзі і называюць сябе комуністамі, тым часам як там ніякіх большэвіцкіх арганізацый не было, што гэта ўсё члены бундаўска-эсэраўскай арганізацыі і таму ніякіх дакументаў ім нельга выдаваць. Не гледзячы на гэта папярэджанне, у партыю пралезлі Гурло, Чарнушэвіч, Дземідовіч і інш.

Капыльская група наогул дала вельмі многа контррэволюцыйных кадраў. За апошнія некалькі год з партыі выключана каля 60 такіх элементаў. І заўсёды выходзіла так, што калі перад намі эсэр, то ён разам з тым і нацдэм, калі нацдэм, то абавязкова і эсэр, бо і ў

тых і ў другіх ідэалогія кулацкая, бо і тыя і другія—аднаго поля ягады, з агульнай соцыяльнай прыродай, з агульнымі мэтамі.

У 1920 г. у нашу партыю была прынята так званая арганізацыя беларускіх комуністаў, якую ўзначальваў Ігнатоўскі—эсэр з 1904 года. Праўда, у гэтай арганізацыі было толькі 39 чалавек, але галоўка была эсэраўская: 19 афіцэраў, рэшта—усякія кулакі і т. д. Многія з іх ужо выкрыты пры праверцы партыйных дакументаў, якой яны аказалі вельмі сільнае супраціўленне.

У сувязі з праверкай выяўлены і выкрыты выхадцы з розных контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, усякага роду нацыяналістычных гурткоў і арганізацый. Усе яны трымаліся да гэтага часу ў партыі дзякуючы таму, што сярод іх існавала кругавая парука, якая прыкрывала іх яўна контррэволюцыйную работу.

Значная колькасць гэтых варожых элементаў сканцэнтравалася на ўчастку культурнага будаўніцтва, дзе яны вырошчвалі і выхоўвалі варожую нашай партыі і пролетарыяту ідэалогію, калечылі моладзь. Прыкрываючыся партбілетам з вялікім стажам, а часта і партызанскаю кніжкай, яны стараліся стварыць сабе аўтарытэт сярод моладзі і адвесці ўсякія падазрэнні. Усыпляючы пільнасць комуністаў, яны разам з тым усім сваім нутром ненавідзелі партыю і яе заснавальнікаў. Калі ў прафесара гісторыі і літаратуры Акадэміі Навук спыталіся, што ён чытаў з Леніна, то ён адказаў, што не можа прыпомніць. Аказваецца, што прафесар, які мае партыйны стаж з 1918 года, не чытаў твораў асновапаложнікаў комунізма Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Гэта людзі не зусім простыя. Яны скончылі семінарыі, гімназіі, інстытуты, афіцэрскія школы. Яны прашлі варожую школу палітычнай барацьбы, школу эсэраўскую, нацдэмаўскую, бундаўскую, паалейцыёнскую, меншавіцкую, дзенікінскую, калчакоўскую, «Саюз рускага народу» і т. д. Яны—удзельнікі барацьбы антыпартыйных груп унутры партыі і маюць каласальны вопыт барацьбы супроць дыктатуры пролетарыята. Многія з іх па тры разы выключаліся з радоў нашай партыі. І гэтыя людзі прабраліся ў тэхнікумы і ВНУ, каб праводзіць сярод нашага студэнцтва сваю варожую работу.

Зусім правільна сказаў тав. Гікало ў сваім выступленні на сходзе менскай партарганізацыі, што мы павінны не толькі выкінуць гэтых людзей з нашай партыі, але і да канца выкрыць усю шкодную палітычную сутнасць іх ідэалогіі, навучыць партыю распазнаваць іх тонкую варожую работу сярод нашай моладзі.

Праверка партдакументаў паказала вялікае ўменне контррэволюцыйных буржуазных нацыяналістаў так замаскаваць сваю падрыўную работу, што іх вельмі цяжка было выявіць. Узяць, напрыклад, Сапіра, які некалькі раз выключаўся з партыі, апошні раз—у час прапрацоўкі ліста ЦК ВКП(б) аб уроках, звязаных з забойствам тав. Кірава. Цяпер мы яго зноў выключылі.

Гэта група прабраўшыхся ў партыю варожых элементаў была даволі значная і нямала нам нашкодзіла. Гэтых людзей мы выкрылі і выкінулі з партыі, але рэшткі яшчэ засталіся. Таму перад партарганізацыямі стаіць вельмі сур'ёзная і адказная задача—выявіць і да канца выкрыць заядлых ворагаў нашай партыі.

Трэцяя група, на якой трэба спыніцца,—гэта трацкісты-зіноўецы і іх белагвардзейскае ахвосце, якія адважыліся працягнуць сваю гнус-

ную руку супроць аднаго з лепшых кіраўнікоў партыі—Сергея Міронавіча Кірава.

У нашай партарганізацыі, як і ва ўсёй ВКП(б), была праведзена вялікая выкрываўчая работа пасля вядомага ліста ЦК ВКП(б) аб уроках у сувязі з забойствам тав. Кірава. Мы тады выкрылі цэлы рад трацкістаў, як яўных контррэволюцыянераў, белагвардзейцаў, двурушнікаў, пралезшых у партыю (вядомая справа Галендо—члена ЦК, нам. старшыні СНК, справа Фліора—упаўнаважанага НКЗамежгандлю і т. п.). Аднак пры праверцы партдакументаў выкрыты яшчэ 401 член і кандыдат партыі, як трацкісты і зіноўеўцы. Гэта вельмі сур'ёзная група, якая праводзіла яўна контррэволюцыйную работу.

Праверка паказала, што гэтыя разбітыя нашай партыяй контррэволюцыянеры былі асноўнаю базай для белагвардзейшчыны, шпіянажу і ўсякага роду тэрарыстычных дыверсійных актаў. Вось чаму ў КП(б)Б, якая ў мінулым мела даволі значную праслойку трацкістаў, пытанне выкрыцця і выгнання іх з партыі было адным з галоўнейшых пытанняў праверкі партдакументаў.

Асноўным метадам контррэволюцыйнай работы трацкістаў, як устаноўлена, было двурушніцтва, разлажэнне партарганізацый праз уцягванне ў іх рады чуждых і варожых партыі людзей.

На адным са сходаў тав. Ежоў расказаў, як трацкісты згаварваліся паміж сабою, каб уцягнуць у групу спачуваючых апрацаваных імі беспартыйных рабочых. Яны пашлі на правакацыю. Адзін з трацкістаў выступіў з прамовай, у якой знарок дапусціў выпад супроць партыі, праўда, асцярожны, каб яго можна было кваліфікаваць як памылку. За ім выступіў другі трацкіст і заявіў, што гэта варожая вылазка і ў адказ на яе трэба прыняць у спачуваючыя лепшых рабочых. Такім чынам прашлі ў спачуваючыя рабочыя, рэкамендаваныя трацкістамі. Падобным способам яны вялі падрыхтоўку сваіх людзей і да прыёму ў партыю.

Не прамінулі яны і індывідуальнай апрацоўкі паасобных членаў партыі. Так было, напрыклад, у Магілеве. Адна старая трацкістка выклікала да сябе на кватэру рабочага і пачала яго агітаваць, стараючыся пераканаць у тым, што з партыі выключаюць добрых людзей, а ўсякая брыда застаецца. Рабочы прышоў зараз-жа ў гарком, і трацкістка была своечасова выкрыта. Такім чынам тут быў ужыты індывідуальны падыход, гранне на ўсіх струнках, абы толькі завербаваць чалавека ў свой лагер.

У Старадарожскім раёне ў 1928 г. трацкіст арганізаваў партыйную ячэйку з кулакоў. Калі яму стала нязручна працаваць сакратаром, ён вылучыў на сваё месца бязвольнага члена партыі, які нічога не разумеў, і праз яго пачаў праводзіць сваю падрыўную работу, каб потым можна было адмовіцца, што вінават сакратар. Гэты трацкіст пратаскваў трацкісцкую кантрабанду, выклікаў нездаволенасць у рабочых па цэламу раду пагрэшнасцей на нашых прадпрыемствах і т. д. і т. д.

Ясна, што тут мы маем справу не толькі з паасобнымі разрозненымі трацкістамі, але з арганізаванай трацкісцкай контррэволюцыйнай групай. Такія групы былі выкрыты ў Бабруйску, Менску, Магілеве.

З гэтага нам трэба зрабіць сур'ёзны вывад. Кожнаму члену партыі мы павінны паказаць шляхі і метады, якімі контррэволюцыйныя трац-

кісты, асколкі белагвардзейшчыны спрабуюць нам нашкодзіць, напакасціць.

У сувязі з гэтым нельга не напомніць справы, якая была ў нас ва Ўздзенскім раёне, калі прышлося зняць сакратара райкома да пачатку праверкі. Увесь райком тады заблытаўся ў пытанні: ці можна пабудаваць комунізм у адной краіне. Абгаварвалі яго і на бюро, пастанавілі прапрацаваць і ў партарганізацыі. Ясна, што тут мы маем справу не з простым няведаннем, не з простай палітычнай няграматнасцю, а з умела арганізаванай правакацыяй, на якую часам паддаюцца члены партыі.

Можна назваць яшчэ цэлы рад груп кулакоў, белагвардзейцаў, жулікаў і т. п., якія знаходзяць мноства шляхоў пралязання ў нашу партыю.

Асабліва цікавая справа выкрыта на чыгунцы ў Осіповічах. Ёсць тры браты Пятроўскія: адзін жыве ў Жардэнце, другі ў Осіповічах і трэці ў Салаўках. Вось адзін і піша свайму брату з Жардэнты: «Здароў паважаны брат Міхайла Іванавіч! Ты мне напамінаў адносна партбілета. Калі можна гэта зрабіць, дык зрабі. Ведаеш, які я,—ва ўсім і за ўсё аддзякую. Зрабі яго як дублікат, выданы замест згубленага. Стаж пастаў з 1932 года. (Ясна, вялікі стаж трэба-ж даказаць работай, барацьбой, а пра малы можа і не спытаюць!) Пішы, што чыстку прашоў і т. д. Завядзі асабістую справу. Наогул аформі, што называецца. Калі гэта зробіш, чыркні мне, што ўсё гатова і ў парадку. Я тады стану на ўлік і развярнуся на ўсе лапаткі. А ты яго вышлі ад імя райкома, або прывязеш сам. Наогул, як ведаеш. Калі вышэйадзначанае зробіш, я падарую табе вайсковы касцюм з цёмна-сіняга сукна, які я атрымаў. Я ўжо падстральнуў—і два атрымаў. Ці трымаеш ты сувязь? Знайдзі добрага хлопца з фотаапаратам, або фатаграфіяй. Грошай награбем,—куры кляваць не будуць».

Брат яму адказвае:

«У адносінах партбілета справа горш. А наконт уліковай карткі, у мяне ёсць—на маё імя і прозвішча. Прашоў чыстку. Так што са свайго боку пастарайся сам партбілет. А гэта лёгка зрабіць, калі картка на руках. Пайдзі ў райком, скажы, што білет згублен, апублікуй у газеце. Вось якое маё заключэнне ў гэтым... Калі бярэшся сам зрабіць, дык пішы. Наконт майго прыезду. Гэта справа можа быць вырашана, калі выпішу білет і атрымаю водпуск».

Першы піша: «Відавочна з гэтага ліста, што ты мяне не зразумеў. Я, здаецца, ясна пісаў, што трэба і тое і другое. Калі можаш білет,—дык білет, калі картку—дык картку. А калі гэтага ты не можаш зрабіць акрамя сваёй, дык не трэба. Бо калі тваё імя перарабіць, то будзе ў кожнага думка, што падроблена. Калі не можаш акрамя сваёй, справа іншая».

Такія метады атрымання партбілетаў усякага роду жулікамі, кулакамі і інш. выкрыты кожнай партыйнай арганізацыяй.

Некалькі заўваг аб чыгунцы.

Не прыходзіцца даказваць, што транспарт з'яўляецца вельмі важнай галіной нашай соцыялістычнай гаспадаркі, якая прыцягвае да сябе ўвагу усякага роду варожых элементаў. Усім вядома, што калі Беларусь прадстаўляла сабою фронт, калі ў Магілеве была стаўка, то старая армія сцягвала на чыгунку сваіх надзейных людзей, якія сямтам засталіся яшчэ і да нашага часу.

Калі па ўсёй партыйнай арганізацыі варожыя элементы аказзалі

супраціўленне праверцы партыйных дакументаў, то на чыгунцы яно было асабліва моцным. Аб гэтым сведчыць 26% выключаных.

Першы этап праверкі на чыгунцы неяк зацягнууся.

Бюро ЦК КП(б)Б звязалася з чыгуначнымі партарганізацыямі і аказала ім вялікую дапамогу. Гомельскі, жлобінскі, оршанскі, віцебскі, магілеўскі райкомы склікалі чыгуначнікаў, каб падзяліцца з імі сваім вопытам. Дзякуючы гэтаму чыгунка нядрэнна вышла з праверкай.

Праверка партдакументаў па чыгуначнай партарганізацыі паказала вялікую засмечанасць асноўных, галоўных участкаў чыгуначнай службы. Засмечанымі аказаліся такія службы, як паравозная, эксплаатацыі, дэпо, чыгуначныя прадпрыемствы, завод «Ланцуцкага» і т. д. Толькі па Гомелю выключаны з партыі 54 памочнікі машыніста, якія аказаліся калчакоўцамі, белагвардзейцамі і іншымі варожымі элементамі.

Адзін начальнік станцыі выступіў на сходзе партарганізацыі з яўна контррэвалюцыйнай прамовай: моў, ВКП(б) застрашвае нас праверкай, а мы яшчэ падумаем, ці трэба праверку рабіць, ці не і т. п. Палітаддзел чыгункі ніякіх мер не прыняў у адносінах гэтага начальніка станцыі, не выключыў яго з партыі, што нельга вытлумачыць інакш, як прытупленнем пільнасці.

Нам прышлося мабілізаваць многа таварышоў у дапамогу чыгуначнаму транспарту, каб выцягнуць яго. Аднак на чыгунках не замацаваны яшчэ вынікі праверкі, слаба наладжана палітычная работа сярод членаў партыі. Чужых людзей выключылі, але вынікаў праверкі не абагулілі, як гэта зрабілі тэрытарыяльныя партыйныя арганізацыі. У гэтай галіне транспартным партарганізацыям трэба яшчэ правесці вельмі сур'ёзную работу.

Выкінуўшы з партыі яўных ворагаў, жулікаў і аферыстаў, мы значна падцягнулі нашу партыйную гаспадарку, узнялі пільнасць, боездольнасць і актыўнасць членаў партыі, выявілі новых людзей для ўмацавання апарата, стварылі рэзерв для вылучэння. У адзін толькі партыйны апарат вылучаны 783 правераныя партыйцы, якія апраўдваюць сябе на рабоце. Усяго-ж вылучана 1697 чал. Аднак трэба прызнаць, што з вылучэннем мы яшчэ адстаем, дрэнна працуем з рэзервам.

Праверка партдакументаў дала нам магчымасць выявіць шчыліны, праз якія вораг пралязаў у нашу партыю, вывучыць яго метады барацьбы. Партыйная арганізацыя ў цэлым палітычна вырасла ў сэнсе разумення баявых задач, якія стаяць перад ёю.

* * *

Якія задачы пастаўлены перад намі ў выніку праверкі партыйных дакументаў?

У рашэннях пленума ЦК ВКП(б) сказана:

> «Пленум ЦК ВКП(б) абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі да канца засвоіць гэтыя ўрокі і пакласці канец бясчынствам, якія былі выяўлены ў ходзе праверкі партдакументаў. Толькі засвоіўшы гэтыя ўрокі і паслядоўна выконваючы неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) аб усямерным павышэнні рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці і неабходнасці «узняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва»,

партарганізацыі змогуць да канца выкарчаваць карэнні апартуністычнага дабрадушша, завастрыць бальшэвіцкую пільнасць членаў партыі, выхаваць партыйны апарат у духу бальшэвіцкай вострасці і непрымірымасці і дабіцца таго, што статут партыі стане сапраўды непарушнай асновай яе ўнутранага жыцця».

Значыць, асноўнае і галоўнае цяпер—улічыць урокі праверкі, усямерна павышаць пільнасць і дысцыпліну сярод членаў партыі. Пільнасць не ёсць нешта адцягненае. Гаварыць аб пільнасці і ў той-жа час нічога канкрэтнага ў гэтым кірунку не рабіць—гэта значыць усыпляць пільнасць. Гаварыць аб пільнасці і ў той-жа час запусціць партыйную гаспадарку, расхістаць дысцыпліну, парушаць статут—значыць даваць магчымасць ворагам пранікаць у партыю. Гаварыць аб пільнасці, а ў сябе пад носам не бачыць трацкістаў, нацдэмаў, эсэраў і іншых варожых элементаў, не займацца павышэннем палітычна-тэарэтычнага ўзроўню кожнага комуніста, не выконваць указанняў тав. Сталіна на XVII партз'ездзе аб безупыннай прапагандзе ленінізма ў радах партыі і ўмацаванні ідэалагічнага ўзроўню ва ўсіх яе звеннях—гэта значыць займацца пустой балбатнёй і славеснай дэкларацыйнасцю.

Нацдэмы пры праверцы гаварылі, што яны ўвесь час змагаліся з нацдэмаўшчынай, выступалі супроць яе. Калі-ж мы запыталі: назавіце канкрэтна імёны выкрытых вамі ворагаў партыі, то на гэта пытанне яны адказаць не маглі. Тое-ж самае і трацкісты: на словах выступалі супроць трацкізма, а ў сваім апараце насаджалі трацкістаў.

Гавораць, што нам трэба быць асабліва пільнымі, бо мы працуем у прымежнай паласе, і ў той-жа час не бачаць пад бокам шпіёна. Гавораць аб пільнасці, і ў той-жа час не заўважаюць, што вораг раскрадае важнейшыя партыйныя дакументы. Якая-ж тут пільнасць, дзе-ж тут бальшэвіцкая барацьба? Гэта шкодная балбатня, апартуністычнае дабрадушша і простае патуранне класава-варожым, контррэволюцыйным элементам. Наша задача—весці непрымірымую барацьбу супроць усіх ворагаў партыі і рабочага класа, каб рашуча ачысціцца ад іх і навесці бальшэвіцкі парадак у партыйнай гаспадарцы.

Пільнасць, аб якой так сур'ёзна ставіць пытанне ЦК ВКП(б), павінна праяўляцца на кожным участку, ва ўсім комплексе нашай работы, бо:

> «класавы вораг па меры росту нашых поспехаў прыбягае да найбольш утончаных метадаў барацьбы, выкарыстоўваючы для гэтага ў першую чаргу апартуністычнае дабрадушша і ратазейства комуністаў».

Правільная расстаноўка людзей, выхоўванне і вырошчванне стойкіх, вытрыманых і да канца адданых справе Леніна—Сталіна бальшэвіцкіх партыйных кадраў—адна з асноўных умоў павышэння рэволюцыйнай класавай пільнасці.

Рашэнне снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) павінна быць пакладзена ў аснову ўсёй далейшай работы райкомаў, гаркомаў па мабілізацыі партыйнай арганізацыі на барацьбу за далейшае ўмацаванне маналітнасці і боездольнасці **партыі.**

Са сканчэннем праверкі партыйных дакументаў перад намі паўстала выключнай важнасці работа—абмен і выдача новых партдакументаў.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) сур'ёзна папярэдзіў партыйныя арганізацыі ад выпадкаў паўтарэння старых памылак пры выдачы партыйных білетаў і вядзенні партыйнага ўліку і ўказаў, што абмен і выдача новых партыйных білетаў з'яўляецца выключна сур'ёзнай работай, якая павінна садзейнічаць далейшаму вызваленню радоў партыі ад усіх людзей, нявартых высокага звання члена комуністычнай партыі:

> «Абмен партыйных білетаў і ўвядзенне новых уліковых картак з'яўляецца сур'ёзнейшым партыйна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое павінна замацаваць рэзультаты праверкі партыйных дакументаў і спрыяць далейшаму ўмацаванню радоў ВКП(б)».

У рэзалюцыі пленума прама ўказана, што партыйныя арганізацыі пры абмене могуць і не выдаць новы партбілет сяму-таму, хоць і прашоўшаму праверку партыйных дакументаў.

Калі асноўнай задачай праверкі партдакументаў было выкрыццё і выгнанне ўсіх класава-чуждых, варожых і контррэволюцыйных элементаў, жулікаў і прахадзімцаў, ашуканчым шляхам пралезшых у рады партыі, то пры абмене партдакументаў, асноўная задача: «вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, якія выпадкова папалі ў рады ВКП(б)».

Выдачу новых партбілетаў трэба выкарыстаць для яшчэ большага вывучэння асабістага складу партыйных арганізацый і выяўлення яшчэ нявыкрытых трацкістаў, белагвардзейцаў і іншых ворагаў. Новы партыйны білет павінны атрымаць толькі тыя людзі, якія сапраўды варты насіць высокае званне члена партыі Леніна—Сталіна.

Абмен і выдача новых партбілетаў павінны садзейнічаць яшчэ большаму ўмацаванню бальшэвіцкага парадку ў нашай партыйнай гаспадарцы, павышэнню рэволюцыйнай пільнасці комуністаў, каб зрабіць немагчымым у далейшым пранікненне ў рады нашай партыі ворагаў рабочага класа, розных жулікаў, аферыстаў і прахадзімцаў. Гэтага мы абавязаны дабіцца і безумоўна даб'емся і гэтым самым зробім КП(б)Б адным з перадавых баявых атрадаў Усесаюзнай комуністычнай партыі бальшэвікоў.

* * *

Праверка партыйных дакументаў паставіла цэлы рад пытанняў, звязаных з работай па-новаму. Аб гэтым сведчыць вопыт раённых партыйных сходаў—найлепшай школы, якая згуртоўвае комуністаў. Падрыхтоўка і правядзенне партыйных сходаў у нізавых партарганізацыях значна палепшылася, абвестка дня стала больш змястоўнай і палітычна завостранай, увязанай з канкрэтнымі задачамі.

Аднак гэта толькі пачатак. Далёка не ўсе нізавыя партарганізацыі паставілі на належную палітычную вышыню пытанні падрыхтоўкі і правядзення партыйных сходаў. Перад усімі райкомамі і гаркомамі партыі, парткамітэтамі і парторгамі, інструктарамі РК і ГК стаіць неадкладная задача—замацаваць дасягнуты пералом і дабіцца далейшага палепшання гэтай справы з тым, каб партыйны сход стаў сапраўднаю школай выхавання комуністаў у духу бальшэвізма.

Работа са спачуваючымі—гэтым асноўным рэзервам папаўнення радоў нашай партыі—пастаўлена яшчэ далёка нездавальняюча. Райкомы, гаркомы партыі і пярвічныя партарганізацыі мала ўважлівы да гэтай важнейшай работы, часта перадавяраюць яе другарадным людзям, пускаюць на самацёк.

Рад партарганізацый, замест таго, каб уцягваць у спачуваючыя перадавых людзей, стаханаўцаў прамысловасці і ўдарнікаў соцыялістычных палёў, прадстаўнікоў совецкай інтэлігенцыі, праверанных у барацьбе за перамогу соцыялізма, адданых справе партыі і совецкай улады, зусім закінулі гэты ўчастак работы, а ў выніку—спыніўся рост груп спачуваючых. З такімі адносінамі да работы са спачуваючымі трэба рашучым чынам пакончыць.

У рэзалюцыі снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) указана:

«Партыйныя арганізацыі ў першую чаргу павінны выправіць зусім нецярпімае становішча, калі работу са спачуваючымі, у лепшым выпадку, зводзяць да ўцягнення іх у гурткі палітграматы і калі самі кіраўнікі пярвічных і раённых арганізацый зусім не звязаны са спачуваючымі, не ведаюць іх і з імі не працуюць».

З гэтага сур'ёзнейшага папярэджання ўсе райкомы, гаркомы партыі і пярвічныя партыйныя арганізацыі павінны вынесці для сябе сур'ёзны ўрок. Яны абавязаны распрацаваць і ажыццявіць на практыцы рад мерапрыемстваў па ўцягненню ў групы спачуваючых новых людзей з праверанага на рабоце беспартыйнага актыва, стаханаўцаў і ўдарнікаў соцыялістычных палёў, арганізаваць выхаванне іх, уцягваючы ў актыўную грамадскую і палітычную работу на прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах, МТС і т. д. Нельга забываць, што група спачуваючых з'яўляецца школай большэвіцкай загартоўкі, арганізаванасці і дысцыпліны новых рэзерваў партыі.

* * *

Цэнтральны орган нашай партыі—газета «Праўда» у свой час зусім правільна ўказала, што партыйная прапаганда ў КП(б)Б пастаўлена дрэнна. Гэта з усёй відавочнасцю пацвердзіла праверка партдакументаў. Гаркомы, райкомы партыі і нізавыя партыйныя арганізацыі, не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб тым, што партыйная вучоба, павышэнне палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню комуністаў, узбраенне іх тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна павінна стаць цэнтрам усёй унутрыпартыйнай работы,—ва многіх выпадках пусцілі яе на самацёк. Сакратары райкомаў і гаркомаў партыі, сакратары парткомаў і парторгі недастаткова, а іншы раз зусім слаба кіравалі партыйнай прапагандай, камплектаваннем і работай соўпартшкол, вячэрніх комвузаў, гурткоў, часта перадаверыўшы цалкам гэту работу прапагандысцкім кадрам, якія не заўсёды аказваліся на вышыні, бо іх работай таксама ў большасці выпадкаў ніхто не кіраваў.

Сакратар жыткавіцкай раённай партарганізацыі дакладваў на бюро ЦК КП(б)Б, што ў іх з 90 чалавек усёй партарганізацыі 50 амаль зусім палітычна няграматных. Падобныя факты былі выяўлены і ва многіх іншых раёнах.

У працэсе праверкі мы дабіліся некаторага палепшання пастаноўкі партыйнай прапаганды, наладзілі сістэматычную работу над павы-

шэннем палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню членаў і кандыдатаў партыі, значна палепшылі склад прапагандыстаў і кіраўніцтва іх работай, павысілі якасць работы соўпартшкол, гурткоў і т. д.

Аднак на дасягнутых поспехах спыніцца нельга. Замацаваўшы дасягнутыя поспехі, кожны гарком, райком і пярвічная партарганізацыя неадкладна павінны распрацаваць канкрэтныя меры для далейшага палепшання ўсёй партыйна-прапагандысцкай работы і ўзбраення членаў і кандыдатаў партыі той вострай зброяй ленінска-сталінскай тэорыі, без якой не можа быць і гутаркі аб павышэнні рэволюцыйнай класавай пільнасці комуністаў. Пытанні партыйнай прапаганды павінны стаць у цэнтры ўсёй работы райкомаў і гаркомаў партыі. Пры большэвіцкай пастаноўцы гэтай справы мы бясспрэчна ліквідуем усе недахопы і даб'емся канкрэтнага палепшання партыйнай прапаганды ва ўсіх арганізацыях і звеннях КП(б)Б.

Вынікі праверкі паказалі, што мы маем невычэрпныя крыніцы і неабмежаваныя магчымасці падрыхтоўкі новых парткадраў са сваіх радоў. Мы выявілі і вылучылі ўжо нямала новых кадраў на адказную партыйную і гаспадарчую работу. Аднак гэта не гаворыць за тое, што намі ўжо ўсё ў гэтым кірунку зроблена. Гаркомы, райкомы і пярвічныя партарганізацыі не павінны супакойвацца на дасягнутым, а з усёй сур'ёзнасцю арганізаваць справу далейшага выяўлення і стварэння рэзерва для падрыхтоўкі і вылучэння кадраў як на партыйную, так і на совецкую, кааперацыйную і гаспадарчую работу. З гэтым рэзервам трэба сістэматычна працаваць, уцягваць у актыўную работу партарганізацый, даваць паасобныя даручэнні і дапамагаць у выкананні іх.

Трэба цвёрда памятаць, што падрыхтоўка і вырошчванне новых партыйных кадраў з'яўляецца справай кожнага гаркома, райкома і пярвічнай партыйнай арганізацыі, што кіраваць гэтай работай абавязаны непасрэдна самі сакратары.

* * *

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) у сваіх рашэннях папярэджвае, што прыём новых членаў у партыю будзе дазволен толькі тым партарганізацыям, якія зусім гатовы да гэтай адказнейшай палітычнай работы.

ЦК ВКП(б) дазваляе праводзіць новы прыём толькі той партыйнай арганізацыі, якая забяспечыць уздым усёй партыйнай работы на належную палітычную вышыню і на практыцы пакажа, што яна гатова пачаць новы прыём. Сакратары райкомаў, гаркомаў і пярвічных партарганізацый павінны улічыць гэта, каб выкарыстаць час, які яшчэ застаецца да новага прыёму, для ліквідацыі ўсіх недахопаў сваёй работы, выяўленых у выніку праверкі партдакументаў і забяспечыць уздым усёй арганізацыйна-партыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва.

Суровае выкананне ўсіх пунктаў статута—лепшая гарантыя захавання чыстаты радоў партыі Леніна—Сталіна. Статут партыі—непарушны закон і ніякага адступлення ад яго як пры прыёме кандыдатаў, так і пры пераводзе з кандыдатаў у члены партыі, не павінна быць дапушчана.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б), выносячы рашэнне аб аднаўленні з

1 ліпеня 1936 года прыёму новых членаў і кандыдатаў партыі, указаў:

«Аднаўляючы прыём у партыю, Пленум ЦК ВКП(б) яшчэ раз папярэджвае ўсе партыйныя арганізацыі, што прыём можа быць праведзен толькі ў строга індывідуальным парадку, што прыём у партыю групамі не можа быць дапушчаны ні пры якіх умовах, што пры прыёме кожнага новага члена ВКП(б) неабходна найстражэйшым чынам захоўваць статут партыі і, улічваючы памылкі, ускрытыя ў ходзе праверкі партдакументаў, не дапусцаць засмечання партыйных радоў выпадковымі людзьмі».

Гэтыя ўказанні абавязваюць усе партыйныя арганізацыі быць выключна пільнымі пры прыёме новых членаў і кандыдатаў партыі. А для гэтага неабходна добра вывучаць кожнага з іх, каб ведаць, каму ўручаецца партбілет і высокае званне члена комуністычнай партыі большэвікоў.

Асноўным рэзервам папаўнення радоў нашай партыі пры новым прыёме павінны быць спачуваючыя і ленінскі комсамол. Наш абавязак—весці з імі сур'ёзную палітычную работу, каб лепшых падрыхтаваць для ўступлення ў рады большэвіцкай партыі.

Новы прыём, як указана ў рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), будзе праводзіцца ў строга індывідуальным парадку за лік лепшых людзей нашай краіны—стаханаўцаў прамысловасці і транспарту, ударнікаў соцыялістычных палёў і перадавой совецкай інтэлігенцыі, якія сваёй практычнай работай і барацьбой за перамогу соцыялізма даказалі бязмежную адданасць справе комуністычнай партыі, справе пролетарыята. Для варожых апартуністычных і выпадковых элементаў дзверы нашай партыі павінны быць назаўсёды зачынены.

* * *

Некалькі заўваг аб далейшай рабоце партыйнага апарата, галоўным чынам раённага.

Па-першае, ён павінен цалкам засвоіць стыль работы, які выпрацаваўся ў працэсе праверкі партдакументаў. Гэты выдатны стыль партыйнай вострасці, пільнасці, насцярожанасці сям-там пачынае ўжо прытупляцца, чаго ні ў якім разе дапусціць нельга. Палітычную вострасць і культурнасць, непрымірымасць і ўважлівасць да людзей трэба ўсямерна ўзнімаць і ўмацоўваць. Гэта тыя якасці, якія павінны быць уласцівы большэвікам.

Другое, што нам трэба цвёрда засвоіць, гэта тое, што сканчэнне праверкі партыйных дакументаў з'яўляецца толькі пачаткам упорнай, крапатлівай большэвіцкай работы над умацаваннем партыйнай арганізацыі. І з гэтага трэба выходзіць: не завяршэнне, а толькі пачатак работы.

Трэцяе—гэта рост і падрыхтоўка партыйных кадраў. Партыя патрабуе зараз ад кожнага партыйнага работніка высокага палітычнага ўзроўню развіцця. Цяпер, калі не толькі члены партыі, але і беспартыйныя рабочыя, калгаснікі, выраслі ў стаханаўцаў, задачы кіраўніцтва кожнай партыйнай арганізацыі празмерна ўскладніліся.

Зараз ужо не можа быць добрым кіраўніком партарганізацыі чалавек, які базіруецца толькі на сваім пачуцці і пролетарскім пахо-

джанні, на вялікім стажы сакратарскай работы і т. п. Гэта ўжо цяпер ніяк не выйдзе. Да выдатнага вопыту трэба дадаць яшчэ культурнасць, высокі палітычны ўзровень. Трэба расці так, як расце наша краіна ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, ні на крок не адставаць ад яе росту. А для гэтага неабходна вучыцца і вучыцца. Вучоба, безумоўна, не лёгкая справа, і тут ЦК павінен аказаць раённым работнікам вялікую дапамогу.

У працэсе праверкі партыйных дакументаў выпрацавалася і ўстанавілася вельмі цесная дзелавая партыйная сувязь паміж актывам і кіраўніцтвам, увесь партыйны актыў згуртаваўся вакол райкома. Іншая справа, што ў адной партарганізацыі гэта адчуваецца ў большай, а ў другой—у меншай меры. Але ў кожным разе ёсць такі станоўчы вынік. Члены партыі, адчуваючы адказнасць за лёс сваёй партарганізацыі, вельмі актыўна дапамагалі райкому ў час праверкі партдакументаў. Неабходна, каб гэта дружная работа і згуртаванне, гэта дапамога кіраўніцтву і пачуццё адказнасці былі ўмацаваны і ўзняты на вышэйшую ступень.

Задача кожнага райкома—скалаціць вакол сябе актыў, памятаючы пры гэтым, што яго трэба вырошчваць, навучаць, выкарыстоўваць яго вопыт, а не камандаваць ім.

Набыты намі велізарнейшы вопыт у партыйнай рабоце ні ў якім разе нельга губляць. Яго трэба ўсямерна накапляць, насыціць ім усе поры нашай работы, каб партарганізацыя расла і ўмацоўвалася, каб яна добра падрыхтавалася да выдачы партбілетаў і новага прыёму ў партыю. Справа гонару кожнай партыйнай арганізацыі—дабіцца таго, каб ЦК дазволіў ёй прыём новых членаў.

Пленум ЦК ВКП(б) адбываўся ў абстаноўцы найвялікшай згуртаванасці, любві і адданасці самых шырокіх народных мас нашай партыі і вялікаму правадыру комунізма—таварышу **Сталіну.**

Рашэнні пленума ЦК нашай партыі выражаюць яшчэ большае ўмацаванне боездольнасці і маналітнасці нашай партыі, магутнае развіццё прадукцыйных сіл краіны ў выніку перамогі лініі партыі на індустрыялізацыю і калектывізацыю.

Гэтыя сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма дасягнуты партыяй у самай жорсткай барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай, з усімі варожымі ленінізму групоўкамі. Партыя, выхаваная Леніным і Сталіным, пад кіраўніцтвам свайго правадыра—таварыша Сталіна, паслядоўна і бязлітасна разбівала і разбіла контррэволюцыйных трацкістаў, зіноўеўцаў, правых апартуністаў, права-лявацкіх уродаў, усіх, хто спрабаваў цягнуць партыю назад да капіталізма. І ў гэтай барацьбе КП(б)Б, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), ва ўмовах прымежнай нацыянальнай рэспублікі, значна вырасла, узмацнілася, стала баявой большэвіцкай партыйнай арганізацыяй.

Тое, што КП(б)Б разграміла контррэволюцыйныя рэшткі трацкістаў і зіноўеўцаў, разграміла і паспяхова выкарчавала рэшткі нацдэмаўшчыны, бундызма, беспрынцыпнай групаўшчыны, тое, што КП(б)Б стала адзінай, маналітнай, з высокім ідэйным палітычным узроўнем, баявой і пільнай, тое, што наша Беларуская рэспубліка стала ордэнаноснай рэспублікай нашага вялікага Совецкага саюза—усім гэтым мы абавязаны перш за ўсё штодзенным клопатам і дапамозе з боку ЦК ВКП(б), гэтым мы абавязаны вялікаму настаўніку нашаму—таварышу **Сталіну,** гэтым мы абавязаны саратніку таварыша **Сталіна** вы-

датнаму большэвіку, кіраўніку партарганізацыі Беларусі—Нікалаю Фёдаравічу **Гікало**.

Выкананне гістарычных рашэнняў ЦК ВКП(б) аб стаханаўскім руху—гэтым магутным урагане жыццярадаснай, сапраўды соцыялістычнай працы; выкананне рашэння ЦК ВКП(б) аб праверцы партыйных дакументаў і ўсямерным умацаванні радоў нашай партыі павядзе нашу партыю і народы Совецкага саюза да новых бліскучых перамог.

Сцяг соцыялістычных перамог трымае ў сваіх руках найвялікшы чалавек свету, правадыр нашага народу—таварыш **Сталін**. Пад гэтым сцягам мы ідзем да яшчэ больш радаснага, шчаслівага жыцця народаў, да новых перамог соцыялізма.

**Няхай жыве наш вялікі Сталін!**

---

# Абмен партыйных дакументаў

Ленін і Сталін з самага пачатку стварэння бальшэвіцкай партыі вялі нястомна бязлітасную і непрымірымую барацьбу супроць меншавікоў, трацкістаў і ўсякіх апартуністаў, якія імкнуліся ўнесці ў рады партыі дробнабуржуазную расхлябанасць і арганізацыйную распушчанасць.

Партыя, пад кіраўніцтвам свайго геніяльнага правадыра таварыша **Сталіна** разграміла контррэвалюцыйны трацкізм, правых апартуністаў, права-лявацкіх уродаў і інш. і забяспечыла велізарнейшыя перамогі на ўсіх участках будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. У непрымірымай барацьбе з усякімі хістаннямі і ўхіламі ад генеральнай лініі партыі Ленін і Сталін настойліва змагаліся за адзінства, маналітнасць і чыстату яе радоў, за павышэнне звання члена бальшэвіцкай партыі.

У выніку праверкі партыйных дакументаў партыйныя арганізацыі выкрылі і выгналі са сваіх радоў класава чуждых і варожых людзей, жулікаў, прахадзімцаў, прамых ворагаў пролетарыята, якія пралезлі ў партыю шляхам ашуканства, карыстаючыся прытупленнем класавай пільнасці паасобных партарганізацый і комуністаў, арганізацыйнай распушчанасцю ў партыйнай гаспадарцы.

Праверка партыйных дакументаў з усёй нагляднасцю паказала, як класавыя ворагі выкарыстоўвалі страту бальшэвіцкай рэвалюцыйнай пільнасці і забыццё арганізацыйных прынцыпаў бальшэвізма для пранікнення ў рады партыі і прыкрыцця партыйным білетам сваёй контррэволюцыйнай дзейнасці.

Праверка партыйных дакументаў, праведзеная па ініцыятыве таварыша **Сталіна,** з'яўлялася тым арганізацыйна-палітычным мерапрыемствам, якое яшчэ больш умацавала маналітнасць радоў нашай партыі, узняло боездольнасць і рэволюцыйную пільнасць кожнай партыйнай арганізацыі і ўзброіла партыю для далейшай барацьбы за новыя перамогі соцыялізма.

Адным з асноўных і бліжэйшым палітычна-арганізацыйным мерапрыемствам у справе замацавання вынікаў праверкі партыйных дакументаў і навядзення бальшэвіцкага парадку ў нашай партыйнай гаспадарцы з'яўляецца абмен партыйных дакументаў.

У рашэннях студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б прама сказана:

«Толькі мабілізаваўшы ўсю партыйную арганізацыю вакол мерапрыемства партыі па абмену партыйных білетаў, павышаючы пільнасць партыйнай арганізацыі, забяспечваючы дасканалую праверку кожнага комуніста перад выдачай яму **партыйнага** білета, мы даб'емся таго, што партыйны білет будзе атрыман тымі, хто апраўдае высокае званне члена бальшэвіцкай **партыі.**

... Пленум абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі забяспечыць такое правядзенне абмену партыйных білетаў, каб гэта мерапрыемства яшчэ больш умацавала і згуртавала партыйную арганізацыю, узмацніла-б актыўны ўдзел комуніста ў палітычным жыцці партыі і краіны, умацавала-б арганізацыйныя прынцыпы большэвізма».

Наша партыя, як вучыць Ленін і Сталін, з'яўляецца авангардам рабочага класа, авангардам, які ўзначальвае і кіруе барацьбой пролетарыята і ўсіх працоўных за пабудову новага бяскласавага грамадства. Партыя Леніна—Сталіна з'яўляецца арганізатарам і кіраўніком шырокіх працоўных мас у іх барацьбе за новае, светлае, шчаслівае жыццё.

Члены комуністычнай партыі—гэта перадавыя людзі, актыўныя ўдзельнікі палітычнага жыцця партыі і краіны. Яны павінны ня'стомна працаваць над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, узбагачэннем тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, каб з гонарам выконваць авангардную ролю, узначальваць масы ў барацьбе за далейшыя перамогі соцыялізма, быць прыкладнымі, служыць узорам для беспартыйных мас. Яны бязмежна і да канца адданы справе Леніна—Сталіна, справе пролетарыята і соцыялістычнага будаўніцтва. Яны свядома падначальваюцца большэвіцкай жалезнай дысцыпліне і гатовы ў любы момант аддаць сябе і ўсё сваё жыццё справе партыі, справе пабудовы комуністычнага грамадства.

«Мы, комуністы,—людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матар'ялу. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пролетарскага стратэга, армію таварыша Леніна. Няма нічога вышэй, як гонар належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як званне члена партыі, заснавальнікам і кіраўніком якой з'яўляецца таварыш Ленін. Не ўсякаму дана быць членам такой партыі. Не ўсякаму дана вытрымаць няўзгоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі. Сыны рабочага класа, сыны нужды і барацьбы, сыны неймаверных лішэнняў і гераічных намаганняў—вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі такой партыі».

Гэтыя словы правадыра партыі і ўсіх працоўных таварыша **Сталіна** яскрава паказваюць, на якую вышыню таварыш Сталін узнімае званне члена комуністычнай партыі. Гэтыя словы з выключнаю сілай напамінаюць пра наш абавязак яшчэ і яшчэ раз праверыць кожнага комуніста і кандыдата партыі, якому ўручаецца новы партбілет або кандыдацкая картка, ці сапраўды ён варты насіць высокае і пачэснае званне члена партыі Леніна—Сталіна.

Абмен партдакументаў з'яўляецца выключна важным палітычна-арганізацыйным мерапрыемствам, якое павінна забяспечыць далейшае ачышчэнне радоў партыі ад пасіўных людзей і баласту, садзейнічаць далейшаму ажыўленню ўсёй партыйнай работы і ўмацаванню боездольнасці партыі.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) у сваім рашэнні ўказаў, што пры абмене партдакументаў неабходна «вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, якія выпадкова папалі ў рады ВКП(б)».

Аднак да справы выяўлення пасіўных нельга падыходзіць пасказённаму, толькі з такою меркай, што калі комуніст неактыўны, мала сябе праяўляе ў партыйным жыцці, слаба падрыхтаваны палітычна, то ён і няварты атрымаць новы членскі білет або кандыдацкую картку. Партыйныя арганізацыі абавязаны дапамагчы кожнаму комуністу ў павышэнні ідэйна-палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню. Таму трэба таксама праверыць, як партыйная арганізацыя дапамагла слаба падрыхтаванаму комуністу ўзняць палітычны ўзровень, актыўна ўключыцца ў партыйнае жыццё.

Нельга таксама забываць, што пасіўныя людзі знаходзяцца не толькі сярод адсталых, малаграматных і слаба падрыхтаваных комуністаў. Сярод комуністаў з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй, тэарэтычна добра падкаваных, ёсць людзі, якія не маюць «ні грама партыйнасці», абюракрацілісл, з пагардай адносяцца да партыйнай і грамадскай работы, не ўзначальваюць ініцыятыву мас, адарваліся ад партыйнага жыцця, ігнаруюць партыйную вучобу, партыйны білет выкарыстоўваюць для асабістых скурніцкіх мэт. Гэтыя людзі нічога агульнага з партыяй не маюць і няварты высокага звання комуніста.

Таму перад партарганізацыямі і іх кіраўнікамі стаіць задача— усебакова і дэталёва вывучыць кожнага комуніста з тым, каб новы партбілет атрымалі выключна тыя людзі, якія высокае званне члена партыі Леніна—Сталіна апраўдваюць сваёй работай.

Пры выяўленні пасіўных людзей партыйныя арганізацыі павінны строга кіравацца статутам партыі і асабліва другім яго пунктам, у якім выключна чотка і канкрэтна сфармуляваны патрабаванні да члена партыі.

2. Член партыі абавязан:

а) захоўваць найстражэйшую партыйную дысцыпліну, актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці партыі і краіны, праводзіць на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў;

б) няўстанна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам;

в) як член кіруючай партыі у Совецкай дзяржаве,—быць узорам захавання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, бесзупынна павышаючы сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю».

Кожны комуніст павінен быць стаханаўцам на вытворчасці і арганізатарам стаханаўскага руху сярод усіх беспартыйных рабочых. Кожны комуніст павінен быць большэвіцкім рэволюцыйным барацьбітом на сваім участку, узнімаць свой ідэйна-тэарэтычны ўзровень і рэволюцыйную пільнасць. Кожны комуніст павінен весці непрымірымую і бязлітасную барацьбу з класавым ворагам і яго агентурай, выкрываючы ўсялякія антыпартыйныя вылазкі і іх канкрэтных носьбітаў. Комуніст павінен нястомна працаваць сярод беспартыйных мас, быць у авангардзе барацьбы гэтых мас за справу будаўніцтва соцыялізма.

Такія запатрабаванні неабходна прад'яўляць кожнаму члену партыі ў час абмену і выдачы новых партыйных білетаў.

У выніку праверкі партдакументаў мы выкрылі і выгналі з радоў партыі шмат класава варожых і контррэвалюцыйных элементаў. Аднак на гэтым супакоіцца ні ў якім разе нельга, бо не выключаны выпадкі, калі сяму-таму з класавых ворагаў удалося шляхам ашуканства праскочыць праверку і застацца ў радах партыі.

Нельга забываць, што мы знаходзімся на рубяжы двух светаў— соцыялістычнай радзімы і капіталістычнага Захаду. На ўсёй КП(б)Б і кожнай яе арганізацыі ляжыць выключна вялікая адказнасць за ачыстку сваіх радоў ад усіх класава варожых, контррэволюцыйных і шпіёнскіх элементаў.

У час абмену партдакументаў неабходна яшчэ раз уважліва праверыць тых членаў партыі, у адносінах якіх ёсць сумненні, праверыць кожнага комуніста па сутнасці, ці варты ён насіць высокае званне члена партыі Леніна—Сталіна.

Толькі пры самым строгім выкананні ўказанняў апошніх пленумаў, усіх дырэктыў ЦК партыі і інструкцыі па абмену, пры суровым захаванні непарушнасці статута мы забяспечым большэвіцкае правядзенне гэтага важнейшага палітычна-арганізацыйнага мерапрыемства, яшчэ больш умацуем свае рады, яшчэ вышэй узнімем боездольнасць партыйнай арганізацыі і кожнага комуніста паасобку.

Абмен партыйных дакументаў неабходна цесна ўвязаць з выяўленнем і вырошчваннем новых стойкіх большэвіцкіх партыйных кадраў. Уся партыйна-арганізацыйная і палітычна-выхазаўчая работа павінна быць узнята на новую, вышэйшую ступень для максімальнага разгортвання стаханаўскага руху ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, большэвіцкай падрыхтоўкі да веснавой сяўбы і барацьбы за 7—8 мільярдаў пудоў ураджаю.

Праверка партдакументаў адыграла выключна вялікую ролю ў справе ўздыму актыўнасці членаў і кандыдатаў партыі, разгортвання партыйна-выхаваўчай работы і росту ідэйнага ўзбраення комуністаў.

Абмен і выдача новых партдакументаў павінны замацаваць гэтыя дасягненні, яшчэ больш узняць узровень усёй партыйнай работы, а тым самым і званне члена партыі, яшчэ вышэй узняць кіруючую ролю партыі і кожнай партыйнай арганізацыі за далейшыя перамогі соцыялізма. Дабіцца гэтага—абавязак кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага большэвіка.

Адным з асноўных мерапрыемстваў па павышэнню актыўнасці, авангарднай ролі комуніста і яго адказнасці перад партыяй з'яўляюцца самасправаздачы комуністаў на сходах пярвічных партарганізацый, бюро РК і ГК.

Многія партыйныя арганізацыі набылі ўжо ў гэтай справе багаты вопыт і маюць значныя дасягненні (Лесакамбінат, завод імя Кірава—Бабруйск, швейная фабрыка імя Дзержынскага, «Комунарка»—Менск, і інш.). Аднак не ва ўсіх пярвічных партарганізацыях і не заўсёды сур'ёзна, уважліва падыходзяць да арганізацыі самасправаздач комуністаў. Няма ў іх планавасці і сістэмы. Бываюць выпадкі, калі на адным сходзе заслухаюць адразу 3—4 самасправаздачы, прымуць агульныя рашэнні і надоўга забудуць аб гэтай справе. Тым часам самасправаздача павінна стаць адной з асноўных форм і метадаў калектыўнай праверкі работы і большэвіцкага выхавання комуністаў. Яна павінна садзейнічаць ідэйнаму росту і ўцягненню ў актыўную работу кожнага члена партыі, а значыць— агульнаму ўздыму і ажыўленню работы ўсёй партыйнай арганізацыі.

Задача ўсіх партыйных арганізацый—узяцца за справу арганізацыі самасправаздач так, каб праз іх забяспечыць сапраўдны ўздым авангарднай ролі і адказнасці комуністаў за выкананне статута партыі.

Асаблівае значэнне самасправаздачы набываюць зараз—у працэсе падрыхтоўкі комуністаў да абмену партыйных дакументаў; аднак пярвічныя партарганізацыі павінны строга сачыць за тым, каб падрыхтоўка да абмену партдакументаў не ператварылася ў «бюракратычную зацею», як гэта было на фабрыцы імя Вагжанава у гор. Калініне, дзе партком, замест крапатлівай работы па растлумачэнню сэнсу і значэння абмену партдакументаў, заняўся складаннем нікому непатрэбных характарыстык на кожнага комуніста і «ударным» выяўленнем пасіўных. *)

* * *

Для паспяховага і добраякаснага правядзення абмену партыйных дакументаў райкомы КП(б)Б абавязаны правесці сур'ёзную і дакладную падрыхтоўку ўсёй партарганізацыі і людзей, якія прыцягваюцца для правядзення работы па абмену. Людзі, якія прыцягваюцца да тэхнічнага афармлення і запаўнення новых партдакументаў, павінны быць добра праінструктаваны і падрыхтаваны, каб справіцца з выкананнем адказнейшай работы без памылак і псавання новых партыйных дакументаў. І толькі тады, калі ўся работа, ва ўсіх яе дэталях, звязаных з запаўненнем, абменам і выдачай новых партдакументаў, будзе добра падрыхтавана,—толькі тады належыць прыступіць да абмену.

Па КП(б)Б да абмену партдакументаў прыступіла ўжо 12 райкомаў і гаркомаў партыі. Паводле апошніх вестак, на 20 сакавіка па ўсёй КП(б)Б абменена 739 партбілетаў і 223 кандыдацкія карткі.

Аднак першыя сігналы з месц сведчаць аб тым, што не ўсе РК і ГК добра падрыхтаваліся да тэхнікі запаўнення новых партыйных дакументаў, не звярнулі сур'ёзнай увагі на тое, што для гэтай справы трэба добра падрыхтаваць спецыяльных работнікаў.

У гомельскім гаркоме і лепельскім РК ужо ў першыя дні абмену былі выпадкі псавання партыйных дакументаў у час іх запаўнення, што сведчыць аб несур'ёзных, пагардлівых адносінах да самой падрыхтоўкі абмену і тэхнікі выдачы новых партдакументаў.

Гэтыя факты павінны паслужыць сур'ёзным урокам для ўсіх партарганізацый. Гаркомы і райкомы павінны зараз-жа прыняць меры к таму, каб з тэхнічнай інструкцыяй АКПО ЦК ВКП(б) аб запаўненні новых партыйных дакументаў дасканала азнаёміць усіх работнікаў, якім давяраецца гэта важнейшая справа, каб яны строга прытрымліваліся інструкцыі, не дапускаючы ніякага самавольства.

Інструкцыя патрабуе, каб на ўсе пытанні, якія ёсць у рэгістрацыйнай картцы і партдакументах новага ўзору, даваліся дакладныя і вычарпальныя адказы. У выпадку неабходнасці даць адмоўны адказ на якое-небудзь з пастаўленых у рэгістрацыйным бланку і іншых партдакументах новага ўзору пытанняў—трэба пісаць «не», «не састаяў» і т. д., а не ставіць замест адказу працяжнік, ці які-небудзь іншы знак.

*) Гл. „Праўду“ ад 14. III. 36 г.

Інструкцыя падрабязна ўказвае, як трэба пісаць адказы на ўсе пытанні новай уліковай карткі і рэгістрацыйнага бланка. Так, напрыклад, нумар партыйнага білета або кандыдацкай карткі старога ўзору запісваецца толькі пасля дэталёвай зверкі прад'яўленага членам або кандыдатам партыйнага білета ці кандыдацкай карткі з адпаведным актам праверкі партдакументаў. На пытанне рэгістрацыйнага бланка аб «пярвічнай партарганізацыі» належыць указаць поўную і дакладную назву прадпрыемства, установы, соўгаса, калгаса, пры якой знаходзіцца партарганізацыя. Напрыклад: «кандзіцерскай фабрыкі «Комунарка», «шклозавода імя Сталіна», «калгаса «Шлях соцыялізма», «соўгаса імя Калініна», «Наркамзема Беларусі» і т. д.

Супроць слоў «райком», «гарком» неабходна пісаць поўнае названне райкома або гаркома партыі, у якім комуніст састаіць на ўліку і атрымлівае новы партыйны білет або кандыдацкую картку. Напрыклад: «Сталінскі райком гор. Менска», «Віцебскі гарком», «Смалявіцкі райком» і т. д. Супроць слоў «вобласць, край, рэспубліка» неабходна поўнасцю пісаць: «Беларуская ССР».

Выключна важнае значэнне мае дакладна і правільна напісанае прозвішча, імя і імя па бацьку. У значнай частцы старых партдакументаў былі дапушчаны недакладнасці ў гэтай справе. Паводле інструкцыі АКПО прозвішча, імя і імя па бацьку ў новых партдакументах павінны быць напісаны так, як яны канчаткова былі зафіксаваны ў акце праверкі партдакументаў, без ніякіх змен. А калі член або кандыдат партыі пасля праверкі змяніў сваё прозвішча ці імя, то аб гэтым яны абавязаны прадставіць у РК і ГК КП(б)Б адпаведныя дакументы.

Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на запаўненне граф: «Соцыяльнае становішча», «Час уступлення ў ВКП(б)», «Род заняткаў з пачатку працоўнай дзейнасці». Асабліва гэта адносіцца да графы: «Ці ўдзельнічаў у апазіцыях і антыпартыйных групоўках». На гэта пытанне трэба даць канкрэтны адказ: у чым выразіўся ўдзел у апазіцыях і антыпартыйных групоўках, апазіцыйныя хістанні і барацьба супроць партыі. На пытанне: «Ці састаяў у іншых партыях» адказ павінен быць чоткі і канкрэтны, з указаннем, які час і ў якой партыі састаяў. На пытанне: «Ці служыў у арміях і атрадах, змагаўшыхся супроць совецкай улады» адказ павінен быць вычарпальным і дакладным, з указаннем у якой арміі або атрадзе, калі і які час. Пры запаўненні рэгістрацыйнага бланка праўдзіва і дакладна паказваць свой жыццёвы шлях і сваю работу.

Задача РК і ГК КП(б)Б—дэталёва азнаёміць усе партыйныя арганізацыі і кожнага комуніста з гэтай інструкцыяй, каб яны маглі няўхільна выконваць усе яе патрабаванні.

Трэба цвёрда памятаць, што толькі пры максімальнай увазе да арганізацыі тэхнікі абмену, сурова ўлічваючы ўрокі праверкі партдакументаў і мабілізуючы ўсю партарганізацыю вакол абмену партыйных дакументаў і ўздыму ўсёй партыйнай работы на новую, больш высокую ступень, партарганізацыі здолеюць па-большэвіцку рэалізаваць рашэнні і ўказанні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб абмене і выдачы новых партдакументаў.

Рашэннямі пленумаў ЦК на сакратароў райкомаў і гаркомаў і асабіста на першых сакратароў ускладзена выключна вялікая адказнасць за правядзенне абмену партыйных дакументаў на высокім палітычным узроўні.

У рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) прама ўказана:

«Непасрэдную адказнасць за правільную выдачу партбілетаў і кандыдацкіх картак перад ЦК ВКП(б), крайкомамі, абкомамі і ЦК нацкомпартый нясуць персанальна сакратары гаркомаў і райкомаў».

Яны паспяхова справяцца з ускладзенай на іх задачай і апраўдаюць давер'е партыі толькі тады, калі па-большэвіцку мабілізуюць усю партыйную арганізацыю вакол правядзення гэтага важнейшага арганізацыйна-палітычнага мерапрыемства.

Абмен партыйных дакументаў трэба правесці так, каб ён яшчэ вышэй узняў аўтарытэт партыі і кожнай яе арганізацыі сярод беспартыйных мас, яшчэ больш умацаваў маналітнасць і згуртаванасць яе радоў, павысіў рэволюцыйную пільнасць і авангардную ролю кожнага комуніста на вытворчасці і на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Абмен і выдача новых партбілетаў павінны забяспечыць навядзенне сапраўды большэвіцкага парадку ў партыйнай гаспадарцы, пазбавіць класава чуждыя, варожыя і апартуністычныя элементы ўсякай магчымасці пранікаць у рады партыі, узняць усю партыйна-арганізацыйную і палітычна-выхаваўчую работу да ўзроўню палітычных задач партыі, зрабіць статут непахісным законам работы і жыцця кожнай партыйнай арганізацыі КП(б)Б.

Побач з гэтым уся работа па абмену партыйных дакументаў павінна быць цесна ўвязана з падрыхтоўкай да новага прыёму ў члены партыі. Райкомы, гаркомы і ўсе пярвічныя партарганізацыі павінны рэзка палепшыць работу са спачуваючымі і комсамолам, як асноўным рэзервам папаўнення радоў партыі.

Не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б і рашэнні апошніх пленумаў ЦК, рад пярвічных партарганізацый не ўдзяляе належнай увагі большэвіцкаму выхаванню спачуваючых і комсамола. Нярэдкі выпадкі, калі гэта справа даручаецца другарадным асобам, за работай якіх не ўстанаўляецца належнага кантролю.

З такімі аносінамі трэба рашуча пакончыць і забяспечыць безагаворачнае выкананне ўказанняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце са спачуваючымі і комсамолам.

У працэсе абмену партдакументаў уся КП(б)Б і кожная партыйная арганізацыя павінны поўнасцю падрыхтавацца да новага прыёму ў партыю, які, паводле рашэння пленума ЦК, намячаецца з 1 ліпеня 1936 года. Кожная партарганізацыя павінна лічыць для сябе гонарам атрымаць дазвол на права новага прыёму ў партыю.

Пленумы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б сур'ёзна папярэдзілі ўсе партыйныя арганізацыі аб тым, што новы прыём павінен праводзіцца выключна індывідуальным парадкам, без якіх-бы там ні было адступленняў ад статута партыі.

Праверка партыйных дакументаў паказала, што ў радзе партарганізацый КП(б)Б статут партыі парушаўся самым грубейшым чынам. Асабліва грубае парушэнне статута мела месца пры прыёме новых членаў і кандыдатаў партыі, што было выкарыстана класава чужымі і варожымі элементамі, усякага роду аферыстамі і жулікамі для пранікнення ў рады партыі, аб чым з асобай сілай падкрэслена ў рашэнні студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б:

«Праверка партыйных дакументаў у КП(б)Б з асаблівай рэзкасцю ўскрыла, што іменна масавае парушэнне ў партарганізацыях КП(б)Б статута партыі і было, галоўным чынам, выкарыстана класавым ворагам для пранікнення ў партыю».

Усе партарганізацыі абавязаны дабіцца, каб статут, не фармальна, а па сутнасці, стаў сапраўды непахіснай асновай усёй унутрыпартыйнай работы і жыцця. Трэба цвёрда памятаць, што толькі бальшэвіцкім захоўваннем непарушнасці статута партыі, як пры прыёме новых членаў і кандыдатаў партыі, так і ва ўсёй партыйнай рабоце, мы зможам навесці бальшэвіцкі парадак у партыйнай гаспадарцы, ажывіць усю партыйна-арганізацыйную і палітычна-выхаваўчую работу.

Задача ўсіх партыйных арганізацый, райкомаў і гаркомаў партыі—забяспечыць правядзенне абмену партдакументаў і падрыхтоўку да новага прыёму так, каб кожны член і кандыдат партыі добра ўясніў, што статут з'яўляецца тым непахісным жалезным законам, парушаць які не дана права нікому.

Р. Соскін

Сакратар оршанскага райкома КП(б)Б

# Аб падрыхтоўцы да абмену партыйных дакументаў

Падрыхтоўка да абмену партдакументаў пачалася ў нас з прапрацоўкі на партднях гарадскіх і вясковых партарганізацый рашэнняў аб выніках снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), пленума ЦК КП(б)Б, а таксама рашэння бюро ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партдакументаў у оршанскай партарганізацыі.

На працягу лютага месяца бюро раённага камітэта склікала дзве інструкцыйныя нарады сакратароў парткомаў, парторгаў па пытанню падрыхтоўкі да абмену. На гэтых нарадах уважліва была прапрацавана інструкцыя ЦК ВКП(б) аб парадку абмену, пытанне аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма—барацьба Леніна-Сталіна за чыстату радоў партыі, а таксама статут ВКП(б). Кожны сакратар парткома і парторг азнаёміўся з задачамі правядзення абмену партдакументаў.

Па дырэктыве ЦК КП(б)Б былі праведзены для работы па абмену міжраённыя курсы рэгістратараў на 44 чал., з якіх 16 чал. вылучаны і зацверджаны Оршанскім раённым камітэтам. На курсах прапрацаваны арганізацыйныя прынцыпы большэвізма, статут ВКП(б) і ўсе змены ў ім, прынятыя на з'ездах і канферэнцыях партыі, рашэнне снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб выніках праверкі партдакументаў, інструкцыя ЦК ВКП(б) аб парадку абмену. З кожным рэгістратарам праведзена практычная работа аб парадку запаўнення рэгістрацыйных бланкаў і камплекта партдакументаў.

Бюро РК распрацавала календарны план абмену і склала спіс членаў і кандыдатаў па кожнай партарганізацыі.

Для работы па абмену партдакументаў абсталявана спецыяльнае памяшканне з трох пакояў: для гутаркі і запаўнення рэгістрацыйных бланкаў; для гутаркі сакратара райкома з кожным паасобным камуністам; для запаўнення партдакументаў.

Каб своечасова забяспечыць комуністаў фотакарткамі, спецыяльна дагаварыліся з фатаграфіяй. Фотакарткі ўжо поўнасцю прадстаўлены партарганізацыямі Мехзавода, Ільнакамбіната і НКВД, дзе абмен партбілетаў, згодна календарнаму плану, будзе праведзен у першыя пяць дзён.

22 і 24 лютага па ўсёй партарганізацыі праведзен адзіны партдзень, на якім падрабязна прапрацавана пытанне аб падрыхтоўцы

і правядзенні абмену партдакументаў. Дакладчыкі былі вылучаны райкомам і праінструктаваны на спецыяльнай нарадзе.

У партарганізацыях транспарту партдзень па пытанню абмену праведзен 1 і 2 сакавіка.

У абгаварэнні пытання аб абмене прыняла актыўны ўдзел на ўсіх партыйных сходах горада і вёскі большасць членаў і кандыдатаў партыі. У партарганізацыях механічнага завода «Чырвоны змагар» і Сувязі выступілі ўсе члены партыі, у партарганізацыі соўгаса «Усце» і Еромкаўскай з 17 выступіла 15, у Межаўскай тэрытарыяльнай партарганізацыі і соўгасе «Межава» з 14 выступіла 13, у партарганізацыі завода «Чырвоны Окцябр» з 18 выступіла 15. Абгаварэнне пытання аб абмене вельмі актыўна прашло па ўсіх партарганізацыях раёна.

Асноўная мэта партдня заключалася ў тым, каб даць магчымасць кожнаму члену і кандыдату партыі добра ўсвядоміць палітычнае значэнне абмену, павысіць партыйную пільнасць комуністаў у далейшым выкрыцці класава-чуждых элементаў, ні ў якой меры не дапускаючы арганізацыйнай расхлябанасці, дабрадушша і ратазейства, грунтоўна засвоіць статут ВКП(б), у якім закладзены арганізацыйныя прынцыпы большэвізма, падрабязна азнаёміць комуністаў з парадкам абмену і запаўнення рэгістрацыйных бланкаў.

Усе партсходы праходзілі пад знакам разгортвання большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі. Галоўным стрыжнем выступленняў былі пытанні далейшага ўмацавання радоў партыі, палепшання арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы, павышэнне авангарднай ролі члена кіруючай партыі.

Падрыхтоўка да абмену, як і нядаўна праведзеная праверка партдакументаў, значна ўзняла актыўнасць членаў і кандыдатаў у партыйным жыцці і вучобе, што відаць з самасправаздач.

Прывядзем некалькі фактаў росту актыўнасці тых комуністаў, якія да апошняга часу слаба ўдзельнічалі ў рабоце партарганізацыі, адарваліся ад партжыцця, не клапаціліся аб павышэнні свайго палітычнага ўзроўню.

Характэрна самасправаздача тав. **Лоташа.** На ўсе пытанні бягучай палітыкі ён даваў здавальняючыя адказы, добра засвоіў статут ВКП(б) і рашэнні снежаньскага пленума ЦК ВКП(б), не гледзячы на малаграматнасць, палітычна правільна складае канспекты па гісторыі ВКП(б), актыўна наведвае партгабінет.

Тав. **Радкевіч** (партарганізацыя Мясакамбіната) лічылася раней найбольш адсталай комуністкай і ў партыйным жыцці і на вытворчасці. Зараз тав. Радкевіч—лепшая стаханаўка на вытворчасці, актыўна выконвае партыйныя даручэнні, акуратна наведвае і добра засвойвае праграму ў партыйнай школе, рэгулярна чытае газеты. На партдні па пытанню абмену тав. Радкевіч выступіла са словамі: «Мне стала куды весялей. Я адчуваю вялікую бадзёрасць. Мне толькі цяпер стала ясна, наколькі я раней адставала».

Тав. **Кандраценка** з соўгаса «Межава» рэдка калі выступаў на партсходах, а цяпер сам заявіў: «Я пачаў лепш працаваць над сабой, глыбей унікаць у партыйнае жыццё, бо зразумеў, што так далей быць не можа, што статут партыі трэба выконваць на справе».

Тав. **Еромeнка** (кандыдат Пішчалаўскай партарганізацыі) гаво-

рыць: «Калі я ўзяўся моцна за вучобу, то пачаў расці. Цяпер мне стала лягчэй разбірацца ў махінацыях класавага ворага, і ў калгасе справа лепш абстаіць».

Тав. **Бароўскага** (Лесазавод), паводле водзыву партарганізацыі, зараз не пазнаць: актыўна выконвае заданні, узмоцнена працуе над сабой, на вытворчасці з'яўляецца перадавіком.

Рост актыўнасці і жадання комуністаў узняць свой тэарэтычны ўзровень характэрны для ўсёй партарганізацыі раёна. Партыйна-выхаваўчая работа стала на першы план. Але нельга не адзначыць разрыву, які яшчэ наглядаецца паміж цягай комуністаў да аўладання рэволюцыйнай тэорыяй і якасцю партыйнай асветы галоўным чынам у вясковых партарганізацыях, дзе прапагандыст яшчэ недастаткова падрыхтаваны тэарэтычна і метадычна. Для павышэння кваліфікацыі прапагандыстаў раённы камітэт праводзіць кожнага 7, 17 і 27 пропсемінары.

У большасці партарганізацый партыйны дзень з'яўляецца асноўным звяном работы, абвестка насычана партыйнымі пытаннямі і загадзя падрыхтоўваецца. Рэгулярна заслухоўваюцца самасправаздачы аб выкананні абавязкаў па статуту партыі з папярэднім абследваннем работы члена або кандыдата партыі. Павысілася ўвага да вядзення і афармлення пратаколаў партыйных сходаў. Спецыяльныя кнігі пратаколаў разданы кожнай партарганізацыі.

Ажывілася арганізацыйна-партыйная і выхаваўчая работа ў вясковых тэрытарыяльных партарганізацыях, да якіх прымацаваны ранейшыя комуністы-адзіночкі. У Гальцове, Малатні, Веравойшы, Еромкавічах, дзе тэрытарыяльныя партарганізацыі пакуль што не афорлены, работа пастаўлена слаба.

На фоне агульнага ажыўлення партыйнай работы, павышэння актыўнасці комуністаў ёсць яшчэ партарганізацыі, якія мала ўвагі ўдзяляюць рабоце партыйных груп па ўчастках.

Так, напрыклад, партыйная арганізацыя Осінторфа, праводзячы больш-менш рэгулярна партыйныя дні па ўсёй арганізацыі, рэдка іх праводзіць у партгрупах па ўчастках. На сходах па пытаннях абмену партдакументаў самі комуністы рэзка крытыкавалі такую пастаноўку справы.

На некаторых партыйных сходах комуністы скардзіліся таксама на адсутнасць партыйных даручэнняў, бескантрольнасць выхаваўчай работы.

Кандыдат партыі тав. Канавалава (Медтэхнікум) выступіла з заяўленнем, што партарганізацыя не сочыць за яе вучобай, не дае партдаручэнняў, не ўцягвае ў партыйнае жыццё.

Член партыі тав. Жданава (соўгас «Усце») мае хворае дзіця. Партарганізацыя не паклапацілася аб тым, каб стварыць ёй умовы для вучобы і ўдзелу ў партыйным жыцці.

Праверка партдакументаў і падрыхтоўка да абмену спрыялі палепшанню работы са спачуваючымі, прыёму ў групы спачуваючых новых людзей, правераных на вытворчасці.

У партарганізацыі Ільнакамбіната з часу праверкі прынята ў спачуваючыя 10 стаханаўцаў. Сярод іх **Баранаў** Сцяпан—брыгадзір арматурнага цэха. Уся яго брыгада стаханаўская, выконвае план на 250%. Сам Баранаў дае 400% плана і з'яўляецца актыўным грамадскім работнікам: член горсовета і кіраўнік дэпутацкай групы на камбінаце. Добра вучыцца ў стаханаўскім тэхнічным гуртку. **Вярховін**—першы

ініцыятар стаханаўскага руху на камбінаце, дае кладку ў 13.400 штук цэглы. Навучыў стаханаўскім метадам работы 10 чалавек. Актыўны член прафкома пабудовы. **Рублёва**—працуе на машыне «Геклінга» адна замест двух рабочых і план выконвае на 220%. Лепшы прафарганізатар на камбінаце. Па-стаханаўску працуюць і спачуваючыя Баранаў Іван, Петкевіч, Агеенка, Трушко і інш.

Партыйны камітэт Ільнакамбіната прапрацоўвае са спачуваючымі праграму і статут партыі, знаёміць з пытаннямі бягучай палітыкі, дае партыйныя даручэнні па масавай рабоце ў цэхах (паліт'інфарматары, чытчыкі газет сярод рабочых).

Раённы камітэт сваім слабым месцам лічыць работу са спачуваючымі. Большасць партарганізацый яе не разгарнула. На ўзмацненне гэтага ўчастку трэба ў бліжэйшы-ж час звярнуць максімум увагі.

Падрыхтоўка да абмену партдакументаў цесна звязана з выяўленнем тых, хто не заслугоўвае права насіць вялікае званне члена партыі Леніна-Сталіна, хто ашуканчым шляхам прабраўся ў яе рады і да гэтага часу не выкрыт. На партыйных днях, прысвечаных падрыхтоўцы да абмену, паступілі заявы на ўжо прашоўшых праверку паасобных членаў партыі.

На партсходах рэзка ставілася пытанне аб тых членах і кандыдатах партыі, якія не хочуць на справе выконваць статут, павышаць свой тэарэтычны ўзровень, адарваліся ад партыйнага жыцця.

Узяць, к прыкладу, члена партыі Шарая з партарганізацыі Леспрамгаса. Не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні, ён зусім адарваўся ад партыйнага жыцця, не бывае на партсходах, не наведвае партшколу. Або кандыдата партыі Жэнеўскага, пераведзенага па чыстцы 1933 г. Ён заявіў на сходзе: «Мне некалі хадзіць на сходы. На членскія ўзносы грошай не маю. Калі будзеце аба мне рэзка пытанне ставіць, магу аддаць і кандыдацкую картку». Або Канановіча, які працуе ў калгасе Межаўскай тэрытарыяльнай партарганізацыі. За ўвесь час прабывання ў радах партыі ён усюды правальваў работу. Як старшыня калгаса не меў аўтарытэту. На партыйных сходах бывае рэдка, палітычна няграматны, газет не чытае.

На партднях, прысвечаных падрыхтоўцы да абмену, падвергліся рэзкай крытыцы многа членаў і кандыдатаў партыі. Большасць—за пасіўнасць у партыйным жыцці і рабоце, за пропускі партвучобы, невыкананне заданняў.

Райком заслухае самасправаздачы ўзятых пад сумненне камуністаў для выяўлення прычын пасіўнасці, адсталасці і адарванасці ад партжыцця, а таксама магчымасці заставацца ў радах партарганізацыі.

На партыйных днях актыўна абгаварваліся таксама і вытворчыя пытанні. У выніку ў вясковых партарганізацыях узмацніліся тэмпы падрыхтоўкі да сяўбы (па вывазцы гною, торфу, попелу і інш.). У партарганізацыі Ільнакамбіната камуністы падвергли крытыцы недахопы будаўніцтва, дрэнную арганізацыю працы і культурна-бытавых умоў рабочых. У партарганізацыі Белдрэса выкрыты прычыны аварый, звязаных з дрэннай работай заводскага транспарту. На партднях былі вызначаны практычныя меры для знішчэння недахопаў у вытворчай рабоце і павышэння авангарднай ролі камуністаў.

Уся падрыхтоўчая работа да абмену партдакументаў намі праводзіцца пад знакам барацьбы за ліквідацыю недахопаў, выяўленых у

час праверкі партдакументаў, за ўздым партыйна-масавай і палітычна-выхаваўчай работы сярод беспартыйных мас рабочых і калгаснікаў, мабілізацыі іх на далейшае разгортванне стаханаўскага руху і барацьбу за высокі ўраджай калгасных палёў.

У цэнтры ўвагі РК і ўсёй партыйнай арганізацыі, у сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем абмену партдакументаў, пастаўлена барацьба за выкананне рашэнняў пленумаў ЦК і ўказання тав. Сталіна аб усямерным уздыме ідэйна-палітычнага і тэарэтычнага ўзроўню комуністаў і павышэнні іх рэволюцыйнай пільнасці, барацьба за найстражэйшае захаванне статута нашай партыі.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і тав. Гікало наша партарганізацыя на аснове разгортвання большэвіцкай самакрытыкі і актыўнасці мас, строга захоўваючы непарушнасць статута партыі, указанняў ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, забяспечыць большэвіцкае правядзенне абмену партдакументаў і тым самым яшчэ вышэй узнімае аўтарытэт і боездольнасць оршанскай партарганізацыі.

**Б. Рабкін**

**Сакратар парткома менскай фабрыкі „Комунарка“**

# Партарганізацыя рыхтуецца да абмену партдакументаў

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б), падводзячы вынікі праверкі партдакументаў, адзначыў:

«Калі пры праверцы партыйных дакументаў асноўную ўвагу партыйныя арганізацыі сканцэнтроўвалі на тым, каб выкрыць ашуканчым шляхам пранікшых у ВКП(б) ворагаў партыі, усякага роду прахадзімцаў і жулікаў, то пры абмене асноўную ўвагу неабходна звярнуць на тое, каб вызваліцца ад пасіўных людзей, якія не апраўдваюць высокага звання члена партыі, якія выпадкова папалі ў рады ВКП(б)».

Статут партыі з'яўляецца напахіснай асновай партыйнага жыцця, і наша партарганізацыя пачала разгортваць сваю работу вакол яго выканання. Для нас гэта было асабліва важным, бо раней мы не раз мелі факты парушэння статута, кампанейскага прыёму ў партыю. Нават у мінулым годзе 8 сакавіка ў групу спачуваючых было прынята 14 чалавек. Партком залічыў у спачуваючыя работніцу Ямнік, якая ніколі не падавала заявы аб уступленні ў групу спачуваючых, а таксама работніцу Альтман, якая доўгі час знаходзілася ў контррэволюцыйнай эсэраўскай арганізацыі.

У паасобных комуністаў існавала такая думка, што статут для іх не пісан. Адсюль частыя спазненні і нерэгулярнае наведванне партыйных сходаў, адмаўленне ад вучобы, ухіленне ад партыйных даручэнняў.

Калі мы падышлі да справы бліжэй, то аказалася, што рад комуністаў слаба, а некаторыя і зусім не ведалі статута партыі (тт. Сіндлер, Турэцкі, Шаблоўскі, Добкін, Сахарчук, Ганчарык, Свершчук). Цяпер справа арганізавана так, што статут партыі вывучае кожны комуніст, да адстаючых прымацаваны больш падрыхтаваныя таварышы, створан кантроль за выкананнем даручэнняў.

Тт. Дзятковіч, Гурэвіч, Новікава дабіліся станоўчых вынікаў ад індывідуальных заняткаў з прымацаванымі да іх адстаючымі. Так, напрыклад, Сіндлер, Падастравец, Турэцкі ўжо нядрэнна арыентуюцца ў пытаннях статута, пачалі лепш разбірацца ў бягучай палітыцы. Для больш глыбокага вывучэння статута арганізуецца рад лекцый на тэму «Вучэнне Леніна-Сталіна аб партыі».

У нашай арганізацыі 18 кандыдатаў, з якіх 6 чал. пераведзена

з членаў партыі ў час чысткі 1933 года. З кандыдатамі праводзіцца асобая работа: частыя гутаркі, абследванне работы на вытворчасці, азнаямленне з бытам, культурным ростам, работай над сабой, карыстаннем бібліятэкай і інш. Усё гэта дало нам магчымасць скласці поўнае ўяўленне аб кожным кандыдаце партыі, падштурхнуць адстаючых таварышоў да сістэматычнай работы над сабой, рэгулярнай чыткі газет, літаратуры і інш.

Кандыдаты партыі тт. Пташнік, Варацілаў, Шнэйдэр, Радкевіч, Турэцкі, Гіль, Пагарэйчык, Дано, Бернштэйн, Гольдзін, Ліпман, Юрдзіцкая многа зрабілі для падрыхтоўкі да пераводу ў партыю. Асабліва трэба адзначыць палітычны рост тав. Гіль, якая, будучы абсалютна палітычна няграматнай, не хацела вучыцца. Цяпер чытае газеты, мастацкую літаратуру, добрасумленна прапрацоўвае заданні, якія даюцца ёй у гуртку, вядзе рабочыя запісы, складае канспекты.

Партком рыхтуе зараз спецыяльны партдзень, прысвечаны пытанню: «Як нашы кандыдаты партыі рыхтуюцца да абмену партыйных дакументаў і пераводу ў партыю».

Важнасць вучобы, неабходнасць засваення прац Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна ўсвядомлена цяпер усёй нашай партыйнай арганізацыяй. У нас вучацца ўсе комуністы, калі не лічыць траіх хворых.

15 лютага адбыўся партыйны дзень па пытанню аб становішчы партыйнай вучобы ў нашай партарганізацыі. Рыхтуючыся да яго, партыйныя групы прапрацавалі раздзел «Тэорыя» з «Пытанняў ленінізма». Партком заслухаў справаздачу ўсіх прапагандыстаў і стараст гурткоў і ўстанавіў, што амаль усе комуністы, за невялікім выключэннем, змянілі свае адносіны да вучобы. Некаторыя таварышы (Салавейчык, Яглоўскі), занадта спадзеючыся на свой стары «багаж», не заўсёды наведваюць заняткі, не прапрацоўваюць усіх патрэбных да тэмы матар'ялаў. Флендэр толькі «адседжваецца» на занятках. Кугель, Падастравец цяжка ўспрыймаюць матар'ял з-за слабой агульнай асветы. Да іх прымацаваны цяпер індывідуальна выкладчыкі па агульнаадукацыйных прадметах.

Пры абгаварэнні пытання аб партыйнай вучобе выявілася, што прапагандысты не звязаны з прадпрыемствам, недыферэнцыявана падыходзяць да слухачоў, мала патрабавальны. І зусім правільна адзначалася на парткоме і на партсходзе, што нам патрэбны такія прапагандысты, якія былі-б сапраўды большэвіцкімі прапагандыстамі, цесна звязанымі з жыццём прадпрыемства. Гэта цалкам адносіцца да прапагандыстаў Пружынінай і Розінай, якія за тры гады сваёй прапагандысцкай работы на фабрыцы не дабіліся патрэбных рэзультатаў. Не выпадкова комуністы Шаблоўскі, Добкін, Сахарчук, Свершчук, займаючыся па 3—4 гады, кожны год пачынаюць вучобу спачатку. Безумоўна, у гэтым віна не аднаго толькі прапагандыста, тут ёсць віна і парткома і слухачоў.

У выніку праверкі партдакументаў вучоба на фабрыцы прасунулася далёка ўперад. Гурткі працуюць па плану. Многія комуністы настолькі пашырылі свой светапогляд, што іх цяпер не пазнаеш. Выступленні на сходах тт. Медзенкі, Дзятковіча, Куперштока, Глайхенгауза, Мядзведзевай і іншых сведчаць аб росце іх палітычнай граматнасці.

Комуністы павысілі свае патрабаванні і да партыйнай арганізацыі. Тав. Заводнікаў, выступаючы па дакладу аб становішчы партыйнай

вучобы на фабрыцы, заявіў: «Я другі год займаюся ў вячэрнім Комвузе, вывучаю гісторыю партыі, эканомпалітыку. Зараз я асабліва адчуваю неабходнасць у набыцці агульнай адукацыі».

І гэта зусім зразумела. Рост ідэйна-палітычнай узброенасці і актыўнасці комуністаў асабліва важны цяпер, калі так высока ўзняўся культурна-тэхнічны ўзровень рабочых. Стаханавец—гэты новы чалавек эпохі Сталіна, ауладаўшы тэхнікай вытворчасці,—прад'яўляе нам штодня ўсё новыя, больш высокія патрабаванні. Комуніст павінен узначаліць вялікі стаханаўскі рух, накіраваць яго ў правільнае русло. У гэтым—наша задача.

У правільнай пастаноўцы і ходзе партвучобы вялікую ролю адыгрывае стараста. Ён з'яўляецца гаспадаром гуртка, памочнікам прапагандыста. Наша партарганізацыя ўмяніла кожнаму старасце ў абавязак—ведаць, чаму слухач прапускае заняткі, не складае канспектаў, не прапрацоўвае матар'ялаў, ведаць хатнюю абстаноўку і ўмовы быту кожнага слухача.

Не зусім добра ў нас выконваўся 7 пункт статута партыі аб уплаце членскіх узносаў. Гэту справу разглядалі як чыста фінансавую і перадаручылі яе кандыдату партыі. Нават спецыяльная дырэктыва ЦК ВКП(б) аб тым, што членскія ўзносы павінен збіраць сакратар партыйнага камітэта, парушалася. На гэта пытанне мы звярнулі цяпер самую сур'ёзную ўвагу. Пры ўзыманні членскіх узносаў мы не абмяжоўваемся фармальнай адзнакай у партбілеце, а праводзім жывую гутарку з членамі і кандыдатамі партыі.

Калі тав. Шчуцкі (у нашай партарганізацыі 3 месяцы) прышоў плаціць членскія ўзносы, то пры гутарцы выявілася, што ён не ведае членаў палітбюро, не здолеў адказаць на пытанне, хто такі тав. Ежоў. Азнаёміўшы тав. Шчуцкага са складам палітбюро, мы з ім дагаварыліся штодзенна, на працягу двух дэкад, сустракацца ў парткоме для прапрацоўкі раду пытанняў, у якіх ён слаба разбіраецца.

З кандыдатам партыі тав. Шнэйдэр пры ўплаце членскіх узносаў таксама завязалася гутарка. Як выявілася, тав. Шнэйдэр тры дні не чытала газет, цяжка ёй даецца матар'ял па тэме «Годы рэакцыі». Тут-жа яна была прымацавана да тав. Горфінкеля для кансультацыі па гэтаму пытанню.

Можна прывесці яшчэ цэлы рад прыкладаў, калі мы дабіліся станоўчых рэзультатаў пры выкананні пункта статута аб членскіх узносах.

Ёсць у нас яшчэ і пасіўныя члены партыі (Хаждан, Ганчарык), якія фармальна адносяцца да работы, вучобы, выканання партыйных даручэнняў.

У выніку праверкі партдакументаў наша партыйная арганізацыя ідэйна вырасла і ўмацавалася, у кожнага комуніста павысілася ўсведамленне адказнасці за даручаную работу, за вучобу, за выкананне статута партыі.

Перад намі цяпер стаіць задача—добра падрыхтавацца да абмену партдакументаў на аснове рашэнняў снежаньскага пленума ЦК ВКП(б) і студзеньскага пленума ЦК КП(б)Б, каб яшчэ вышэй узняць усю партыйную работу, безупынна змагаючыся за чыстату і боездольнасць радоў нашай партарганізацыі.

---

**Е. Сосінаў**

**Сакратар бярэзінскага РК КП(б)Б**

# Партыйная асвета ў цэнтры ўвагі

У працэсе праверкі партдакументаў выявілася вельмі слабая ўзброенасць асновамі марксізма-ленінізма, нізкі ўзровень як агульнага, так і палітычнага развіцця, значнай часткі партарганізацыі Бярэзінскага раёна. Некаторыя раённыя, нават адказныя, работнікі спрабавалі прыкрыць нежаданне працаваць над сабой, павышаць свой агульны палітычны ўзровень тым, што ў іх з гэтага нічога не выйдзе, бо яны не канчалі сярэдніх і вышэйшых школ, ды к таму-ж перагружаны практычнай работай.

Паколькі райком партыі не ўдзяляў належнай увагі прапагандысцкай рабоце, то ўсё гэта прывяло к таму, што частка вясковых комуністаў—адказныя сельсовецкія работнікі, кіраўнікі калгасаў і нават паасобныя раённыя работнікі аказаліся ў хвасце мас, не здолеўшы стаць на чале іх у барацьбе за выкананне важнейшых пастаноў партыі і ўрада. Тым больш не здолелі яны своечасова ўзначаліць стаханаўскі рух у паасобных калгасах і соўгасах раёна, прадаўжаючы працаваць па-старынцы, шляхам адміністрацыйнага камандавання, часта парушаючы рэволюцыйную законнасць і гэтым спрыяючы падрыўной рабоце класавага ворага.

Бюро ЦК КП(б)Б, прымаючы акты праверкі партыйных дакументаў у бярэзінскай партарганізацыі, указала на зусім нездавальняючую пастаноўку партыйнай асветы і неабходнасць карэннай перабудовы і палепшання якасці прапагандысцкай работы ў раёне.

Перабудоўваючы ўнутрыпартыйную работу пасля праверкі партдакументаў, райком паставіў партыйную асвету ў цэнтр сваёй увагі. Да абмену партдакументаў наша партарганізацыя падыходзіць ужо з некаторымі поспехамі. Арганізавана сталая сетка партыйных школ і гурткоў, амаль усе 149 членаў і кандыдатаў партыі ахоплены той ці іншай формай вучобы. Карэнным чынам перагледжаны сталы склад прапагандыстаў, адхілены ад прапагандысцкай работы кандыдаты партыі, комсамольцы і паасобныя члены партыі, якія не апраўдалі сябе на гэтай рабоце і былі да яе не падрыхтаваны. Падабраны больш падрыхтаваны і праверны склад прапагандыстаў з партактыва. Цяпер у нас працуе 17 прапагандыстаў: 5 членаў бюро РК, 2 члены РК, 2 штатныя прапагандысты і 8 адказных работнікаў партактыва; сярод іх толькі адзін кандыдат партыі—з вышэйшай адука-

цыяй. З агульнай колькасці прапагандыстаў ў сістэме партасветы працуе 12 чалавек, у дапамогу комсамольскай сетцы перадана 3 чалавекі і для палітзаняткаў з настаўнікамі—2. Па адукацыі—5 чалавек з вышэйшай і 4 з сярэдняй партыйнай асветай. Усе прапагандысты, за выключэннем аднаго кандыдата, маюць не менш 6—7 гадоў партыйнага стажу і 1—2 гадоў прапагандысцкай работы.

З усімі прапагандыстамі прапрацавана пастанова пленума ЦК КП(б)Б аб прапагандысцкай рабоце. Устаноўлена сістэматычная канкрэтная дапамога і кантроль за работай прапагандыстаў. 4 разы ў месяц па плану займаецца пропсемінар пад кіраўніцтвам сакратара райкома. На семінары разбіраюцца канспекты чарговых заняткаў, абгаварваецца і перадаецца лепшы вопыт работы. Прыступлена да прапрацоўкі з прапагандыстамі курса па ленінізму. Усе прапагандысты забяспечаны неабходнай літаратурай. Склад прапагандыстаў зацверджан бюро РК КП(б)Б.

Сетка партыйнай асветы пабудавана наступным чынам:

Два партыйныя гурткі па вывучэнню палітграматы, а таксама статута і праграмы партыі ахапляюць сабой 12 кандыдатаў партыі і спачуваючых.

Восем гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі па падручніку Кнорына і Яраслаўскага ахапляюць 54 комуністаў.

Адна партыйная школа пры РК КП(б)Б з райпартактывам па вывучэнню гісторыі партыі па творах класікаў марксізма-ленінізма ахапляе 16 комуністаў.

Партыйная школа пры РК КП(б)Б ахапляе 30 комуністаў-адзіночак пераважна сельсовецкага актыва—старшыні сельсоветаў, старшыні калгасаў, брыгадзіры і інш., якія тэрытарыяльна раскінуты і не маюць магчымасці займацца на месцы. Гэта школа працуе 3 дні ў месяц па 8 гадзін. На перыяд паміж трохдзеннымі зборамі комуністам-адзіночкам даецца матар'ял для сістэматычнай работы над сабой, які потым падагульваецца і больш шырока прапрацоўваецца з кіраўніком школы—нам. сакратара райкома т. Аднарогім.

41 комуніст і комсамолец ахоплены завочным вывучэннем гісторыі партыі: 15—у групе паніжанага і 26 у групе павышанага тыпу. Усяго, такім чынам, ахоплена, разам з пропсемінарам, 156 чал., з іх 8 спачуваючых.

Згодна рашэнню бюро РК, ва ўсіх партшколах, гуртках і на сходах пярвічных арганізацый уведзены паліт'інфармацыі па важнейшых пытаннях міжнароднага становішча, партыйнага жыцця і соцбудаўніцтва. Улічаны ўсе члены і кандыдаты партыі, якія маюць зусім нізкую агульна-адукацыйную падрыхтоўку. Большасць іх прымацавана да настаўнікаў для сістэматычных заняткаў па ліквідацыі малаграматнасці (Гарэлік, Ясько, Лапцёнак, Бачароў і іншыя).

Многія комуністы дастаткова ўсвядомілі значэнне партыйнай асветы, прыкладна адносяцца да заняткаў, своечасова і акуратна рыхтуюцца да кожнай тэмы, чытаюць навейшую мастацкую літаратуру. Да такіх таварышоў можна аднесці Старобінца, Бусловіча, Крупкіна і іншых.

Бюро РК сістэматычна заслухоўвае справаздачы партыйных школ, гурткоў і паасобных комуністаў аб іх рабоце над павышэннем палітычнага ўзроўню. За студзень—люты заслуханы 5 школ і гурткоў і 10 індывідуальных справаздач. Зараз шырока практыкуюцца індыві-

дуальныя справаздачы комуністаў на сходах пярвічных партыйных арганізацый.

Аднак усё гэта толькі пачатак работы. Мы далёка яшчэ не забяспечылі глыбокага разумення і безагаворачнага выканання статута і праграмы партыі кожным членам і кандыдатам. Яшчэ многія комуністы фармальна адносяцца да партвучобы, не рыхтуюць да заняткаў мінімума заданага матар'ялу, не выпрацавалі сістэмы і навыкаў у рабоце над сабой. Інструктары райкома, партарганізатары і партгабінет слаба дапамагаюць вясковым комуністам парадамі і канкрэтнымі ўказаннямі. У некаторых партыйных школах і гуртках (Вінзавод) заняткі праходзяць нудна, нецікава, па-кніжнаму.

Пры камплектаванні школ і гурткоў недастаткова ўлічваўся палітузровень кожнага комуніста, асаблівасці вучобы і работы са спачуваючымі. Большасць школ і гурткоў пачала курс гісторыі партыі з пасляокцябрскага перыяда і зусім слаба ўяўляе перыяд да Окцября. Не заўсёды выконваецца пастанова бюро РК аб правядзенні ў сетцы партыйнай вучобы палітычнай інфармацыі па важнейшых пытаннях міжнароднага становішча, партыйнага жыцця і соцбудаўніцтва. У час заняткаў вельмі мала выкарыстоўваюцца карты, табліцы, дыяграмы, выразкі, мастацкі матар'ял і т. п.

Навейшая мастацкая літаратура не папулярызуецца, да комуністаў не даведзен неабходны мінімум і мала хто за гэтым сочыць. Калектыўны разбор і чытка мастацкай літаратуры не арганізаваны.

РК павінен яшчэ многа папрацаваць над пастаноўкай партыйнай вучобы, каб выканаць рашэнне ЦК КП(б)Б аб прапагандысцкай рабоце, выхаваць усю партарганізацыю ў духу марксізма-ленінізма, зрабіць яе боездольнай і прынцыпова непрымірымай у барацьбе за справу Леніна—Сталіна.

Абмен партыйных дакументаў дапаможа замацаваць дасягненні ў прапагандысцкай рабоце і рушыць яе ўперад.

**С. Хаскін**

**Сакратар заслаўскага РК КП(б)Б**

# Як прыцягваюцца члены райкома партыі да штодзеннай практычнай работы

У рэзультаце праверкі партыйных дакументаў райком партыі за апошні час карэнным чынам змяніў метады сваёй работы і кіраўніцтва, наладзіў жывую сувязь з нізавымі партарганізацыямі і пасобнымі комуністамі.

Кожная нізавая пярвічная партарганізацыя вызучаецца на месцы прадстаўніком райкома, які практычна дапамагае ёй у падборы пытанняў і правядзенні партыйных сходаў, у падрыхтоўцы дакладчыкаў, складанні планаў работы, наладжванні партыйнай вучобы комуністаў і работы сярод беспартыйнага актыва.

Кожны член райкома атрымлівае ад бюро сістэматычныя заданні па правядзенню партыйных і палітдзён у пярвічных партарганізацыях і калгасах, прапрацоўцы рашэнняў партыі і ўрада на прадпрыемствах і ў калгасах, а потым дакладвае аб выкананні.

Вялікую практычную работу члены райкома праводзяць у галіне партыйнай прапаганды і агітацыі: 8 членаў райкома з'яўляюцца прапагандыстамі партыйных школ і гурткоў, 6—агітатарамі, а астатнія сістэматычна правяраюць работу партыйных школ, практычна дапамагаюць прапагандыстам і слухачам у правядзенні заняткаў і палепшанні якасці вучобы. З адстаючымі комуністамі члены райкома праводзяць індывідуальныя і групавыя гутаркі, правяраюць, што чытае кожны комуніст з палітычнай і мастацкай літаратуры, дапамагаюць самастойна прапрацоўваць важнейшы палітычны матар'ял і складаць канспекты палітзаняткаў. У рэзультаце многія члены і кандыдаты партыі (тт. Плакс, Грычынскі, Макрышова і інш.) пачалі лепш займацца.

Такім чынам, пры непасрэдным удзеле членаў райкома ў практычнай рабоце партыйнай асветы, партвучоба па раёну значна палепшылася.

З беспартыйным актывам на прадпрыемствах і ў соўгасах члены райкома праводзяць палітычныя гутаркі і вытворчыя нарады, выяўляюць лепшых актывістаў-стаханаўцаў, уцягваюць іх у штодзенную работу пярвічных партарганізацый, рэкамендуюць у спачуваючыя. За апошні час у групу спачуваючых уцягнута новых 18 чалавек.

Члены райкома праводзяць вялікую работу і ў дамах соцкультуры,

у гуртках па вывучэнню мастацкай літаратуры, агратэхнікі, у харавых гуртках калгасаў і соўгасаў, у правядзенні культурных вечароў моладзі. У калгасе «Полымя», напрыклад, арганізаваны два ўзорныя самадзейныя харавыя гурткі, якія не раз выступалі ў Менску па радыё. У раёне працуюць 63 гурткі па чытцы мастацкай літаратуры.

Усе гэтыя формы і метады выкарыстання членаў райкома на практычнай партыйнай рабоце далі магчымасць значна палепшыць партыйную і культурна-масавую работу, дэталёва вывучыць кожнага комуніста, умацаваць штодзённую жывую сувязь райкома з нізавымі партыйнымі арганізацыямі і комуністамі-адзіночкамі, узняць актыўнасць некаторых членаў і кандыдатаў партыі, раней адарваных ад партыйнага жыцця.

Сходы пярвічных партарганізацый праводзяцца зараз па плану, арганізавана. Калі 2—3 месяцы таму назад комуністы даведваліся пра абвестку дня толькі ў дзень сходу, то зараз яны ведаюць яе за 10 дзён і могуць загадзя падрыхтавацца. У падрыхтоўцы і правядзенні партыйных сходаў пярвічных партарганізацый абавязкова ўдзельнічае прадстаўнік райкома, які дапамагае больш адсталым комуністам падрыхтавацца да выступлення на сходзе і прыняць удзел у рэалізацыі яго рашэнняў. Члены райкома ў радзе партарганізацый (РВК, калгасаў «Полымя», «Звязда») праводзяць тэарэтычныя даклады, арганізуюць індывідуальныя справаздачы комуністаў аб рабоце і вучобе, што значна ўзняло актыўнасць «маўчальнікаў» і ідэйную насычанасць партыйных сходаў.

Дасягнутыя намі некаторыя поспехі ў перабудове партыйнай работы яшчэ далёка не задавальняюць запатрабаванняў арганізацыйна-партыйнай і выхаваўчай работы сярод шырокіх мас комуністаў і беспартыйнага актыва.

Заслаўская партарганізацыя, якая працуе на рубяжы двух светаў, ачысціўшы ў выніку праверкі партыйных дакументаў свае рады ад варожых, шпіёнскіх і перарадзіўшыхся элементаў, прыкладзе ўсе сілы к таму, каб рэалізаваць рашэнні партыі, дабіцца развароту партыйна-масавай і палітычнай работы, узняць авангардную ролю комуніста, яшчэ больш згуртаваць шырокія масы працоўных вакол партыі і любімага правадыра—таварыша **Сталіна**.

**М. Лабадаеў**

# Аб самасправаздачах комуністаў

У бабруйскай партарганізацыі за апошні час шырока пачалі практыкавацца самасправаздачы комуністаў на паседжаннях парткомаў і, галоўным чынам, на сходах пярвічных партарганізацый. Справа ідзе не толькі аб павелічэнні колькасці самасправаздач, але і аб палепшанні іх якасці, іх уздзейнічання на павышэнне ідэйна-палітычнага выхавання і авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці.

Рашаючы зрух у гэтай справе зрабіла праверка партыйных дакументаў. Яна дапамагла не толькі кіраўнікам раённай партыйнай арганізацыі, якія непасрэдна праводзілі праверку, але і сакратарам пярвічных партарганізацый і парторгам лепш вывучыць людзей, своечасова дапамагчы ім у ідэйна-палітычным росце, а нярэдка і папярэдзіць правал у рабоце або адрыў ад партыйнага жыцця. Вопыт паказаў, што адным з лепшых метадаў у гэтых адносінах з'яўляецца самасправаздача комуніста перад партыйнай арганізацыяй.

Вядомае рашэнне пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы дае наступныя ўказанні па пытанню аб самасправаздачах:

> «Ухваляючы правядзенне самасправаздач комуністаў, як адну з форм калектыўнай партыйнай праверкі работы кожнага члена партыі і дапамогі яму з боку партыйнай арганізацыі, пленум гаркома прапануе забяспечыць такую пастаноўку самасправаздач, каб яны ахаплялі работу комуніста, перш за ўсё, як члена партыі і большэвіцкага арганізатара мас (ўдзел у партыйным жыцці, работа над сабой, выхаваўчая работа сярод беспартыйных)».

Прывядзем рад прыкладаў, якія сведчаць аб вялікім значэнні самасправаздач для ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў.

На шпаларэзным заводзе член партыі Акуліч, палітычна слаба развіты, не хацеў рэгулярна чытаць газеты і наведваць партыйныя сходы. На адным з партсходаў была заслухана яго індывідуальная справаздача. Недахопы Акуліча грунтоўна абгаварылі і парашылі даваць яму паасобныя заданні, рэгулярна правяраючы іх выкананне. З таго часу Акуліч рэгулярна наведвае заняткі палітгуртка, чытае газеты, грунтоўна ўзяўся за вывучэнне праграмы і статута партыі, акуратна выконвае заданні парторга.

Партарганізацыя Лесакамбіната заслухала самасправаздачу члена партыі Емельянчыка, які дрэнна выконваў даручэнні парткома і зусім перастаў вучыцца. Як выявілася, Емельянчык, працуючы на біржы піламатар'ялаў, зусім не карыстаўся выхаднымі днямі, а гэта шкодна

адбівалася на вучобе. Дагаварыліся з начальнікам біржы аб выхадных днях для Емельянчыка, прымацавалі да яго больш развітага таварыша. Цяпер Емельянчык стаў прыкладным комуністам, рэгулярна займаецца ў гуртку па гісторыі партыі, некаторы час выконваў абавязкі парторга.

Партком будаўніцтва Гідролізнага завода заслухаў самасправаздачу кандыдата партыі тав. Рубіна. Выявілася, што газеты Рубін чытае нерэгулярна, у гуртку па гісторыі партыі займаецца слаба, бо не дазваляюць цяжкія сямейныя абставіны—жонка часта хварэе, і прыходзіцца ўдзяляць ёй многа ўвагі. Партком дагаварыўся аб пасылцы жонкі Рубіна на лячэнне, прымацаваў для дапамогі яму ў занятках члена партыі Гурэвіча і прапанаваў Рубіну цясней звязацца з партгабінетам. Указанні парткома выкананы.

З паданых прыкладаў відаць, што галоўны ўпор пры самасправаздачах робіцца на пытанне палітычнай вучобы. Гэта, безумоўна, не дрэнна. Але буйнейшым недахопам пераважнай большасці самасправаздач трэба лічыць тое, што ў іх абыходзіцца выкананне комуністам іншых патрабаванняў, прад'яўляемых яму статутам акрамя вучобы.

Праверка партыйных дакументаў наглядна паказала, што статут партыі, гэта аснова партыйнага жыцця, часта не выконваўся і проста скажаўся, што многія комуністы слаба засвоілі статут, а рад сакратароў парткомаў і парторгаў не заглядалі ў яго месяцамі, а то і цэлымі гадамі. Засмечанасць партыйнай арганізацыі чуждымі і класававарожымі элементамі, арганізацыйная распушчанасць былі вынікам ігнаравання статута партыі і прытуплення большэвіцкай пільнасці.

Самасправаздачы комуністаў, не ўвязаныя з іншымі пунктамі статута партыі, не маглі даць і поўнацэнных рэзультатаў.

У другім пункце статута з выключнай яснасцю ўказана:

«Член партыі абавязан:

а) захоўваць найстражэйшую партыйную дысцыпліну, актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці партыі і краіны, праводзіць на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў;

б) няўстанна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над засваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і растлумачваць іх беспартыйным масам;

в) як член кіруючай партыі ў Совецкай дзяржаве,—быць узорам захоўвання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, авалодваць тэхнікай сваёй справы, безупынна павышаючы сваю вытворчую, дзелавую кваліфікацыю».

Праверка партыйных дакументаў вельмі многаму навучыла комуністаў, у прыватнасці дапамагла правільнай пастаноўцы самасправаздач.

Возьмем к прыкладу Бабруйск:

На заводзе імя Кірава партарганізацыя заслухала даклады комуністаў Яцевіча і Гарэліка аб тым, як яны выконваюць статут партыі. Па дакладах разгарнуліся ажыўленыя спрэчкі. Амаль усе прысутныя прынялі ўдзел у грунтоўным абгаварэнні работы заслуханых таварышоў з пункту погляду выканання імі статута партыі. У прынятым рашэнні адзначаны іх недахопы і вызначаны канкрэтныя заданні для кожнага.

Партарганізацыя швейнай фабрыкі імя Дзержынскага заслухала даклады тт. Вендрова, Паланецкага, Салановіча і Зорына аб выкананні статута партыі. Сакратар парткома тав. Гейфман зрабіла судаклад аб выкананні пяцідзесятага пункта статута. Такім чынам сход абгаварыў работу не толькі паасобных комуністаў, але і ўсёй пярвічнай партарганізацыі. У спрэчках выступіла 25 чалавек, якія звярнулі ўвагу на канкрэтныя недахопы ў рабоце дакладчыкаў і ўсёй пярвічнай партарганізацыі.

У прынятым рашэнні ўказана, што тав. Вендроў дрэнна засвойвае праграму партыйнай школы, бо слаба рыхтуецца да заняткаў. Адзначан рад недахопаў і ў рабоце на вытворчасці. Усім комуністам даны канкрэтныя заданні па падрыхтоўцы стаханаўскай дэкады.

Далейшая работа гэтых таварышоў сведчыць аб тым, што яны ўлічылі заўвагі сходу, больш упарта сталі працаваць як над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, так і на вытворчасці.

Прыведзеныя станоўчыя прыклады, на жаль, не характэрны для ўсіх пярвічных партарганізацый. У гэтай справе многа яшчэ недахопаў, шмат недаробленага.

Перш за ўсё кідаецца ў вочы адсутнасць сістэмы. Заслухаюць тры-чатыры самасправаздачы на адным сходзе і надоўга забудуць пра іх, пакуль хто-небудзь з комуністаў не правініцца. Трэба памятаць, што самасправаздачы павінны заслухоўвацца рэгулярна.

Часта самасправаздачы ставяцца проста для запаўнення абвесткі дня, калі да сходу не падрыхтаваны іншыя пытанні. Прызначаная ў дзень схода, а ў лепшым выпадку—за адзін-два дні да сходу, самасправаздача носіць чыста фармальны характар, аказёньваецца.

Такія адносіны да жывой справы з'яўляюцца галоўным недахопам самасправаздач. Вельмі часта па справаздачы выносяць празмерна доўгія рэзалюцыі, у якіх комуністу даюцца парады і ўказанні на ўсе выпадкі жыцця. Многія таварышы не разумеюць таго, што нават вельмі добрая рэзалюцыя не забяспечвае поспеху справы. Поспех будзе толькі ў тым выпадку, калі партком пасля самасправаздачы прыме ўсе меры, каб узняць у комуніста адчуванне адказнасці за яго партыйную вучобу і работу на вытворчасці, **а галоўнае—забяспечыць яму ў гэтым штодзенную канкрэтную дапамогу.**

Ацэнку самасправаздачы комуніста, з пункту погляду патрабаванняў статута партыі, трэба даваць, перш за ўсё, на падставе аналізу таго, як ён выконвае прынятае рашэнне на практыцы і ў якой меры дапамагаюць яму ў гэтым члены партыі і партыйная арганізацыя.

Прывядзем характэрны прыклад. У партарганізацыі бабруйскага Лесакамбіната не апошняе месца ў абвесцы дня агульных сходаў і паседжанняў парткома займаюць самасправаздачы комуністаў. Яны далі ўжо не мала станоўчых вынікаў, але часам носяць фармальны характар.

Не так даўно, калі пасля праверкі партдакументаў прашоў ужо значны час, партком раптам выявіў, што кандыдат партыі з 1932 года Трафімаў Д. І. на працягу 10 месяцаў не плаціў партыйных узносаў і ад партыйнага жыцця адарваўся.

На камбінаце не мала заслухалі справаздач, многа гаварылі і аб тым, што праверка дапамагла вывучыць комуністаў, а вось Трафімава заслухаць часу не знашлі. Прыведзены факт лішні раз сведчыць аб тым, што часам рэзалюцыі засланяюць жывога чалавека,

што адносіны да самасправаздачы комуніста носяць часта фармальны характар.

Нельга таксама не адзначыць, што заводскі друк прымае слабы ўдзел у падрыхтоўцы да самасправаздач, тым часам як роля яго ў гэтай справе агромна.

Задача партарганізацый заключаецца ў тым, каб зрабіць самасправаздачу адной з форм калектыўнай партыйнай праверкі работы кожнага комуніста. Яна будзе вырашана з поспехам, калі элементы фармальных адносін да самасправаздач ліквідуюцца як мага хутчэй.

---

**С. Мышалаў**

**Сакратар дубровенскага РК КП(б)Б**

# Палітычнае выхаванне мас—у цэнтры ўвагі

Ажыццяўленне велізарнейшай у гісторыі чалавецтва задачы—пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства—патрабуе безупыннага росту культурнага і палітычнага ўзроўню кожнага ўдзельніка гіганцкай соцыялістычнай будоўлі.

Перавыхаванне калгаснікаў, нядаўніх дробных уласнікаў, у свядомых працаўнікоў соцыялістычнага грамадства, ліквідацыя спадчыны мінулага—дробнаўласніцкіх настрояў і звычаяў, якія жывуць яшчэ сярод адсталай часткі калгаснікаў, паўстае перад намі як задача сугуба актуальнага палітычнага значэння.

Ва ўмовах пераможнага калгаснага ладу шпарка ўзнімаецца матар'яльны і культурны ўзровень калгаснікаў, расце прадукцыйнасць працы, павышаюцца культурныя запатрабаванні шырокіх слаёў насельніцтва калгаснай вёскі. Указанні любімага правадыра народаў вялікага Сталіна аб тым, што «кадры вырашаюць усё», сталінскія клопаты аб жывым чалавеку, рашучы паварот партарганізацыі да справы выяўлення, выхавання і вырошчвання кадраў узнялі новыя слаі людзей на барацьбу за новае, шчаслівае жыццё, за далейшыя перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Практыка работы кожнага раёна, кожнага калгаса з усёй відавочнасцю паказала, якая магутная сіла заложана ў калгасным ладзе, якія невычэрпныя людскія рэзервы маюць калгасы, якіх выдатных вынікаў можна дасягнуць у справе вырошчвання кадраў пры ўмове правільнай пастаноўкі гэтай справы, пры ўмове канкрэтнай барацьбы за рэалізацыю ўказанняў тав. Сталіна аб тым, што кадры вырашаюць усё, пры ўмове цеснай сувязі з масамі, кіраўніцтва імі, клопатаў аб іх матар'яльным, культурным і палітычным росце.

Дубровенскі раён у правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній і выкананні мерапрыемстваў партыі і ўрада на працягу доўгага часу быў самым адстаючым у рэспубліцы і не выходзіў з чорнай дошкі.

Асноўныя прычыны заключаліся перш за ўсё ў адсутнасці бальшэвіцкай арганізаванасці, у няўменні працаваць у масах, выяўляць і вырошчваць кадры, у падмене культурна-масавай і палітычна-выхаваўчай работы сярод калгаснікаў голым адміністраваннем.

Варта было толькі разбіць гнілыя апартуністычныя настроі, глыбей залезці ў калгасы, цясней звязацца з масамі, мабілізаваць іх на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, укараніць у свядомасць перадавых людзей, лепшай часткі калгаснікаў і калгас-

ніц, што адставанне—ганьба, узняць ярасць мас на барацьбу з кулацкімі і варожымі элементамі, пралезшымі ў калгасы, супроць лодыраў і парушальнікаў працоўнай дысцыпліны, рашуча ўзяцца за вырошчванне калгасных кадраў, як рэзультаты аказаліся зусім іншымі.

1935 год ужо з'явіўся пераломным. Раён пачаў рашуча ліквідаваць сваё адставанне: асноўныя віды сельскагаспадарчых работ выканаў на больш-менш здавальняючым узроўні, забяспечыўшы больш раннія тэрміны сяўбы, якасць догляду за пасевамі, своечасовую ўборку і т. д.

Асабліва трэба адзначыць, што ў 1935 годзе раён паспяхова справіўся з арганізацыяй работы па ільну. Сельская гаспадарка Дубровенскага раёна мае ільнаводчы напрамак. Лён з'яўляецца вядучай культурай у раёне, якая вырашае поспех усяго сельскагаспадарчага года. Своечасовую-ж апрацоўку трасты значна затрудняе адсутнасць адпаведных заводаў. Не гледзячы на гэта, у 1935 годзе мы ўпершыню выканалі дзяржаўны план ільназагатовак не толькі поўнасцю, але і датэрмінова, на 50 дзён раней чым у 1934 г. і здалі дзяржаве больш 100 тон добраякаснай ільнапрадукцыі звыш плана.

У чым сакрэт перамогі? У тым, што партыйная арганізацыя Дубровеншчыны зрабіла для сябе сур'ёзныя бальшэвіцкія вывады з указанняў ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало аб нецярпімасці далейшага адставання раёна, улічыла промахі і памылкі, дапушчаныя кіраўніцтвам у мінулым, і мабілізавалася на барацьбу за ўмацаванне калгасаў. У калгасах створан беспартыйны актыў, на які апіраюцца ў сваёй рабоце пярвічныя партарганізацыі і паасобныя камуністы. Нядрэнна скарысталі леташнюю зіму для падрыхтоўкі кіруючых калгасных кадраў. Праз розныя віды вучобы (палітшколы старшынь калгасаў, кароткатэрміновыя агратэхнічныя курсы брыгадзіраў, адказных па ільну, звенняводаў і інш.) прапушчана больш 3000 чалавек. З гэтымі людзьмі раённы камітэт партыі падтрымліваў жывую індывідуальную і пісьмовую сувязь, дапамагаў ім у арганізацыі соцспаборніцтва, ліквідацыі непаладкаў.

Выключна вялікую ролю адыграў сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі. Шырокія масы калгаснікаў прынялі яго з небывалым уздымам палітычнай і вытворчай актыўнасці. Моцна выкарыстан такі гістарычнай важнасці фактар, як уручэнне калгасам дзяржаўных актаў на вечнае карыстанне зямлёй.

Праверка партыйных дакументаў з'явілася велізарнейшым арганізацыйна-палітычным мерапрыемствам для ўзмацнення партыйных радоў і ўздыму ўсёй нашай работы на новую, вышэйшую ступень.

Праверка садзейнічала павышэнню арганізуючай ролі і адказнасці комуністаў за даручаную справу, за больш цесную сувязь з масамі, забяспечыла павышэнне вядучай ролі комуністаў у справе развіцця і ўзначальвання стаханаўскага руху ў калгасах.

Рашаючым рычагом паспяховага завяршэння ўсяго цыкла сельскагаспадарчых работ 1935 года, асабліва па ільну, з'явіўся, бясспрэчна, стаханаўскі рух, з вялікім энтузіязмам падхоплены перадавымі калгаснікамі і калгасніцамі. Палітычнае і практычнае значэнне стаханаўскага руху, як гаварыў таварыш Сталін, «заключаецца ў тым, што ён з'яўляецца такім рухам, які ламае старыя тэхнічныя нормы, як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну», што стаханаўскі рух «падрыхтоўвае ўмовы для пераходу

ад соцыялізма к комунізму». Гэтыя кароткія, але глыбокія па сваіму зместу словы таварыша Сталіна, паказваюць, якія агромныя перспектывы адкрываюцца на ўсіх участках нашай работы. З асаблівай сілай пацвердзілася гэта і на практыцы прымянення стаханаўскіх метадаў у калгаснай вытворчасці.

Да разгортвання стаханаўскага руху была ўстаноўлена норма на такой працаёмкай рабоце, як тропка лёну, у сярэднім 8 кгр. Але, як правіла, ні адзін калгас яе не выконваў. Ад калгасніц часта прыходзілася чуць скаргі на «непасільнасць» гэтай нормы, прыводзіліся розныя довады немагчымасці вытрапаць за нармальны рабочы дзень 8 кгр. ільнавалакна. Зразумела, што невыкананне нормы недапушчальна зацягвала выкананне дзяржаўнага плана.

Стаханаўскія метады работы бязлітасна апракінулі ўсе гэтыя развражанні і паказалі іх паўнейшую беспадстаўнасць. Першыя-ж крокі арганізацыі трапання лёну па-стаханаўску і практычныя вынікі, дасягнутыя ў калгасах «Кагановіча» і «Чырвонае ўзбярэжжа» **Шчарбянок** Варварай, **Шчарбянок** Тадорай і **Нямковай** Марфай, шырокая папулярызацыя ва ўсіх калгасах раёна вопыту гэтых перадавых калгасніц-стаханавак далі магчымасць хутка пераканаць многія сотні калгасніц не толькі ў тым, што нормы рэальны, але і ў тым, што яны значна заніжаны.

Калгасніцы Шчарбянковы Варвара і Тадора (абодвум толькі па 17 год) і Нямкова Марфа, замест устаноўленай нормы ў 8 кгр., паступова дабіліся выпрацоўкі да 50 кгр. ільнавалакна ў дзень. Характэрна, што калі мы паставілі гэтых стаханавак на чале звенняў (па 8 чалавек), то кожная калгасніца такога звяна на другі-ж дзень пачала перавыконваць норму на 300%, дасягнуўшы выпрацоўкі 25 кгр. у дзень. Вопыт гэтых перадавых, лепшых людзей калгаснай вытворчасці быў дружна падхоплен і ў іншых калгасах. Больш 300 калгасніц падвоілі і патроілі нормы тропкі лёну і атрымалі права на ганаровае званне стаханавак. Колькасць калгасніц, якія з разгортваннем стаханаўскага руху моцна падцягнуліся і сталі выпрацоўваць норму, безупынна ўзрастае. Стаханаўскія метады работы перакінуліся і ў астатнія галіны калгаснай вытворчасці, дзе мы маем ужо значную колькасць знатных людзей—стаханаўцаў.

Сельскагаспадарчая вытворчасць мае агромныя невычэрпныя рэзервы, выяўленне якіх знаходзіцца ў прамой залежнасці ад узроўню палітычна-масавай і культурна-выхаваўчай работы сярод калгаснікаў і калгасніц, у прамой залежнасці ад пасп яховага вырошчвання кадраў, ад чулых і клапатлівых адносін да іх. Гэта тым больш важна зараз, калі мы ўступілі ў рашаючы этап барацьбы за ажыццяўленне пастаўленай таварышом Сталіным задачы—дабіцца на працягу бліжэйшых год вытворчасці 7—8 мільярдаў пудоў зярна.

Аб гэтым наказе правадыра працоўных гавораць зараз у кожным калгасе на сходах, у брыгадах. На аснове гэтага ўказання калгасы нашага раёна будуюць свае планы, каб рэзка ўзняць ураджай зернавых, лёну і бульбы. Падрыхтоўка да веснавой сяўбы—адзін з рашаючых фактараў у барацьбе за высокі ўраджай, за выкананне пастаўленай таварышом Сталіным задачы— даць краіне 7—8 млрд. пудоў зярна.

У калгасах раёна шырока разгарнулася палітычна-масавая работа вакол падрыхтоўкі да веснавой сяўбы. Асноўная ўвага ўдзяляецца цэнтральнай фігуры вытворчасці—кіруючым калгасным кадрам і стаханаўцам. Большасць іх будзе ахоплена рознымі курсамі. 100 стар-

шынь калгасаў, 50 палявых брыгадзіраў і 60 адказных па ільну за зіму пройдуць 15-дзенныя курсы перападрыхтоўкі, на месячных курсах будзе падрыхтавана 40 новых старшынь калгасаў і 50 загадчыкаў калгасных ферм. У спецыяльна створанай месячнай аграпалітшколе будуць навучацца 50 стаханаўцаў. Першы выпуск школы стаханаўцаў ужо адбыўся. Выпушчана 25 чалавек.

Створаны дзве школы-перасоўкі (агратэхнічная і зоатэхнічная) з тэрмінам навучання ў 10 дзён. Кожная школа ахопіць па 360 чал. і зробіць 9 выпускаў. Школы далі ўжо 3 выпускі. Для павышэння агратэхнічнага ўзроўню калгаснікаў створаны 70 агратэхнічных гурткоў у калгасах з разлікам ахапіць не менш як 3000 калгаснікаў. Ва ўсіх сельсоветах у цвёрда ўстаноўленыя дні (11 і 26) падрыхтаваныя адказныя раённыя работнікі і інструктары райкома праводзяць паліт-заняткі з усім кіруючым складам калгасаў.

У значнай частцы калгасаў працуюць самастойныя гурткі па паліт-грамаце і бягучай палітыцы. У гурткі ўцягнута даволі вялікая колькасць калгаснікаў. Так, у палітгуртках калгасаў «Кагановіча», «Блюхера», «Белдрэс», «Комунар» рэгулярна займаюцца 65 чал. па падручніку Карпінскага, у калгасах «Рассвет», «Першае Мая», «Чырвоныя горы» і «Чырвонае Чубакова» гурткі бягучай палітыкі наведваюць 73 чал., у калгасах «Ударнік пяцігодкі», «XIII Окцябр», «Перамога», «Калініна» гурткі для калгаснага актыва наведваюць 59 чал. Прыблізна такое-ж становішча і ў астатніх калгасах. Многія калгасы стварылі гурткі мастацкай літаратуры, якія паставілі задачу—максімальна выкарыстаць зімовы перыяд, як найбольш спрыяючы, для шырокага развароту культурнай і палітычна-масавай работы. Гэта задача ў асноўным нядрэнна ажыццяўляецца.

Папярэднія даныя аб рабоце сеткі курсаў, школ і гурткоў паказваюць выключную зацікаўленасць калгаснікаў у павышэнні свайго палітычнага ўзроўню і аўладання тэхнікай. Заняткі ў асноўным наведваюцца здавальняюча. Слухачы адносяцца да іх уважліва і даволі актыўна. Праведзеныя пры выпусках аграпалітшколы стаханаўцаў і 10-дзенных агразоашкол-перасовак іспыты паказалі добрую паспяховасць. Значная частка слухачоў здала іспыты на выдатна.

Пры выпуску слухачы бралі на сябе самаабавязацельствы. Так, тав. Вайнераў—старшы конюх калгаса «Маяк пяцігодкі», Савінскага сельсовета, у сваёй заяве на імя райкома партыі піша: «Праслухаўшы 10-дзенныя курсы, я добра ўсвядоміў мэты і задачы, пастаўленыя партыяй у галіне развіцця жывёлагадоўлі. У 1936 годзе даю абяцанне захаваць усіх жарабят, а таксама злучыць усіх кабыл у злучны перыяд, давесці коней да вышэй сярэдняй укормленасці і пусціць іх вясною ў паход за сталінскі ўраджай». Тав. Зайцаў—загадчык фермы калгаса «Ленінскі шлях»—піша: «Дзякую райкому партыі за тое, што ён арганізаваў для нас школу. Мне 60 год. Працую на ферме паўтара гады. Чуў я, што ёсць у нас зоатэхнік Апет, але ніколі не бачыў яго на ферме. Мне працаваць было цяжка, бо ніхто не даваў указанняў. Думаў кінуць гэту работу. Але зараз, калі на курсах даведаўся аб тым, якія задачы паставіў перад намі таварыш Сталін у галіне развіцця жывёлагадоўлі, абяцаю з атрыманымі ведамі працаваць па-стаханаўску і выканаць указанні таварыша Сталіна.

25 выпускнікоў аграпалітшколы стаханаўцаў у сваім калектыўным лісце з асаблівай шчырасцю выказваюць падзяку за прадстаўленую ім магчымасць падвучыцца і падкрэсліваюць, што ў гэтым факце

яны бачаць вялікія клопаты нашай партыі аб людзях. У адказ яны бяруць на сябе абавязкі: дабіцца ў сваіх калгасах ураджаю ў сярэднім не менш як 5 цэнт. ільнавалакна і 100 пудоў зернавых з гектара, значна перавыканаць устаноўленую ўраджайнасць па бульбе, поўнасцю захаваць маладняк цялят, дабіўшыся прыросту не менш 1 кгр. у дзень, даць не менш 20 дзелавых парасят з адной свінаматкі, давесці ўдой малака ў сярэднім да 3000 літраў.

Можна прывесці дзесяткі падобных вытрымак з лістоў калгаснікаў, скончыўшых кароткатэрміновыя курсы. Усе яны сведчаць аб тым, як шчыра і высока ацэньваецца калгаснікамі чуласць і клопаты партыйных і совецкіх органаў, як гіганцкі вырасла цяга шырокіх мас калгаснікаў да культуры, агратэхнічных ведаў, аўладання тэхнікай вытворчасці. Гэты нябачаны культурны ўздым свядомасці людзей ёсць адзін з важнейшых вынікаў перамогі калгаснага ладу.

За апошні час не мала зроблена ў галіне разгортвання культурнаасветнай работы на вёсцы. Зараз арганізуецца 50 мастацка-літаратурных гурткоў. 20 гурткоў ужо рэгулярна працуюць. Чытаюцца творы лепшых совецкіх пісьменнікаў: «Маці» М. Горкага, «Жалезны паток» Серафімовіча, «Дрыгва» Я. Коласа, «Паднятая цаліна» Шолахава і рад іншых. Кіруюць гурткамі лепшыя выкладчыкі мовы і літаратуры.

Прыступлена да арганізацыі 20-ці драматычных і харавых гурткоў. На працягу зімовага перыяду будзе прачытана ў калгасах аграномамі, урачамі і іншымі спецыялістамі не менш 300 лекцый на розныя тэмы. Асоавіяхім арганізуе 60 вайсковых гурткоў. У 40 калгасах будуць створаны фізкультурныя гурткі. У 50 найбольш буйных калгасах намечана ўстанавіць радыёпрыемнікі. 9 кіно-перасовак правядуць не менш 1300 сеансаў у калгасах, ахапіўшы 125.000 чалавек. У 45 школах для дарослых 1500 калгаснікаў і калгасніц будуць вывучаць агульна-адукацыйныя прадметы: матэматыку, геаграфію, родную мову і т. д.

Аб росце культуры сведчыць і такі факт, што за адзін толькі 1935 год калгасы закупілі для папаўнення сваіх бібліятэк больш як на 200.000 руб. літаратуры. 110 калгасаў маюць свае бібліятэкі (ад 100 да 400 кніг у кожнай), кніжны фонд у большасці складаецца з навейшай літаратуры. Зараз арганізуецца яшчэ 50 такіх бібліятэк. Пастаўлена задача—давесці колькасць сталых чытачоў калгасных бібліятэк да 15000 чалавек. Калгасамі на працягу 1936 года будзе закуплена літаратуры на 300.000 рублёў.

Найслабейшы ўчастак культурна-асветнай работы—гэта хатычытальні. Ні па культурнаму выгляду ні па зместу сваёй работы яны не могуць задаволіць культурныя запатрабаванні шырокіх мас калгаснікаў. Зараз праводзіцца ўжо рад практычных мерапрыемстваў для палепшання работы хат-чытальняў (рамонт, пабелка, ацяпленне). У паасобных сельсоветах падбіраюцца новыя памяшканні. Надзвычай дрэнна абстаіць справа з кадрамі. Загадчыкі хат-чытальняў па ідэйна-палітычнаму і культурнаму ўзроўню яўна не адпавядаюць свайму прызначэнню. Органы асветы, у першую чаргу Наркамасветы, змаглі-б зрабіць куды больш, калі-б як след заняліся культурнай работай на вёсцы як у справе падрыхтоўкі, так і метадычнага кіраўніцтва кадрамі.

Калгасная вёска прад'яўляе больш высокія патрабаванні да культурных устаноў. Значная частка калгасаў ужо мае свае клубы і чырвоныя куткі. Мы паставілі перад сабой задачу—у 1936 годзе пабуда-

ваць 20 калгасных клубаў і абсталяваць 150 чырвоных куткоў з такім разлікам, каб у кожным калгасе быў свой культурны ачаг. У гэтых умовах роля хат-чытальняў павінна заключацца ў метадычным кіраўніцтве, хата-чытальня павінна стаць цэнтрам, яднаючым усе культурныя ўстановы данага сельсовета.

Мы жывем якраз у такі час, калі патрэбнасць у нашай большэвіцкай агітацыі расце з кожным днём. Канчатковае выкарчаванне рэштак капіталістычных элементаў, асколкаў класавага ворага, можа быць з поспехам праведзена на аснове павышэння рэволюцыйнай пільнасці, палепшання якасці палітычнай агітацыі, выхавання і згуртавання вакол партыйнай арганізацыі калгасных мас.

Вырашэнне гэтай задачы мы паставілі ў цэнтры ўсёй нашай партыйна-масавай работы. Мерапрыемствы, якія праводзіць наша партарганізацыя ў галіне палітычнага выхавання калгасных мас, вылучэння і вырошчвання кадраў, укаранення культуры і агратэхнікі ў соцыялістычную вёску, даюць ужо практычныя вынікі ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і ўключэння шырокіх мас калгаснікаў і калгасніц у барацьбу за большэвіцкія калгасы, за заможнае і культурнае жыццё. Але дасягнутае ні ў якой меры здаволіць нас не можа. Рад актуальнейшых задач застаецца яшчэ не вырашаным, не ліквідаваны перашкоды на нашым шляху—перажыткі сталыпіншчыны і прышчэпаўшчыны.

Хутарская сістэма—гэта цяжкая спадчына прышчэпаўшчыны—стварае вялікія труднасці ў справе правільнай арганізацыі калгаснай вытворчасці і поўнага выкарыстання ўсіх наяўных працоўных рэсурсаў, асабліва жаночай рабочай сілы, значна зніжае эфектыўнасць культурна-бытавых устаноў (яслі, пляцоўкі, сталоўкі, чырвоныя куткі), якія слаба выкарыстоўваюцца з прычыны вялікай адлегласці паміж хутарамі. Асабліва адмоўна ўплывае хутарское рассяленне на грамадскую актыўнасць калгаснікаў, а ў першую чаргу—калгасніц. Яны рэдка наведваюць агульныя сходы, вытворчыя нарады і такім чынам зусім слаба ўдзельнічаюць у вырашэнні важнейшых пытанняў калгаснага жыцця і вытворчасці. Таму сцягванне хутароў у калгасныя цэнтры—адна з актуальнейшых задач у барацьбе за заможнае і культурнае жыццё калгаснікаў. Гэтая задача практычна ўжо вырашаецца. За 1934 і 1935 гады перасяліліся з хутароў у калгасныя цэнтры 1500 калгасных гаспадарак. Будуюцца новыя калгасныя вёскі. У 1936 годзе мы паставілі перад сабой задачу—сцягнуць яшчэ 2000 хутароў.

Большасць калгасаў з хутарскім рассяленнем унесла пры абгаварэнні і прыняцці статута сельскагаспадарчай арцелі ў якасці дадатку пункт аб сцягванні хутароў. У сувязі з першай гадавінай прыняцця статута сельскагаспадарчай арцелі на II усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў арганізавана цяпер масавая праверка выканання статута па кожнаму калгасу раёна. Гэта праверка дасць магчымасць яшчэ вышэй узняць сілу статута, як непарушнага закона калгаснага жыцця, і паскорыць выкананне вызначаных статутам мерапрыемстваў, у тым ліку і сцягванне хутароў.

Мерапрыемствы ў галіне палітычнага выхавання калгаснікаў і арганізацыі культурна-асветнай работы на вёсцы, у спалучэнні з масавай праверкай ажыццяўлення сталінскага статута, дапамогуць паспяхова вырашэнню цэнтральнай нашай задачы—забяспечыць высокі сталінскі ўраджай, не толькі выканаць, але і перавыканаць заданні па ўраджайнасці. Мы маем усе магчымасці давесці ўраджай-

насць зернавых не менш як да 12 цэнтнераў, ільнавалакна да 5,9 цэнт., бульбы да 125 цэнт. з кожнага гектара.

Калгасныя масы пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі па-бальшэвіцку разгарнулі падрыхтоўку да вясны. Перадавыя калгасы ў парадку самаабавязацельстваў высоўваюць сустрэчныя паказчыкі па ўраджайнасці, якія значна перавышаюць планавыя заданні. Агромная дапамога нам аказваецца партыяй і ўрадам. Сельская гаспадарка раёна ўзбройваецца новай машыннай тэхнікай: будуецца другая МТС, завозіцца значная колькасць новых складаных машын і камбайнаў. Партыйная арганізацыя ўзбагацілася вопытам, абрасла моцным беспартыйным актывам.

Абмен партыйных білетаў—гэта важнейшае арганізацыйна-палітычнае мерапрыемства дапаможа нам яшчэ вышэй узняць нашу большэвіцкую арганізаванасць і дысцыплінаванасць, павысіць рэвалюцыйную пільнасць і непрымірымасць да класавых ворагаў. На гэтай аснове, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і таварыша Гікало, забяспечым паспяховае выкананне задач 1936 года і ператворым яго ў год стаханаўскі, у год рэкорднага ўраджаю, яшчэ цясней згуртуемся вакол ЦК ВКП(б) і нашага любімага правадыра—таварыша Сталіна

**Н. Кацельнікаў і Д. Фрыдзон**

**Сакратары дрысенскага РК КП(б)Б**

# Палітмасавая работа з беспартыйным актывам на вёсцы

Кіруючыся ўказаннямі партыі і правадыра—таварыша Сталіна, наша партарганізацыя ўжо дабілася некаторых поспехаў у справе арганізацыі і згуртавання вакол сябе беспартыйнага калгаснага актыва.

Ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі штодня растуць усё новыя і новыя актывісты, свядомыя барацьбіты за далейшае ўмацаванне калгасаў. З брыгадзіраў і звеннявых, лепшых жанчын калгасаў выходзяць таленавітыя арганізатары, якія вылучаюцца на адказныя пасты (заг. фермай і т. п.). Жывёлагадоўчыя брыгады далі ўжо не мала стаханаўцаў (Ганус Юстын, Гуляй Туфія, Шнітко Марыя і рад іншых).

Інстытут інспектароў па якасці, уведзены ў кожным калгасе, значна павялічвае актыў у калгаснай вытворчасці. Інспектары па якасці ў большасці сталі выдатнымі арганізатарамі вытворчага жыцця калгасаў, сапраўднымі дазорамі ў барацьбе за якасць работы, за ўраджай. На-жаль, яшчэ не ўсе партарганізацыі і комуністы-адзіночкі сістэматычна працуюць з беспартыйным актывам, своечасова выкарыстоўваюць яго.

Старшыні калгасаў тт. Сафроненка (юзэфаўская партарганізацыя), Кралько (росіцкая партарганізацыя) і рад іншых комуністаў не хочуць зразумець той ісціны, што без удзелу беспартыйнага актыва яны не справяцца з ускладзенай на іх партыяй задачай арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў. Яны ніяк не могуць раўняцца па тых партарганізацыях сельсоветаў і калгасаў, якія, згуртаваўшы вакол сябе вялікі актыў, ідучы ў перадавых радах пры выкананні чарговых гаспадарча-палітычных задач, з'яўляюцца прыкладам у пастаноўцы калгаснай вытворчасці (Дзярновіцкі, Луначарскі, Прудзінкаўскі).

Асноўнай формай работы з беспартыйным актывам з'яўляюцца у нас нарады калгасных брыгад, рэгулярна склікаемыя раз у два тыдні. На гэтых нарадах звычайна ставяцца пытанні калгаснай вытворчасці, звязаныя з выкананнем асноўных гаспадарча-палітычных задач, абгаварваюцца важнейшыя рашэнні партыі і ўрада, заслухоўваюцца самасправаздачы брыгадзіраў. Водзывы саміх брыгадзі-

раў аб гэтых нарадах—найлепшыя. Нарады з'яўляюцца для іх лепшаю школай, узбагачаюць вопыт работы, значна пашыраюць светапогляд, узнімаюць адказнасць, зацікаўленасць і актыўнасць у справе далейшага ўмацавання калгаснага ладу. Разам з гэтым яны даюць нам магчымасць выхаваць і падрыхтаваць брыгадзіраў для вылучэння на больш адказную кіруючую работу ў калгасе. Частка брыгадзіраў ужо вылучана старшынямі калгасаў («Будзённага», «Авангард», «Баявы партызан», «Комінтэрн», «Красіна» і інш.).

Аналагічныя нарады практыкуюцца і ў іншых галінах сельскагаспадарчай вытворчасці. Нарады старшынь калгасаў, загадчыкаў ферм, звеннявых і розныя іншыя праводзяцца ў раённым і сельсавецкім маштабе прадстаўнікамі райкома і райвыканкома.

Палітычную граматнасць актывістаў узнімаюць спецыяльна арганізаваныя для іх палітшколы. Па раёну такіх школ 6. Яны ахапляюць да 100 чалавек. Акрамя таго, палітгутаркі ўключаны ў праграму 33 гурткоў агратэхвучобы і 22 гурткоў зоаветвучобы, якімі ахоплена да 1000 чалавек беспартыйнага актыва: брыгадзіры, заг. фермамі, інспектары па якасці, конюхі і іншыя.

Беспартыйны актыў таксама прыцягваецца на адкрытыя партыйныя сходы, паседжанні праўлення і вытворчыя нарады ў калгасах, пленумы сельсаветаў, пленумы раённага выканаўчага камітэта. Усё гэта згуртоўвае беспартыйны актыў вакол партарганізацый сельсаветаў і праўленняў калгасаў, узнімае яго палітычную граматнасць, выкоўвае адданых барацьбітоў за далейшае ўмацаванне калгасаў.

Асноўная маса калгасаў раёна ў мінулым годзе дабілася вялікіх вытворчых перамог. Выраслі дзесяткі і сотні новых знатных людзей калгаснай вёскі: брыгадзіраў, памочнікаў брыгадзіраў, звеннявых, інспектароў па якасці, трактарыстаў і іншых майстроў калгасных палёў, актыўных барацьбітоў за ўмацаванне калгаснага ладу. Гэтыя перамогі трэба замацаваць і памножыць.

Нельга таксама забываць, што кадры калгаснага актыва ў асноўнай сваёй масе яшчэ вельмі маладыя, іншы раз не маюць дастатковага вопыту арганізатарскай работы, губляюцца ў труднай і складанай абстаноўцы. Значыць перад намі адказная задача—яшчэ энергічней узяцца за работу з масай беспартыйнага актыва, выкарыстоўваючы ўжо набыты ў гэтай справе вопыт, шукаючы новыя формы і метады выхавання, безупынна павышаючы яе культурны і палітычны ўзровень.

У раёне налічваецца яшчэ каля двух дзесяткаў калгасаў, дзе актыў або зусім не арганізаваны, або лічыцца толькі на паперы («Барацьбіт»—Галубоўскага сельсовета, імя Дзержынскага—Росіцкага сельсовета, «Карла Маркса»—Каркалецкага сельсовета, «Максім Горкі»—Сардыкаўскага сельсовета і рад іншых).

Наша бліжэйшая задача—арганізаваць моцны актыў у кожным калгасе, бо вопыт работы нам ясна паказаў, што толькі пры згуртаванні моцнага беспартыйнага актыва адстаючыя калгасы хутка знішчаюць свае недахопы.

Мы зараз праводзім рознага роду курсы па падрыхтоўцы для сельскай гаспадаркі кадраў масавай кваліфікацыі. На гэтых курсах сканцэнтраваны лепшыя людзі калгасаў. Сярод іх вядзецца вялікая выхаваўчая работа, што дасць нам магчымасць у далейшым пра-

вільна расстаўляць іх на тых ці іншых участках калгаснай вытворчасці.

Нам трэба так паставіць масавую работу, каб дабіцца далейшага ўмацавання калгасаў, палепшання работы праўленняў і старшынь, павышэння ролі агульных сходаў калгаснікаў і згуртавання іх вакол партыі.

Наша партыйная арганізацыя добра разумее, што ад правільнай і сістэматычнай работы з беспартыйным актывам на вёсцы залежыць поспех далейшага ўмацавання калгасаў і згуртавання калгаснікаў вакол партыі Леніна-Сталіна.

М. Поташ

# З гісторыі барацьбы большэвікоў з дробнабуржуазнымі партыямі ў рэволюцыю 1905-07 гг. на Беларусі

Адзіная пролетарская, паслядоўна-рэволюцыйная марксісцкая лінія ў рэволюцыі 1905-07 гг. была толькі ў большэвікоў. Толькі партыя большэвікоў была адзіным авангардам, адзіным кіраўніком пролетарыята ў рэволюцыі. Пролетарская лінія большэвікоў у рэволюцыі 1905-07 гг. цалкам спраўдзілася і атрымала бліскучую праверку. Пад кіраўніцтвам свайго геніяльнага правадыра—Леніна—большэвікі, у бязлітаснай барацьбе з меншавізмам, трацкізмам, эсэрамі і іншымі ворагамі рабочага класа, адстойвалі і праводзілі гэту пролетарскую лінію ў рэволюцыі. Побач з Леніным змагаўся яго верны саратнік—таварыш Сталін, які ўжо ў канцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя выступае як адзін з арганізатараў і кіраўнікоў большэвіцкай партыі, наносячы сваімі работамі, сваёй дзейнасцю ўдар за ўдарам меншавікам і іншым ворагам большэвізма, арганізуючы і кіруючы барацьбой пролетарыята за перамогу рэволюцыі 1905 г., за яе перарастанне ў соцыялістычную.

Большэвікі з самага пачатку павялі самую жорсткую барацьбу з усякага роду апартунізмам, з усімі ворагамі большэвізма, павялі барацьбу з эсэрамі, меншавікамі за ўплыў на рабочы клас. Ленін, большэвікі з самага пачатку вялі лінію на раскол з апартунізмам як у Расіі, так і на міжнароднай арэне.

Напомнім тут бязлітасную і пераможную барацьбу, якую вялі большэвікі Закаўказзя пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна, пачынаючы з канца 90-х гадоў, з грузінскім меншавізмам, які адыгрываў кіруючую ролю ў агульнарасійскім меншавізме (Жарданія, Чхэідзе, Цэрэтэлі і інш.).

І ў рэволюцыі 1905 года таварыш Сталін у барацьбе з закаўказскімі меншавікамі, эсэрамі, анархістамі і т. п. ворагамі нашай партыі адстойвае, абгрунтоўвае і прапагандуе ленінскую тэорыю рэволюцыі, большэвіцкі стратэгічны лозунг дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства, ідэю перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную і тактычныя задачы пролетарыята ў рэволюцыі. У непрымірымай барацьбе з ворагамі пролетарыята закаўказскія большэвікі пад кіраўніцтвам тав. Сталіна ажыццяўляюць большэвіцкую лінію ў рэволюцыі 1905 года (гл. даклад тав. Берыя).

Большэвікі вялі непрымірымую барацьбу з усімі дробнабуржуазнымі партыямі іменна таму, што:

Усе гэтыя «левыя» народніцка-эсэраўскія і меншавіцка-соцыял-дэмакратычныя групы, ад групы Чэрнова і максімалістаў

да групы Мартава і Троцкага, не гледзячы на іх рэволюцыйную фразеалогію, прадстаўлялі па сутнасці справы левае дробна-буржуазнае крыло буржуазнай дэмакратыі, якая стаяла за захаванне і «палепшанне» капіталізма, бо ўсе яны адмаўлялі магчымасць перамогі социялізма ў Расіі, выступалі супроць соцыялістычнага пераўтварэння Расіі, падтрымлівалі адзінства з абаронцамі, стаяўшымі за імперыялістычную вайну, выступалі супроць большэвіцкага лозунга аб ператварэнні вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую, вялі актыўную барацьбу супроць большэвіцкай палітыкі, разлічанай на паражэнне царскага ўрада ў імперыялістычнай вайне, вялі адзіным фронтам барацьбу супроць партыі Леніна, супроць большэвіцкай партыі» *).

Ленін, гаворачы аб руху ў 1905-07 гг., указваў, што «большэвізм выразіў пролетарскую сутнасць руху», а «меншавізм—яго апартуністычнае мяшчанска-інтэлігенцкае крыло».

Меншавікі выступалі з карэнным чынам адрознай ад большэвікоў лініяй у рэволюцыі. Лінія меншавікоў у рэволюцыі была буржуазнай. Яны адвяргалі гегемонію пролетарыята ў рэволюцыі 1905-07 гг., высоўваючы гегемонам у ёй буржуазію. Пролетарыяту яны адводзілі ролю «крайняй апазіцыі», імкнучыся такім чынам ператварыць пролетарыят у прыдатак буржуазіі, падпарадкваць яго буржуазіі.

На IV з'ездзе партыі таварыш Сталін так фармуляваў пытанне аб розніцы ліній большэвікоў і меншавікоў:

> «Або гегемонія пролетарыята, або гегемонія дэмакратычнай буржуазіі—вось як стаіць пытанне ў партыі, вось у чым нашы разнагалоссі» **).

Сялянства яны лічылі рэакцыйнай сілай і замест «палітыкі саюза рабочага класа з сялянствам яны аддалі перавагу палітыцы пагаднення з ліберальнай буржуазіяй» ***).

Яны адмаўлялі рэволюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пролетарыята і сялянства, якую яны «абвясцілі рэакцыйнай бланкісцкай схемай, якая супярэчыць развіццю буржуазнай рэволюцыі» ****). Выступаючы як агенты буржуазіі, меншавікі «адвяргалі прама лозунг дыктатуры», адмаўлялі **«самае істотнае і асноўнае ў разуменні «рэволюцыя»** і былі няздольны **«падрыхтоўваць яе** (дыктатуру—М. П.) **на справе»** *****). Меншавікі змагаліся супроць большэвіцкай ідэі перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

У цэлым уся лінія і тактыка меншавікоў у рэволюцыі 1905-07 гг. зводзілася да падпарадквання пролетарыята буржуазнаму лібералізму і вяла да паражэння рэволюцыі, да перамогі буржуазіі.

У лютым 1907 года таварыш Сталін так характарызаваў лінію меншавікоў:

> «Меншавікі гатовы аддаць на забыццё праграму-максімум, урэзаць праграму-мінімум і адвергнуць дэмакратычную рэспубліку, толькі-б не адпужаць ад сябе кадэтаў... Меншавікі замест

*) „Большевик" № 21 за 1935 г., стар. 23.
**) Пратакол IV з'езду РСДРП, стар. 235.
***) „Пытанні ленінізма", выд. X, стар. 471.
****) Там-жа.
*****) **Ленін**, т. XXV, стар. 433—34.

дыктатуры пролетарыята і сялянства прапануюць нам дыктатуру кадэтаў» *).

Той-жа лініяй паражэння рэволюцыі, перамогі буржуазіі была і авантурысцкая лінія трацкізма—разнавіднасці меншавізма. Як указвае таварыш Сталін, «поўменшавіцкая схема перманентнай рэволюцыі была падхоплена Троцкім (часткова Мартавым) і ператворана ў зброю барацьбы супроць ленінізма **).

Ленін, большэвікі вялі ў рэволюцыю 1905-07 гг. рашучую і бязлітасную барацьбу з трацкісцкай тэорыяй «перманентнай рэволюцыі». Троцкі адмаўляў ідэю гегемоніі пролетарыята. Ён цалкам стаяў на гэтай-жа меншавіцкай пазіцыі адмаўлення палітыкі саюза рабочага класа і сялянства.

Ён адвяргаў рэволюцыйна-дэмакратычную дыктатуру пролетарыята і сялянства, лічачы яе «неажыццявімай». Троцкі змагаўся з большэвіцкім стратэгічным планам перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, сцвярджаючы, што «без прамой дзяржаўнай падтрымкі еўрапейскага пролетарыята рабочы клас Расіі не зможа ўтрымацца на чале ўлады і ператварыць сваё часовае панаванне ў працяглую соцыялістычную дыктатуру».

Як гэта ярка паказаў таварыш Сталін, паводле плана Троцкага «для нашай рэволюцыі застаецца толькі адна перспектыва: празябаць у сваіх уласных супярэчнасцях і гніць на корні ў чаканні сусветнай рэволюцыі» ***).

На самай справе ўвесь ход развіцця рэволюцыі паказаў контррэволюцыйную сутнасць тэорыі «перманентнай рэволюцыі» Троцкага.

> «Трацкізм,—пісаў таварыш Сталін,—ёсць тэорыя перманентнай (безупыннай) рэволюцыі. А што такое перманентная рэволюцыя ў яе трацкісцкім разуменні? Гэта ёсць рэволюцыя без уліку маламоцнага сялянства, як рэволюцыйнай сілы. Перманентная рэволюцыя Троцкага ёсць, як гаворыць Ленін, «пераскакванне» праз сялянскі рух—«гульня ў захоп улады».

Таварыш Сталін указвае, што «перманентная рэволюцыя» Троцкага ёсць адмаўленне ленінскай тэорыі пролетарскай рэволюцыі», што «тэорыя перманентнай рэволюцыі» ёсць не толькі «няверʼе ў рэволюцыйныя магчымасці сялянскага руху», але і «няверʼе ў сілы і здольнасці пролетарыята Расіі» ****).

Як вядома, трацкізм ператварыўся ў перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, вядома, што трацкісцка-зіноўеўскія падонкі скаціліся ў балота контррэволюцыйнага тэрарызма.

І ў Беларусі большэвікі вялі рашучую барацьбу з меншавікамі.

Менская арганізацыя ў час вострай барацьбы з меншавікамі ў сваёй пераважнай большасці прытрымлівалася большэвіцкай пазіцыі. Арганізацыя завастрыла сваю барацьбу супроць меншавікоў.

Большэвікі ў дзвінскай арганізацыі РСДРП у ходзе рэволюцыі 1905 г. заваёўваюць пераважнае месца ў арганізацыі, а рабочыя раёны, у тым ліку і чыгуначны, былі цалкам заваяваны большэвікамі.

---

*) Даклад тав. Берыя, стар. 56 і 58.
**) „Пытанні ленінізма", стар. 471.
***) Там-жа, стар. 81.
****) „Аб апазіцыі", стар. 285.

Асабліва абвастрылася барацьба большэвікоў з меншавікамі напярэдадні III з'езду партыі і пасля яго.

Менская партыйная арганізацыя цалкам падтрымлівала БКБ («Бюро камітэтаў большасці»), «Вперед» і скліканне III партыйнага з'езду. А калі Паўночна-заходні камітэт РСДРП праявіў у перыяд склікання III з'езду партыі (хоць ён таксама выказваўся за плацформу БКБ і за скліканне III з'езду) прымірэнчыя хістанні, менская арганізацыя выказала недавер'е Паўночна-заходнаму камітэту і парашыла паслаць свайго дэлегата на з'езд.

У вострай барацьбе з меншавікамі, большэвікам—членам Палескага камітэта (т. Уладзіміраў («Лёва») і інш.) таксама ўдалося дабіцца далучэння Палескага камітэта да плацформы БКБ.

Энергічную і рашучую барацьбу з меншавікамі прышлося праводзіць большэвікам у Беларусі за прызнанне III з'езду партыі, абраных ім кіруючых органаў і за большэвіцкую тактыку ў рэволюцыі, прынятую III з'ездам.

Асаблівую вострасць набыла барацьба большэвікоў з меншавікамі ў Палескім раёне. На раённым з'ездзе арганізацый, якія ўваходзілі ў Палескі камітэт, разгарнулася жорсткая барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі. У выніку гэтай барацьбы, хоць меншавікам і ўдалося правесці ў рэзалюцыі, прынятай раённым з'ездам, рад сваіх пунктаў, але ў рашаючым у даны момант пытанні аб прызнанні ЦК, абранага на III з'ездзе, большэвікі атрымалі перамогу. З'езд рашыў падначаліцца ЦК, абранаму на III з'ездзе партыі. Пасля раённага з'езду Палескі камітэт, змагаючыся з меншавікамі, праводзіў большэвіцкую лінію.

Рэзкую барацьбу прышлося большэвікам у Беларусі весці з меншавікамі па пытанню аб узброеных выступленнях і ўзброеным паўстанні. Так, напрыклад, меншавікі імкнуліся сарваць выступленні пролетарыята ў Дзвінску. Меншавікі і бундаўцы аб'яднанымі сіламі сарвалі ўсеагульную забастоўку ў снежні ў Вільні. Меншавікі ў Віленскім абласным камітэце сарвалі таксама ўзброенае паўстанне ў Вільні і Смаргоньскім павеце (Смаргоньская арганізацыя прапанавала падняць паўстанне ў Смаргоньскім павеце ў дапамогу снежаньскаму паўстанню ў Маскве).

У час выбараў на IV аб'яднаўчы з'езд і V Лонданскі з'езд таксама адбывалася вострая барацьба паміж большэвікамі і меншавікамі ў Беларусі.

З дэлегатаў Беларусі на IV з'ездзе двое—менскі (Полазаў) і дзвінскі (Алексееўскі)—галасавалі па асноўных пытаннях з большэвікамі. Менская арганізацыя і на V з'ездзе была прадстаўлена большэвіком.

Большэвікі вялі таксама рашучую барацьбу з меншавіцкай і нацыяналістычнай бундаўскай арганізацыяй.

Бунд з самага пачатку быў дробнабуржуазнай, нацыяналістычнай плынню, як меншавікі і эсэры, з'яўляўся дробнабуржуазным крылом буржуазнай дэмакратыі, якая стаяла за захаванне капіталізма. Натуральна, што Бунд, разам з меншавізмам, апынуўся ў лагеры контррэволюцыі.

Дзейнасць Бунда з самага пачатку паказала, што ён узнік як адасобленая меншавіцка-нацыяналістычная арганізацыя.

Бунд адстойваў погляды «эканамістаў», прakланяючыся перад стыхійнасцю, праводзіў хвасцісцкую тактыку.

«Эканамізм» і нацыяналізм, над пашырэннем якіх так многа стараўся Бунд, палегчылі і дапамаглі нараджэнню ў Беларусі зубатаўскага дзецішча—«Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі». Трэд'юніянісцкая палітыка Бунда, той дух «эканамізма», у якім Бунд выхоўваў сваіх членаў, адасобленасць і нацыяналізм, якія прапагандаваў Бунд, падрыхтавалі глебу для ўзнікнення «незалежанцаў». Чэмерыйскі і Вомен—арганізатары «Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі»—былі вельмі актыўнымі дзеячамі Бунда.

«Незалежанцы» знашлі гарачае падтрыманне ў сіяністаў, яўрэйскіх лібералаў, у паалей-цыяністаў і т. д.

Агромная работа, якую правяла ленінская «Искра», яе бязлітасная барацьба з усякага роду апартунізмам і нацыяналізмам («эканамізм», «бундызм» і т. п.), выкрыццё і барацьба з зубатаўшчынай, выхаванне рабочага класа ў духу марксізма і пролетарскага інтэрнацыяналізма, рост рабочага руху, нарастанне рэволюцыі—разбілі ўшчэнт усю правакацыю Зубатава.

Бунд зусім не выпадкова далучыў да сваёй апартуністычнай тактыкі спосабы і сродкі барацьбы, у корані варожыя рабочаму класу, запазычаныя ў злейшага ворага пролетарыята—эсэраў—індывідуальны тэрор. Ленін не раз ўказваў на цяснейшую сувязь апартунізма і тэрарызма. Бунд становіцца на пазіцыі буржуазнага патрабавання нацыянальна-культурнай аўтаноміі, якая з'яўляецца самым утончаным відам буржуазнага нацыяналізма. У адносінах-жа пабудовы партыі Бунд выставіў шкаднейшы і небяспечнейшы апартуністычны і нацыяналістычны лозунг федэралісцкай яе пабудовы, які цалкам парушае інтарэсы адзінства пролетарскай класавай барацьбы.

Ленін выступаў на старонках старой «Искры» з рэзкай крытыкай Бунда і павёў супроць яго рашучую і бязлітасную барацьбу.

На II з'ездзе партыі Бунд па ўсіх пытаннях праграмы, тактыкі і арганізацыі займаў месца сярод самых ад'яўленых і адкрытых апартуністаў. Як вядома, пасля таго, як з'езд адверг § 2 статута Бунда, бундаўцы пакінулі з'езд і заявілі аб выхадзе Бунда з партыі.

Пазіцыя Бунда на II з'ездзе і наступная яго тактыка выклікалі яшчэ большае ўзмацненне рашучай і бязлітаснай барацьбы большэвікоў супроць шавінізма і апартунізма Бунда, якую ўвесь час вялі Ленін і старая «Искра» і якая не спынілася на працягу ўсяго далейшага часу. Зараз-жа пасля II з'езду Бунд пачаў шалёную шавіністычную кампанію супроць старой «Искры», II з'езду і большэвікоў з мэтай апраўдання свайго здрадніцкага кроку—выхаду з партыі і сваёй лініі на яшчэ большае і небывалае атручванне мазгоў мас атрутай нацыянал-рэфармізма і шавінізма, разгароджванне рабочых па нацыянальнасцях, замацаванне іх адчужанасці, раз'яднанне рабочых і стварэнне адзінага фронту з яўрэйскай буржуазіяй.

Арганізацыі РСДРП у Беларусі павялі энергічную і рашучую барацьбу з Бундам. Такую барацьбу разгарнулі большэвікі ў Менску, Бабруйску, Вільні і т. д.

Бунд прамым чынам нагла ашукваў рабочых, унушаючы ім думку, што ўсе партыйныя арганізацыі Беларусі маюць сваёй мэтай нібыта не барацьбу з нацыяналізмам і апартунізмам Бунда, не барацьбу за

пролетарскую адзіную інтэрнацыянальную партыю рабочага класа, а толькі «дэзарганізацыю» руху яўрэйскага пролетарыята.

Большэвікі Беларусі павялі барацьбу супроць Бунда. На III з'ездзе партыі дэлегат менскай арганізацыі выступіў самым рэзкім чынам супроць Бунда.

І ў рэволюцыі 1905-07 гг. лінія Бунда была меншавіцкай і нацыяналістычнай.

У пытанні аб характары і рухаючых сілах рэволюцыі, аб стратэгічнай лініі ў рэволюцыі і т. д. ён цалкам і поўнасцю стаяў на меншавіцкай пазіцыі. Бундаўцы адмаўлялі гегемонію пролетарыята, адвяргалі ідэю дыктатуры, ідэю перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, абараняючы буржуазны пункт погляду на рэволюцыю.

А ў пытанні аб рухаючых сілах рэволюцыі Бунд лічыў, што сялянства—гэта рэакцыйная сіла; затое ліберальная буржуазія—гэта актыўная, галоўная рухаючая сіла рэволюцыі.

Што-ж датычыць тактычнай лініі Бунда, то «Пролетарий», орган большэвікоў, рысаваў твар Бунда ў важнейшых пытаннях тактыкі такім чынам:

> «Рэцэпт просты, здаўна ўлюбёны людзьмі, якія ніколі не грашылі ні адзінай самастойнай думкай: узяць процілеглыя погляды, змяшаць разам і раздзяліць папалам! У «Пролетария» возьмем крытыку народных выбараў пры самадзяржаўі, у «Искры»—асуджэнне «жахлівага пытання» (гутарка ідзе аб спосабе склікання ўстаноўчага сходу.—М. П.); у «Пролетария»—актыўны байкот, у «Искры»—нягоднасць паўстання як лозунга... «як пчолачка з кожнай кветкі бярэ ўзятачку» *).

Гэтая двурушная паводле выражэння Леніна пазіцыя Бунда рысуе поўнасцю яго апартуністычны твар.

А таварыш Сталін на мітынгу ў кастрычніцкія дні 1905 года, бязлітасна выкрываючы меншавікоў, гаварыў:

> «У вас адна дрэнная прывычка, аб чым я павінен вам прама сказаць,—пачынае ён,—хто-б ні вышаў і што-б ні сказаў, вы сустракаеце з радасцю і апладысментамі. Вам гавораць: «няхай жыве свабода»—вы апладзіруеце, «няхай жыве рэволюцыя»—вы апладзіруеце, гэта добра. Але калі гавораць: «далоў зброю», вы і гэтаму апладзіруеце. Якая рэволюцыя можа перамагчы без зброі і хто той рэволюцыянер, які гаворыць: далоў зброю? Прамоўца, які гэта гаворыць, напэўна, талстовец, а не рэволюцыянер, і хто-б ён ні быў, ён вораг рэволюцыі, свабоды народу» **).

Бунд, як і ўсе меншавікі, прапаведваў бяссілле, угаварваў рабочых, што «мы, моў, слабыя для ўзброенага паўстання», што з'яўлялася на справе адмаўленнем ад узброенага паўстання, адмаўленнем ад рэволюцыі. Таму Ленін даў такую характарыстыку палітыцы бундаўцаў і ўсіх меншавікоў:

> «Канец. Мы слабы. Слабасць выратоўваецца верай у цуды. Гэта факт—са слоў Бунда, з плана «Искры».

*) Ленін, т. VIII, стар. 195.
**) Даклад тав. Берыя, стар. 49.

Але што факт, панове? Слабасць сіл пролетарыята ўсёй Расіі ці слабасць бундыстаў і новаіскраўцаў??

... Мы слабы... з гэтага немінуча выцякае ўсё здрадніцтва рэволюцыі *).

На V з'ездзе партыі Бунд ішоў з меншавікамі супроць большэвікоў. Эканамічная, палітычная і тактычная лінія Бунда ў перыяд рэволюцыі заключалася ў тым, каб усімі сіламі разбіць адзінства і згуртаванасць рабочага класа ў Беларусі. Бунд зрываў забастоўкі, граючы на руку паліцыі і капіталістам. Бунд зрываў палітычныя выступленні пролетарыята.

Возьмем для прыкладу рух у сувязі са студзеньскімі падзеямі 1905 года ў Пецярбургу. З Менска пісалі ў «Пролетарий», што, не гледзячы на спрыяючыя ўмовы, «стачка не набыла шырокіх памераў, якія яна магла-б набыць». І гэта таму, што дзякуючы тактыцы Бунда «у самой арганізацыі стачкі была дапушчана буйная памылка. Замест таго, каб пачаць забастоўку з буйных прадпрыемстваў, перш за ўсё з віленскага і брэст-літоўскага чыгуначнага дэпо, у першую галаву пачалі заклікаць да стачкі дробныя ўстановы і майстэрні». І гэта здарылася дзякуючы таму, што «работа была раздроблена, адсутнічаў адзіны цэнтр і не было магчымасці загадзя арганізаваць забастоўку». У Дзвінску ўсе спробы ўзгадніць дзеянні закончыліся няўдала. І дзвінскі камітэт парашыў выканаць задачу арганізацыі ўсеагульнай палітычнай забастоўкі адзін. Па заклiку партыйнай арганізацыі ўсеагульная палітычная забастоўка пачалася.

У Дзвінску бундаўская арганізацыя вяла лінію на зрыў палітычнага выступлення рабочых у дзень 1 Мая 1905 года. І ў вострай барацьбе з бундаўцамі дзвінскай арганізацыі РСДРП удалося арганізаваць буйную палітычную стачку, у якой удзельнічалі рабочыя ўсіх буйных прадпрыемстваў горада. А Бунд, каб апраўдаць сваю шкодную, антыпролетарскую палітыку, развіваў прама рэакцыйную і шавіністычную агітацыю.

Нацыяналістычная і сепаратысцкая тактыка Бунда ў пытанні аб профсаюзах праследвала тую-ж мэту, што і ўся лінія і тактыка Бунда—аддзяліць кітайскаю сцяной яўрэйскіх рабочых ад неяўрэйскіх, унесці адчужэнне і разбіць адзінства рабочага класа. Пазіцыя Бунда была цалкам варожа і чужда марксісцка-ленінскай пастаноўцы пытання большэвікамі аб узаемаадносінах і кіраўніцтве партыі профсаюзамі. Пад флагам «партыйнасці» профсаюзаў Бунд праводзіў сваю апартуністычную і нацыяналістычную лінію.

Таварыш Сталін у 1905 г. самым рэзкім чынам выступіў супроць пазіцыі дашнакаў, якія высунулі ў пытанні аб профсаюзах такое-ж патрабаванне, як і Бунд:

«Што значыць партыйныя прафесіянальныя саюзы?—пытаецца таварыш Сталін і адказвае:

— Гэта, перш за ўсё, значыць, што члены розных партый павінны аб'яднацца ў розныя саюзы... Федэралістам—асобны прафесіянальны саюз, дашнакцаканам—асобны, грузінам—асобны, армянам—асобны і т. д. Тады як усе фабрыканты яднаюцца, незалежна ад іх палітычных перакананняў, **у адзін саюз**, даш-

*) **Ленін**, т. VIII, стар. 243.

накцаканы нам раяць разбіцца **на паасобныя групы** і гэтым падарваць наша адзінства».

І далей ён гаворыць:

«Справа ў тым, што партыйныя прафесіянальныя саюзы вырываюць яму паміж свядомымі і несвядомымі рабочымі. Усе ведаюць, што ёсць такія рабочыя, якія ні да якой партыі не належаць... Хіба не трэба прыцягнуць іх? І вось замест таго, каб прыцягнуць і іх, дашнакцаканы зачыняюць ім дзверы прафесіянальных саюзаў, адпужваюць іх, ламаюць мост паміж свядомымі і несвядомымі рабочымі і тым самым значна знясільваюць рабочае адзінства» *).

У той-жа час таварыш Сталін з усёй чоткасцю паставіў пытанне аб неабходнасці моцнага партыйнага кіраўніцтва профсаюзамі (гл. даклад тав. Берыя).

Большэвікі павялі бязлітасную барацьбу з лініяй Бунда ў пытанні аб профсаюзах. Менская арганізацыя змагалася і з апартуністычнай лініяй Бунда і прыхільнікамі «нейтральных» профсаюзаў.

Пасля ўсяго сказанага будзе нам зразумела меткая і забойчая характарыстыка, якую, гаворачы аб V з'ездзе партыі, таварыш Сталін у 1907 годзе даў Бунду:

«Бунд, які фактычна заўсёды падтрымліваў агромнай большасцю сваіх дэлегатаў меншавікоў, фармальна вёў у вышэйшай ступені двухсэнсную палітыку... Тав. Роза Люксембург па-мастацку метка ахарактарызавала гэту палітыку Бунда, сказаўшы, што палітыка Бунда не ёсць палітыка даспелай палітычнай арганізацыі, якая ўплывае на масы, што гэта—палітыка гандляроў, вечна выглядаючых і вечна чакаючых з надзеяй—авось заўтра цукар падзешавее» **(Смех у зале)** **).

Большэвікі вялі бязлітасную барацьбу і з іншымі дробнабуржуазнымі партыямі, вельмі шкоднымі і класава чуждымі пролетарыяту. На Беларусі ў 1904 годзе існавалі паалей-сіяніскія групоўкі, разнавіднасці сіянізма, якія аформіліся ў самастойныя партыйныя групоўкі некалькі пазней («сіяністы-соцыялісты», «Паалей-цыён» і т. д.). Яны імкнуліся навязаць некаторым групам больш адсталых рабочых буржуазны шавінізм, разбэшчваць іх свядомасць ідэямі буржуазнага сіянізма, выступаючы як прамыя слугі яўрэйскай буржуазіі, якая пры дапамозе сіянізма старалася адцягнуць працоўныя масы ад рэволюцыйнай барацьбы у мэтах іх неабмежаванай і бесчалавечнай эксплаатацыі.

Гэтыя паалей-сіяніскія групоўкі прапагандавалі рэакцыйныя «тэорыі» аб «непролетарызацыі» яўрэйскіх рабочых, сцвярджалі, што яўрэйскі пролетарыят немінуча асуджан на сталае выраджэнне і для яго немагчыма класавая барацьба. Яны імкнуліся адарваць яўрэйскіх рабочых ад інтэрнацыянальнай салідарнай барацьбы рука ў руку і разам з рабочымі ўсіх іншых нацыянальнасцей супроць агульнага класавага ворага і адцягнуць яўрэйскі пролетарыят ад палітычнай барацьбы, канчатковаю мэтай якой з'яўляецца дыктатура пролетарыята, соцыялізм. Сваімі рэакцыйнымі буржуазнымі праек-

*) Даклад тав. Берыя, стар. 43—44.

**) Там-жа, стар. 82.

тамі «стварэння асобай дзяржавы для яўрэйскага народу на ўласнай тэрыторыі», «эміграцыйнымі праектамі» і т. д. і імкненнем адцягнуць у гэты бок увагу рабочых ад іх штодзеннай рэволюцыйнай класавай барацьбы яны сеялі шкаднейшыя і рэакцыйныя ілюзіі аб тым, што яўрэйскі рабочы клас здолее дабіцца свайго вызвалення не класавай барацьбой, а сродкамі, якія нічога агульнага з рэволюцыйнай класавай барацьбой не маюць і адмаўляюць яе. Усё гэта магло служыць і служыла толькі сродкам эксплаатацыі і закабалення рабочых і працоўных мас буржуазіяй.

Яны мелі свае арганізацыі ў радзе гарадоў і мястэчак Беларусі, выпускалі пракламацыі, сякія-такія органы друку. Яны таксама ўдзельнічалі ў профсаюзах. Але каб бачыць, якую каласальную шкоду гэтыя арганізацыі прыносілі і ў гэты перыяд, каб бачыць іх антырэволюцыйную лінію, мы прывядзем некалькі фактаў з многіх.

Так, напрыклад, у час рэволюцыйных выступленняў пролетарыята Беларусі ў сувязі са студзеньскімі падзеямі 1905 г. у Пецербургу, групы Паалей-цыён у Бабруйску, Барысаве, Магілеве, Парычах і т. д. выступалі супроць забастовак і зрывалі іх. У Барысаве іх члены з'яўляліся штрэйкбрэхерамі. Яны цалкам прасякнуты ненавісцю да рэволюцыйнай барацьбы пролетарыята, духам крайняга буржуазнага шавінізма і ў інтарэсах эксплаатататараў. Мы не можам тут падрабязна спыніцца на ўсіх дэталях, якія адрознівалі гэтыя сіяністскія групоўкі адну ад другой. Увогуле тое, што мы вышэй сказалі, было ў асноўным характэрна для ідэалогіі ўсіх гэтых груповак. Дабавім толькі, што ўсе гэтыя партыйныя групоўкі падзялялі рэакцыйную шавіністычную ідэалогію буржуазнага сіянізма (адмаўленне нармальнага развіцця яўрэйскіх мас у «голусе» (у тых краінах, дзе яны існуюць), «гістарычная неўнікнёнасць» шляхам масавай эміграцыі «канцэнтрацыі на ўласнай тэрыторыі і стварэння там уласнай яўрэйскай нацыянальнай дзяржавы»). Адны з іх, як ПЦ і СС (сіяністы-соцыялісты), прыбягалі да «марксісцкай» фразеалогіі для «абгрунтавання» сваіх рэакцыйных «тэорый», а другія, як «СЕРП» (соцыялістычная яўрэйская рабочая партыя»), былі прыхільнікамі народніцтва і прымыкалі да эсэраў.

Гэтыя групоўкі (ПЦ, СС) у самы разгар рэволюцыі, разам з усімі яўрэйскімі буржуазнымі сіяністамі, аддаюць усю сваю энергію сусветнаму буржуазнаму кангрэсу сіяністаў, распаўсюджваюць «шекелы» (членскі ўзнос у агульнасіянісцкую арганізацыю), дабіваюцца пасылкі дэлегатаў і т. д. Паалей-цыяністы-ж з вялікай помпай адзначаюць гадавіну смерці «правадыра» буржуазнага сіянізма, крайняга буржуазнага нацыяналіста д-ра Герцэля, які вёў ганебныя перагаворы з катам працоўных мас усіх нацыянальнасцей Расійскай імперыі, пагромных спраў майстрам—Плеве, аб садзейнасці і дапамозе сіяністам. Акурат так сама пасля кастрычніцкіх пагромаў яны развівалі шавіністычную агітацыю, заклікалі «увесь яўрэйскі народ» да аб'яднання і стварэння «адзінага нацыянальнага фронту», нічым не ўступаючы буржуазіі ў сваёй шавіністычнай дэмагогіі *).

«Ашалелы» ад жахаў капіталізма дробны буржуа,—гаворыць Ленін,—гэта—соцыяльная з'ява, уласцівая, як і анархізм, усім капіталістычным краінам. Няўстойлівасць такой рэволюцыйнасці, бясплоднасць яе, уласцівасць хутка ператварацца ў пакор-

*) „Яўрэйскі рабочы рух", стар. 219.

насць, апатыю, фантастыку, нават, у «шалёнае» захапленне той ці іншай буржуазнай «моднай» плынню,—усё гэта агульнавядома» *).

Ленін напамінае аб тым, як ужо ў 70 гады XIX стагоддзя анархізм у Расіі выявіў «да канца сваю непрыгоднасць, як кіруючай тэорыі для рэволюцыйнага класа» **).

Далей Ленін указвае, што ў рэволюцыйнай сацыял-дэмакратыі заўсёды мелася традыцыя бязлітаснай барацьбы «з дробнабуржуазнай, поўанархічнай (або здольнай заігрываць з анархізмам) рэволюцыйнасцю» ***), што большэвізм «успрыняў і прадаўжаў барацьбу з партыяй, якая ўсяго больш выражала тэндэнцыі дробнабуржуазнай рэволюцыйнасці, іменна з партыяй «соцыялістаў-рэволюцыянераў» ****).

Як вядома, партыя соцыялістаў-рэволюцыянераў успрыняла ідэалогію і тактыку народніцтва, пачынаючы ад суб'ектыўнага ідэалізма, аж да веры ў асобы шлях развіцця Расіі і асобую ролю ў гэтых адносінах абшчыны, і да тактыкі індывідуальнага тэрору народавольцаў. Але абстаноўка ўжо была іншая. З аднаго боку, было ў наяўнасці далейшае значнае развіццё капіталізма. З другога боку, масавы рабочы рух рабіў буйныя поспехі, і складвалася Ленінская партыя—адзіны перадавы авангард пролетарыята.

Эсэры з прычыны гэтага імкнуліся ў гэтай новай абстаноўцы прыспасобіць народніцтва, якое выраджалася ў ідэалогію кулацтва, скарыстоўваючы для гэтага і крайні апартунізм нямецкай соцыял-дэмакратыі. Як пісаў Ленін, «старажытнае народніцтва, падноўленае модным еўрапейскім апартунізмам (рэвізіянізм, бернштэйніянства, крытыкі Маркса), складае ўвесь арыгінальны ідэйны багаж так званых соцыялістаў-рэволюцыянераў» *****).

Як вядома, марксізм у Расіі, і ў першую чаргу Ленін, які праводзіў адзіную да канца паслядоўную рэволюцыйна-марксісцкую лінію ў барацьбе з ворагамі пролетарскага руху, народніцтвам, легальным марксізмам і т. д., разбіў на-галаву і разграміў злейшага ворага пролетарыята—народніцтва, яго ідэалогію, яго метады і спосабы барацьбы. Рэшткі разгромленага народніцтва і з'явіліся заснавальнікамі партыі эсэраў.

Большэвізм з самага пачатку і ўвесь час вёў бязлітасную барацьбу са сваім злейшым ворагам—эсэрамі, з іх буржуазнай ідэалогіяй, з іх тактыкай, сродкамі і метадамі барацьбы, у корані варожымі пролетарыяту.

Большэвізм выкрыў да канца псеўда-соцыялістычны характар усіх ідэйных і праграмных установак эсэраў, ускрыўшы іх буржуазную сутнасць.

Большэвізм выявіў і выкрыў поўную варожасць эсэраў пролетарыяту ў іх адмаўленні класавага адрознення паміж пролетарыем і дробным гаспадарчыкам, у іх адмаўленні асобай сусветна-гістарычнай ролі пролетарыята, як магільшчыка капіталізма і творцы новага

*) т. XXV, стар. 180.
**) Там-жа.
***) Там-жа.
****) Там-жа, стар. 181.
*****) Ленін, т. VIII, стар. 361.

соцыялістычнага грамадства, у іх адмаўленні гегемоніі пролетарыята ў рускай рэволюцыі, у іх адмаўленні дыктатуры пролетарыята.

Большэвізм выявіў і выкрыў буржуазную сутнасць аграрнай праграмы эсэраў. Як вядома, аграрная праграма эсэраў заключалася ў патрабаванні «соцыялізацыі» зямлі. Але патрабаванне «соцыялізацыі» зямлі на аснове захавання капіталізма толькі прыкрывала буржуазную сутнасць эсэраўскай аграрнай праграмы. Усякія размовы аб некапіталістычнай эвалюцыі сельскай гаспадаркі на аснове капіталізма з'яўляюцца ашуканствам. Эсэры і звярачаліся да гэтага сродку, каб ашукаць сялянства. Толькі пасля перамогі пролетарскай рэволюцыі, ва ўмовах дыктатуры пролетарыята для працоўнага сялянства, пад кіраўніцтвам пролетарыята на чале з яго авангардам, у бязлітаснай барацьбе з класавым ворагам—кулацтвам і т. д.—забяспечан соцыялістычны шлях развіцця. Сусветна-гістарычная перамога калгаснага ладу ў нашай соцыялістычнай краіне—яркі сведка гэтаму.

Праграма і тактыка эсэраў не маглі ніколі прывесці працоўнае сялянства ні да перамогі над самадзяржаўем і прыгонніцтвам, ні да вызвалення ад гнёту капіталізма.

Большэвікі ў рэволюцыю 1905-07 гг., як і ў далейшым, вялі бязлітасную барацьбу супроць уплыву эсэраў на сялянства, які вёў да падпарадкавання сялянства буржуазіі.

Толькі ў саюзе з пролетарыятам і пад яго кіраўніцтвам сялянства магло дабіцца вырашэння сваіх патрэб.

Усе здрадніцкія, контррэволюцыйныя партыі—меншавікі, трацкісты, эсэры і т. д.—вялі палітыку падпарадкавання сялянства буржуазіі. Партыя Леніна—Сталіна вяла бязлітасную барацьбу з гэтымі партыямі за ўплыў на сялянства, за ператварэнне яго ў рэзерв пролетарыята.

Таварыш Сталін пісаў, што вялікая Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя

> ...«даказала, што пролетарыят можа ўзяць уладу і ўтрымаць яе, калі ён здолее адарваць сярэднія слаі, і перш за ўсё сялянства, ад класа капіталістаў, калі ён здолее ператварыць гэтыя слаі з рэзерваў капітала ў рэзервы пролетарыята»*).

Як мы ўжо ўказалі, у корані варожымі пролетарыяту былі і спосабы і метады барацьбы эсэраў, іх тактыка. Прывядзем наступнае выдатнае месца з работы таварыша Сталіна «Анархізм і соцыялізм», якая напісана ў снежні 1907 г. і падводзіць нас проста да сутнасці пытання, што раздзяляе прынцыпы марксізма і анархізма:

> «Марксізм і анархізм,—пісаў тав. Сталін,—пабудаваны на зусім розных прынцыпах, не гледзячы на тое, што абодва пад соцыялістычным флагам выходзяць на арэну барацьбы. Краеугольны камень анархізма—**асоба,** вызваленне якой, па яго думцы, з'яўляецца галоўнай умовай вызвалення масы, г. зн. па думцы анархізма вызваленне масы немагчыма да таго часу, пакуль не вызваліцца асоба, з прычыны чаго яго лозунг: «Усё для асобы», тады як краеугольны камень марксізма—**маса,** вызваленне якой, па яго думцы, з'яўляецца галоўнай умовай вызвалення асобы, г. зн., па думцы марксізма, вызваленне асобы немагчыма да

---

*) **Сталін,** Марксізм і нац.-кал. пытанне, стар. 141.

таго часу, пакуль не вызваліцца маса, з прычыны чаго яго лозунг: «Усё для масы *).

З гэтым-жа звязана з пачатку да канца варожая пролетарыяту і так званая «тэорыя герояў і натоўпу», з якой зыходзілі ў сваёй тактыцы як народавольцы, так і іх паслядоўнікі—эсэры.

Большэвізм заўсёды вёў заўзятую барацьбу з тактыкай індывідуальнага тэрору эсэраў. Ленін указваў, што партыя эсэраў «бачыла сваю асобую «рэволюцыйнасць» або «левізну» у прызнанні ёю індывідуальнага тэрору, замахаў, што мы, марксісты, рашуча адвяргалі» **).

Вечнай ганьбай пакрылі сябе гнусныя падонкі зіноўеўска-каменеўскай контррэволюцыйнай групкі, якая не мела ніякай глебы пад нагамі, прыбягала ў сваёй барацьбе супроць пераможнага будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне да індывідуальнага тэрору супроць самых лепшых і самых дарагіх сусветнаму пролетарыяту людзей і забіла бліжэйшага саратніка таварыша Сталіна—С. М. Кірава.

І большэвікі на Беларусі ўвесь час вялі рашучую і непрымірымую барацьбу з эсэрамі.

У Смаленску існаваў Паўночна-Заходні абласны камітэт, які імкнуўся распаўсюджваць сваю дзейнасць на Смаленскую, Віцебскую, Магілеўскую, Менскую і іншыя губерніі. У гарадах Беларусі эсэры мелі сякія-такія сувязі сярод некаторай часткі больш адсталых рабочых, галоўным чынам, яшчэ не парваўшых з вёскай, як, напрыклад, на ільнапрадзільнай фабрыцы «Дзвіна» у Віцебску, на некаторых прадпрыемствах у Беластоку і т. д.; сякую-такую работу яны вялі сярод некаторых груп вучнёўскай моладзі. Увагу да сябе яны прыцягвалі тэрарыстычнымі актамі, якія яны ўчынілі ў некаторых гарадах Беларусі, але ніякага ўплыву на разгортванне рэволюцыйнай барацьбы ў Беларусі гэтыя акты не аказалі і не маглі аказаць, а толькі тармазілі і дэзарганізавалі гэту барацьбу. Крыху большыя сувязі эсэры мелі ў некаторых месцах у вёсцы. У Магілеве ў 1906 г., як відаць з судовага прыгавору палаты, існаваў «Магілеўскі акруговы камітэт сялянскага саюза партыі соцыялістаў-рэволюцыянераў», які вёў работу ў Чэрыкаўскім, Магілеўскім, Оршанскім і Сенненскім паветах ***).

Эсэры мелі некаторыя сувязі і вялі работу і ў іншых губернiях Беларусі. Партыйныя арганізацыі вялі вострую і рашучую барацьбу з эсэрамі. У карэспандэнцыях розных арганізацый мы знаходзім паведамленні аб выступленнях і лістках, у якіх выкрываліся праграма і тактыка эсэраў. Там, дзе партыйным прамоўцам і работнікам вёскі прыходзілася сустракацца з эсэрамі, адбываліся гарачыя схваткі.

У Бабруйску «асаблівым уплывам эсэры не карысталіся. Былі спробы з іх боку наладзіць сувязь з сялянствам, але далей распаўсюджвання літаратуры гэтыя спробы не ішлі. Наогул пра дзейнасць эсэраў даведваліся толькі ў час дыскусій, калі выступаў агітатар з іх групы» ****).

Рэзкую і абвостраную барацьбу партыйная арганізацыя вяла з эсэрамі ў Дзвінску, дзе, карыстаючыся блізкасцю-да свайго Паўночнага абласнога цэнтра, які знаходзіўся тады ў Віцебску, і атрымлі-

*) Даклад тав. Берыя, стар. 59.

**) Ленін, т. XXV, стар. 181.

***) Цэнтр. Сакр. Архіў БССР, справа 4 па опісі № 717.

****) „1905 г. на Беларусі", стар. 59.

ваючы адтуль папаўненні работнікамі, яны спрабавалі пранікнуць да чыгуначнікаў, весці ваенную работу і т. д. У 1907 годзе адбываўся рад дыскусій з эсэрамі. Вострую барацьбу выклікала пытанне аб стварэнні прафесіянальнага саюза чыгуначнікаў. Наогул усё лета ішла ўпартая барацьба з эсэрамі. У выніку чыгуначны раён, як і раней, заставаўся за арганізацыяй РСДРП, дзе кіравалі большэвікі. Створаны прафесіянальны саюз чыгуначнікаў працаваў пад кіраўніцтвам РСДРП. Спрабавалі эсэры пранікнуць і ў ваенную арганізацыю. Гэта ім не ўдалася, так сама як і спроба стварыць сваю ўласную ваенную арганізацыю скончылася для іх няўдачна.

У эпоху рэволюцыі 1905 года ў Беларусі існавала таксама яшчэ адна дробнабуржуазная нацыяналістычная партыя—БСГ («Беларуская социялістычная грамада»).

Пасля рэформы і асабліва ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзя ўсё больш паглыблялася класавая структура і ўзмацнялася дыферэнцыяцыя беларускага насельніцтва. Працэс фармавання беларускай аграрнай і прамысловай буржуазіі прасунуўся значна наперад. У выніку ўзмоцненай дыферэнцыяцыі сялянства стварыўся таксама і сільны слой сялянскай буржуазіі. З гэтых класавых слаёў, асабліва з апошняга, пачынае вылучацца буржуазна-дэмакратычная інтэлігенцыя. З асяроддзя апошняй рэкрутуюцца тыя інтэлігенцкія групкі, якія стварылі зімой 1902-03 гг. арганізацыю пад назвай «Беларуская рэволюцыйная грамада», перайменаваную потым (у 1903 г.) у «Беларускую социялістычную грамаду».

Усе даныя, якія ёсць у нашым распараджэнні, сведчаць аб тым, што БСГ у рэволюцыі 1905-07 гг. не была масавай арганізацыяй, а прадстаўляла сабой інтэлігенцкую групу, дзейнасць якой была вельмі абмежавана.

Ідэалогія БСГ склалася пад сільнейшым уплывам партыі эсэраў і ППС, г. зн. партый, якія з'явіліся злейшымі ворагамі пролетарыята і большэвізма.

БСГ далучаецца да рашэнняў Парыжскай канферэнцыі (у канцы 1904 г.) дробнабуржуазных народніцкіх і народніцка-нацыяналістычных партый, сабраўшыхся сумесна з ліберальна-буржуазнымі арганізацыямі («Саюз вызвалення», фінляндскія актывісты). Далучаючыся да рашэнняў гэтай канферэнцыі, БСГ разам з астатнімі дробнабуржуазнымі народніцкімі партыямі пашла на саюз з ліберальнай буржуазіяй.

БСГ удзельнічала таксама на канферэнцыі «расійскіх нацыянальна-социялістычных партый» (16—20 красавіка 1907 г.), створанай згодна пастанове 2-га экстранага з'езда партыі социялістаў-рэволюцыянераў па ініцыятыве прадстаўніка «СЕРП». У ёй прымалі ўдзел, акрамя эсэраў, рад дробнабуржуазных нацыяналістычных партый.

І на гэтай канферэнцыі—зборышчы злейшых ворагаў пролетарыята—БСГ выступала з разгорнутай кулацка-буржуазнай праграмай.

У сваёй праграме БСГ паўтарае ўсе асноўныя палажэнні, якія былі характэрны для эсэраў, і развівае буржуазна-нацыяналістычныя погляды.

Грамадаўцы адмаўлялі пролетарыят як самастойны клас і яго сусветна-гістарычную ролю магільшчыка капіталізма.

Яны адмаўлялі гегемонію пролетарыята ў рэволюцыі. Ніякага класавага адрознення паміж пролетарыятам і сялянствам грамадаўцы

не праводзяць, адмаўляюць яго. Няма, па іх думцы, ніякай розніцы паміж роляй гэтых класаў у грамадскім развіцці і ў класавай барацьбе і т. д. У той-жа час сялянства разглядаецца імі як нешта ў класавых адносінах цэльнае і зусім абыходзіцца пытанне аб яго дыферэнцыяцыі і ролі розных груп сялянства, аб класавай барацьбе на вёсцы.

Вёска разглядаецца як адзінае цэлае. Васьмімільённы беларускі народ таксама разглядаецца як нешта адзінае. Толькі звонку цёмныя сілы процістаяць беларускаму народу, унутры іх ён адзін.

Тут абараняецца буржуазна-нацыяналістычны тэзіс аб «агульнанацыянальнай глебе», які адмаўляе класавую барацьбу. Грамадаўцы імкнуліся падпарадкаваць беларускі рабочы клас і працоўныя масы беларускай буржуазіі, беларускаму памешчыку.

Замест класавага аналіза прыпадносіцца, такім чынам, чыстай пробы буржуазны нацыяналізм, які ўвайшоў у жалезны інвентар і сучаснага контррэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызма. Пасля ўсяго гэтага робіцца ясным сапраўдны сэнс і аб'ектыўны змест лозунга, які красаваўся на выданнях БСГ,—«Працоўная беднота ўсіх краін, злучайся!» З усёй устаноўкі грамадаўцаў вынікае, што пад «працоўнай беднатой» належыць разумець усё сялянства, увесь беларускі на род, г. зн. грамадаўцы абараняюць буржуазна-нацыяналістычную ідэю, якая адмаўляе класавую барацьбу ўнутры беларускай нацыі ў мэтах забяспечання эксплаатацыі рабочага класа і працоўных беларускім капіталістам, памешчыкам і кулакам.

Такая прапаганда была цалкам у інтарэсах беларускай буржуазіі, беларускага памешчыка і служыла мэтам прамога ашуканства беларускіх працоўных мас, каб падпарадкаваць іх эксплаататарскім класам.

Няма чаго гаварыць, што БСГ адмаўляла гегемонію пролетарыята ў рэволюцыі, дыктатуру пролетарыята. У нацыянальным пытанні яна цалкам праводзіла буржуазна-нацыяналістычную лінію.

Буржуазная сутнасць БСГ выяўляецца цалкам і поўнасцю і ў яе аграрнай праграме. Праграма, прынятая БСГ па аграрнаму пытанню на яе 2-м з'ездзе (канец 1905 г., пачатак 1906 г.), зыходзіць з таго, што трэба прыстасавацца да існуючага ладу ў царскай Расіі, і адвяргае рэволюцыйнае вырашэнне аграрнага пытання. Як і ліберали, яны хацелі вырашыць аграрнае пытанне без рэволюцыі, без рэволюцыйнай барацьбы. Салідарызуючыся з эсэраўскай аграрнай праграмай для Велікаросіі, у сялянства якой нібыта існуе асобая «абшчынная псіхалогія», яны для беларускага сялянства, у якога нібыта іншая «псіхалогія», вызначаюць аграрную праграму ў духу меншавіцка-маслоўскага праекта муніцыпалізацыі.

Напомнім, што Ленін гаварыў аб маслоўска-меншавіцкай аграрнай праграме:

> «Другая Дума паказала, што на справе «муніцыпалізатарская» ідэя толькі і паслужыла нацыяналістычным тэндэнцыям розных груп буржуазіі.
>
> Падзеі пацвердзілі, што на справе муніцыпалізацыя служыць не для кіраўніцтва масавым сялянскім рухам агульнанацыянальнага маштаба, а для раздраблення гэтага руху на правінцыяльныя і нацыянальныя ручайкі *).

*) **Ленін, т. XI, стар. 485.**

і на справе буржуазія і памешчыкі імкнуліся ўсяляк выкарыстаць меншавіцкія довады ў барацьбе супроць патрабавання сялянства ў аграрнай рэволюцыі.

Аграрная праграма БСГ прасякнута нацыяналізмам, закаранелым правінцыялізмам і накіравана супроць згуртавання ўсіх сіл рэволюцыі для яе поўнай перамогі, супроць рэволюцыйнай барацьбы сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыята. Падобна Маслову, аргументаваўшаму яшчэ адным довадам, які зводзіўся да таго, што сялянепадворнікі не згодзяцца «перадаць свае землі каму-небудзь добраахвотна», грамадаўцы, апелюючы да «асобай псіхалогіі» беларусаў, лічылі, што ва ўмовах Беларусі сяляне ад прыватнай уласнасці на зямлю не адмовяцца.

Палітычны-ж сэнс тэорыі аб «асобай псіхалогіі» беларускага сялянства стане ясным, калі мы ўкажам, што ў эпоху рэволюцыі 1905-07 гг. грамадаўцы ёю аргументавалі ў карысць антысялянскай, антырэволюцыйнай аграрнай праграмы Маслова, якая была на руку буржуазіі, а ў эпоху рэакцыі выступалі староннікамі контррэволюцыйнай «сталыпіншчыны». Гэта-ж «тэорыя» аб асобай «псіхалогіі» беларускага сялянства ў эпоху соцыялістычнай рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва з'явілася сродкам прыкрыцця контррэволюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай праграмы «прышчэпаўшчыны» у аграрным пытанні, мэтай якой была рэстаўрацыя капіталізма, імперыялістычная інтэрвенцыя і адрыў БССР ад СССР.

Вывад напрашваецца сам сабою: аграрная праграма БСГ насіла антырэволюцыйны характар, здраджвала інтарэсы сялянства, была цалкам у карысць беларускай буржуазіі, была цалкам прасякнута нацыяналізмам.

Кулацкая партыя БСГ, праводзячы буржуазную і нацыяналістычную палітыку пад флагам «соцыялізма» для ашуканства мас, прыносіла вялікую шкоду барацьбе рэволюцыйных мас супроць абсалютызма, прыгонніцтва і нацыянальна-каланіяльнага гнёту.

Пасля ўсяго сказанага ясна, наколькі класавварожай і чуждай марксісцка-ленінскаму разуменню гісторыі класавай барацьбы ў Беларусі і гісторыі КП(б)Б з'яўляецца контррэволюцыйная ідэя «двухкарэннасці». Як вядома, у цэлым радзе работ па гісторыі контррэволюцыйных дробнабуржуазных, нацыяналістычных антыпролетарскіх партый, злейшых ворагаў пролетарыята, пролетарскай рэволюцыі і большэвізма, арганізатараў і актыўных удзельнікаў барацьбы з совецкай уладай, арганізатараў падрыўной работы, адрыву БССР ад СССР, інтэрвенцыі, накшталт БСГ, беларускіх эсэраў, Бунда і т. п., праводзілася «ідэйка» аб тым, што гэтыя партыі з'яўляюцца нібыта папярэднікамі КП(б)Б, што апошняя нібыта стварылася з двух крыніц—з большэвіцкіх арганізацый на Беларусі і з Бунда (так сцвярджаюць яўрэйскія нацыянал-дэмакраты і нацыянал-апартуністы) або з БСГ, беларускіх эсэраў (так сцвярджаюць беларускія нацыянал-апартуністы і нацыянал-дэмакраты). Таксама і БССР, па думцы гэтых фальсіфікатараў, з'яўляецца толькі ажыццяўленнем імкненняў такіх партый як БСГ, беларускія эсэры і т. п. Гэта нечуваная фальсіфікацыя і паклёп на КП(б)Б і БССР маюць аднак свой класавы сэнс. Гэта тэорыя з'яўляецца прыкрыццём контррэволюцыйных, буржуазна-рэстаўратарскіх планаў нацдэмаўшчыны беларускай, яўрэйскай і т. п. і служыць зброяй барацьбы супроць дыктатуры пролетарыята, супроць нашай партыі.

Тэорыя «двухкарэннасці» служыла і служыць прыкрыццём подлай і гнуснай работы контррэволюцыйных нацыяналістаў, эсэраўскіх, нацдэмаўскіх, бундаўскіх і т. п. контррэволюцыйных элементаў, якія ашуканчым шляхам пралезлі і імкнуцца пралезці ў партыю, каб знутры выканаць сваю гнусную работу агентаў класавага ворага, контрразведкі імперыялістычных дзяржаў, фашызма ў мэтах інтэрвенцыі і рэстаўрацыі капіталізма.

Контррэволюцыйная «ідэйка» аб «двухкарэннасці» павінна сустрэць самы бязлітасны адпор. Яна павінна быць вырвана з коранем, як класава варожая і чуждая пролетарыяту ўстаноўка, як зброя класавага ворага ў барацьбе супроць соцыялізма.

Ленін напісаў, што «тыя асноўныя пытанні (совецкая ўлада і дыктатура пролетарыята), якія займаюць цяпер увагу свядомых рабочых ва ўсім свеце, аказаліся пастаўленымі практычна ў канцы 1905 года» *).

Адсюль відаць, якое сусветна-гістарычнае значэнне мела барацьба большэвізма з усімі яго ворагамі: меншавікамі, трацкістамі, эсэрамі, нацыяналістамі і т. п.

Адсюль зразумела і тая заканамернасць, што ўсе гэтыя злейшыя ворагі большэвізма аказаліся ў 1917 годзе канчаткова і беззваротна ў лагеры контррэволюцыі. Тав. Сталін пісаў, што эсэры і меншавікі ператварыліся «з буржуазных рэволюцыянераў у буржуазных контррэволюцыянераў» **) і што яны з'яўляюцца «найбольш небяспечнай соцыяльнай апорай імперыялізма».

Ганебны шлях, поўны самай гнуснай, подлай здрады, характэрны для ўсіх гэтых контррэволюцыйных дробнабуржуазных партый, якія разам з усёй белагвардзейскай сволаччу імкнуліся ў моры крыві рабочых і працоўных сялян затапіць нашу соцыялістычную радзіму, якія ўжывалі ўсе способы і метады правакацыі, падрыўной работы, службы імперыялістычным контрразведкам, арганізацыі банд, закліку імперыялістычных інтэрвентаў, тэрору супроць правадыроў пролетарыята і т. п., каб рэстаўраваць уладу капіталіста і памешчыка.

Але ўсе гэтыя контррэволюцыянеры ад меншавікоў, эсэраў, трацкістаў, бундаўцаў, беларускіх эсэраў, нацдэмаў і т. п., уключаючы і гнусныя падонкі зіноўеўска-каменеўскай контррэволюцыйнай групоўкі, пацярпелі крах, абанкроціліся і разгромлены ў выніку бязлітаснай барацьбы з імі партыі Леніна—Сталіна.

А наша соцыялістычная радзіма, непрыступная крэпасць сусветнай пролетарскай рэволюцыі на чале з нашай партыяй, на чале з яе ЦК, пад кіраўніцтвам геніяльнага правадыра нашай партыі і сусветнага комуністычнага руху таварыша Сталіна квітнее і расце на страх ворагам і на радасць працоўным усяго свету.

Але барацьба не скончана. Рэшткі разбітага, але недабітага да канца класавага ворага, контррэволюцыйных партый імкнуцца пакасціць і шкодзіць нашай справе.

Праверка партыйных дакументаў з усёй сілай пацвярджае, што пасля перамогі вялікай Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі беларускія, яўрэйскія і т. п. нацыяналісты разгромленых дробнабуржуаз-

*) Т. XXV, стар. 432.

**) „Пытанні ленінізма“, стар. 183.

ных контррэволюцыйных партый вялі самую гнусную, самую подлую двурушніцкую тактыку. У той час, як адна частка нацыянал-дэмакратаў усіх масцей праводзіла контррэволюцыйную барацьбу супроць дыктатуры пролетарыята звонку, другая частка пранікала ў партыю, каб весці тую-ж контррэволюцыйную барацьбу супроць дыктатуры пролетарыята, супроць большэвіцкай партыі і разлажыць яе знутры.

Перамога пролетарскай рэволюцыі, бязлітасная барацьба партыі Леніна—Сталіна з дробнабуржуазнымі контррэволюцыйнымі партыямі прывялі іх да краху, да распаду на мноства груп і групак. Так раскалвалася некалькі разоў і БСГ, адкуль узялі свой пачатак і так званая Беларуская СДРП, і «левая» БСГ і беларускія эсэры, і т. п.

Усе гэтыя групы і групкі адрозніваліся адна ад другой толькі па форме, па сутнасці-ж усе яны зыходзіліся на плацформе стварэння беларускай буржуазнай дзяржавы.

Увесь шлях контррэволюцыйнай барацьбы беларускіх нацыяналістаў паказвае, што іх яднала агульная мэта — звяржэнне совецкай улады, рэстаўрацыя капіталізма. Для ажыццяўлення гэтай мэты беларускія нацыяналісты не пагарджалі ніякімі сродкамі. Яны сталі агентам нямецкага і польскага імперыялізма, яны сталі правакатарамі, знаходзячыся на службе імперыялістычных контрразведак, асабліва польскай дэфензівы. Яны аднačасова пранікалі ў КП(б)Б для яе разлажэння знутры.

Уся паследуючая дзейнасць большасці асоб, пранікшых у КП(б)Б з дробнабуржуазных контррэволюцыйных партый паказала, што галоўнай іх мэтай з'яўлялася разлажэнне партыі знутры, захват у свае рукі кіраўніцтва для ажыццяўлення сваёй буржуазна-нацыяналістычнай лініі.

Тав. Гікало піша:

> «Замаскаваныя метады барацьбы класавага ворага атрымалі сваё найбольшае развіццё к таму часу, калі мы адбілі напад інтэрвентаў звонку, вызвалілі Беларусь ад нямецкай і белапольскай акупацый і разграмілі сілы дамарошчанай контррэволюцыі. **Іменна ў гэты перыяд вораг, будучы разбітым у адкрытым баі, прадаўжае барацьбу іншымі шляхамі: вораг надзявае маску, імкнецца пранікнуць у партыю, у совецкі апарат, каб захаваць, такім чынам, свае кадры і весці разлагаючую, контррэволюцыйную работу знутры.**
>
> **Тактыка двурушніцтва становіцца адной з форм барацьбы нацыяналістычных контррэволюцыянераў супроць совецкай улады» *).**

Вось як адзін з віднейшых нацдэмаў, гнусны двурушнік і правакатар Ігнатоўскі ў сваіх паказаннях фармуляваў гэтую тактыку:

«Я прызнаю, што з моманту ўступлення ў партыю я вёў свядомую, падвойную палітычную гульню ў інтарэсах ажыццяўлення ідэалаў беларускай контррэволюцыйнай інтэлігенцыі».

Другі відны нацыянал-дэмакрат Лёсік таксама паказаў:

«Мы рэкамендавалі беларусам (чытай: контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратам.—М. П.) уступіць у партыю, каб яны маглі займаць адказныя пасты і весці палітыку Прышчэпава і Баліцкага».

---

*) „Партийное строительство“ № 5 за 1936 г., стар. 14—15.

Буйнейшае месца ў радах беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў займалі беларускія эсэры. Яны-ж займаюць галоўнае месца сярод нацыяналістычных элементаў, пранікшых у КП(б)Б. Напомнім, што адзін з віднейшых кіраўнікоў нацдэмаў, Ігнатоўскі, быў дзесяткі год эсэрам і ўдзельнікам Яраслаўскага паўстання, другі відны нацдэм, Прышчэпаў, быў адным з арганізатараў эсэраўскага паўстання ў Сянно.

Тав. Гікало ўказвае, што:

> «Контррэволюцыйную дзейнасць эсэраўскіх элементаў, прабраўшыхся ў нашу партыю, трэба разглядаць у цеснай сувязі з дзейнасцю нацыянал-дэмакратычных элементаў. Праверка партдакументаў паказала, што, як правіла, зыкрытыя нацдэмаўскія элементы ў мінулым належалі да эсэраў. І гэта, вядома, не выпадкова, бо карэнні эсэраўскага і нацдэмаўскага руху адны і тыя-ж—беларускае кулацтва» *).

Яскравым прыкладам таго, як эсэраўскія элементы пралазілі ў партыю, з'яўляецца выкрытая праверкай партыйных дакументаў гісторыя пранікнення ў рады КП(б)Б капыльскіх эсэраў. Існаваўшая ў Капылі да канца 1919 г. эсэраўская арганізацыя (у яе кіруючы склад уваходзілі і манархічныя элементы, як Гурло—афіцэр-карнілавец) выдавала сябе пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў за большэвіцкую. Капыльскія эсэры рэкамендавалі адзін другога ў партыю, прыпісваючы сабе вымышленыя рэволюцыйныя заслугі і т. п.

Тую-ж тактыку пранікнення ў КП(б)Б для разлажэння яе знутры прымянялі і яўрэйскія контррэволюцыйныя нацыяналістычныя групоўкі.

Добра вядома, што Бунд пасля вялікай Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі складаў арганічную частку ўсёй контррэволюцыі, якая змагалася супроць дыктатуры пролетарыята, супроць партыі большэвікоў, у імя рэстаўрацыі капіталізма і ўлады буржуазіі. Бунд уваходзіць у адзіны фронт усёй нацыяналістычнай контррэволюцыі, якая змагалася за адрыў БССР ад СССР, за падрыхтоўку імперыялістычнай інтэрвенцыі.

Пролетарыят Савецкай Расіі пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна вышаў пераможцам на ўсіх фронтах грамадзянскай вайны, разбіўшы на-галаву і мясцова-нацыяналістычную контррэволюцыю. Бунд, як і іншыя нацыяналістычныя контррэволюцыйныя дробнабуржуазныя партыі, з якімі большэвіцкая партыя вяла бязлітасную барацьбу, пацярпеў крах, быў разбіты разам з усімі ворагамі пролетарскай рэволюцыі ў адкрытай бойцы, перажывае працэс распаду і разлажэння.

І былы тады лідар Бунда—Вайнштэйн прапанаваў наступную тактыку. Ён гаварыў на надзвычайнай канферэнцыі Бунда 5 сакавіка 1921 года: «адмаўленне ад уваходжання ў РКП(б) не дае Бунду ні магчымасці развівацца, ні магчымасці існаваць». І далей: «Пры зліянні з комуністычнай партыяй бундызм захавае свой рэволюцыйны дух, сваю гістарычную загартаванасць».

Вядома, што рад былых бундаўцаў спрабаваў ператварыць існаваўшыя пры парткомах яўрэйскія секцыі ў адасобленыя яўрэйскія

*) „Партийное строительство“ № 5, стар. 16.

арганізацыі. Бундаўскія элементы выступалі носьбітамі шкодных у корані бальшэвізму традыцый бундызма—нацыянальнай абмежаванасці, цэхаўшчыны, дробнабуржуазнай ураўнілаўкі і т. д.

Бундаўскія элементы вялі падрыўную работу на прадпрыемствах, у горадзе, у калгасах, на вёсцы, прыбягалі да самай подлай зброі буржуазіі,—сеяння нацыянальнай розні сярод працоўных. Вядома, што бундаўскія элементы ўсяляк садзейнічалі пранікненню на нашы прадпрыемствы былых нэпманаў, гаспадарчыкаў і т. д. і дапамагалі ім у шкодніцкай рабоце. Разам з беларускімі нацыяналістамі яны падзялялі ў радзе калгасаў брыгады на «чыста беларускія» і «чыста яўрэйскія».

Пранікшыя ў партыю нацыяналістычныя элементы выступалі расаднікамі сямейнасці, узаемнай парукі, узаемнага пакрывання, групаўшчыны і т. п. Яны сістэматычна прыбягалі да двурушніцтва, як зброі барацьбы з партыяй і яе разлажэння знутры.

Выхадцы з дробнабуржуазных, контррэвалюцыйных, нацыяналістычных партый, пранікшы ў КП(б)Б, складалі спрыяючае асяроддзе для ўтварэння розных антыпартыйных нацыяналістычных, трацкісцкіх і т. п. груповак.

Праверка партыйных дакументаў з усёй сілай паказала, што сярод выхадцаў з эсэраў, паалей-сіяністаў і асабліва з Бунда была вялікая колькасць трацкістаў, актыўнейшых удзельнікаў барацьбы супроць партыі. І сярод выкрытых партыяй у апошнія гады контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх груповак пачэснейшае месца займалі гэтыя выхадцы.

Тав. Гікало, падводзячы вынікі праверкі партдакументаў у КП(б)Б, гаворыць:

> «Тое, што характэрна для контррэвалюцыйнай дзейнасці эсэраўскіх і нацдэмаўскіх элементаў, пралезшых у нашу партыю, у роўнай меры адносіцца і да контррэвалюцыйных, трацкісцка-меншавіцкіх і бундаўскіх элементаў.
>
> Праверка партдакументаў паказала, што ў агромнай большасці выпадкаў былыя бундаўцы, прынятыя ў рады КП(б)Б, потым аказваліся ў радах трацкістаў. Гэта гаворыць аб адной і той самай сацыяльнай базе меншавіцка-трацкісцкіх і бундаўскіх элементаў, а таксама з'яўляецца паказчыкам таго, што значная частка былых бундаўцаў, прынятых у нашу партыю, па сутнасці, прадаўжала заставацца на сваіх старых ідэйных пазіцыях *).

Вядома таксама, што беларускія, яўрэйскія і т. п. нацыяналісты блакаваліся з контррэвалюцыйнымі трацкісцкімі элементамі ў мэтах барацьбы супроць пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва, за рэстаўрацыю капіталізма, пры дапамозе і ў саюзе з імперыялістычнымі інтэрвентамі.

Мы павінны ўвесь час трымаць порах сухім, каб сакрушыць малейшую спробу шкодніцтва класавага ворага, у якой-бы замаскаванай ці адкрытай форме яно ні выразілася. Узнімем яшчэ вышэй нашу рэвалюцыйную пільнасць у барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай.

---

*) „Партийное строительство" № 5, стар. 16.

Таварыш Сталін гаварыў:

«Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў... На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэволюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, безумоўна, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобых афяр.

Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам» *).

---

*) „Пытанні ленінізма", стар. 510.

# НА ФРОНЦЕ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУКІ

## У Соўнаркоме Саюза ССР і ЦК ВКП(б)

Прыдаючы важнае значэнне належнай пастаноўцы выкладання грамадзянскай гісторыі ў школах СССР, Совет Народных Камісараў Саюза ССР і ЦК ВКП(б) яшчэ 16 мая 1934 г. прынялі і апублікавалі вядомую пастанову «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР». У гэтай пастанове Соўнарком і ЦК ВКП(б) канстатавалі нездавальняючасць пастаноўкі выкладання гісторыі ў школах СССР. Соўнарком і ЦК ВКП(б) устанавілі, што галоўным недахопам падручнікаў гісторыі і самога выкладання з'яўляецца іх адцягнены, схематычны характар: **«замест выкладання грамадзянскай гісторыі ў жывой цікавай форме з прывядзеннем важнейшых падзей і фактаў у іх храналагічнай паслядоўнасці, з характарыстыкай гістарычных дзеячоў—вучням падносяць абстрактныя азначэнні грамадска-эканамічных фармацый, падмяняючы такім чынам звязнае выкладанне грамадзянскай гісторыі адцягненымі соцыялагічнымі схемамі».** (З пастановы Соўнаркома і ЦК ВКП(б) ад 16 мая 1934 г.).

Соўнарком і ЦК указалі, што **«рашаючай умовай цвёрдага ўсваення вучнямі курса гісторыі з'яўляецца захаванне гісторыка-хранaлагічнай паслядоўнасці ў выкладанні гістарычных падзей з абавязковым замацаваннем у памяці вучняў важнейшых гістарычных з'яў, гістарычных дзеячоў, храналагічных дат. Толькі такі курс гісторыі можа забяспечыць неабходныя для вучняў даступнасць, нагляднасць і канкрэтнасць гістарычнага матар'ялу, на аснове чаго толькі і магчымы правільны разбор і правільнае абагульненне гістарычных падзей, якія падводзяць вучня да марксісцкага разумення гісторыі».**

У адпаведнасці з гэтым было пастаноўлена падрыхтаваць к чэрвеню 1935 года новыя падручнікі па гісторыі:

а) Гісторыя старажытнага свету;

б) Гісторыя сярэдніх вякоў;

в) Новая гісторыя;

г) Гісторыя СССР;

д) Новая гісторыя залежных і каланіяльных краін.

Соўнарком і ЦК ВКП(б) пастанавілі арганізаваць для складання новых падручнікаў пяць груп і зацвердзілі персанальны склад гэтых груп.

9 чэрвеня 1934 г. ЦК ВКП(б) і Соўнаркомам Саюза ССР было вырашана пытанне аб увядзенні ў пачатковай і няпоўнай сярэдняй школе элементарнага курса гісторыі СССР і арганізаваны групы па складанню элементарных падручнікаў гісторыі СССР.

14 жніўня 1934 г. ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР адобрылі прадстаўленыя тт. Сталіным, Кіравым і Жданавым заўвагі па поваду канспектаў новых падручнікаў па «гісторыі СССР» і «новай гісторыі».

У гэтых заўвагах былі падвергнуты грунтоўнаму разбору і суровай крытыцы абодва канспекты, прычым, як было ўстаноўлена, асабліва нездавальняюча быў складзен канспект па гісторыі СССР, які быў багат вялікай колькасцю ненавуковых, няграматных, з пункту погляду марксізма, азначэнняў, вызначаўся крайняй неахайнасцю, асабліва недапушчальнай пры стварэнні «падручніка, дзе павінна быць узважана кожнае слова і кожнае азначэнне». Буйныя, хоць і меншыя, недахопы меў таксама канспект падручніка па «новай гісторыі».

Заўвагі тт. Сталіна, Кірава і Жданава вычарпальным чынам указвалі, у якім напрамку неабходна было перапрацаваць канспекты і падрыхтоўваемыя падручнікі. Аднак, Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) вымушаны канстатаваць, што прадстаўленыя зараз на разгляд СНК і ЦК падручнікі па гісторыі большай часткаю нездавальняючыя, паранейшаму маюць тыя-ж недахопы, на якія ўказана вышэй. Асабліва нездавальняюча складзен падручнік па «гісторыі СССР», прадстаўлены групай прафесара Ванага, а таксама падручнікі па элементарнаму курсу гісторыі СССР для пачатковай школы, прадстаўленыя групамі Мінца і Лазінскага. Тую акалічнасць, што аўтары ўказаных падручнікаў прадаўжаюць настойваць на неаднаразова ўжо ўскрытых партыяй і яўна негрунтоўных гістарычных азначэннях і ўстаноўках, якія маюць у сваёй аснове вядомыя памылкі Пакроўскага, Соўнарком і ЦК не могуць не расцэньваць, як сведчанне таго, што сярод некаторай часткі нашых гісторыкаў, асабліва гісторыкаў СССР, укараніліся антымарксісцкія, антыленінскія, па сутнасці справы, ліквідатарскія, антынавуковыя погляды на гістарычную навуку. Соўнарком і ЦК ВКП(б) падкрэсліваюць, што гэтыя шкодныя тэндэнцыі і спробы ліквідацыі гісторыі, як навукі, звязаны ў першую чаргу з пашырэннем сярод некаторых нашых гісторыкаў памылковых гістарычных поглядаў, уласцівых так званай «гістарычнай школе Пакроўскага». Соўнарком і ЦК указваюць, што задача перамагання гэтых шкодных поглядаў з'яўляецца неабходнай прадпасылкай як для складання падручнікаў па гісторыі, так і для развіцця марксісцка-ленінскай гістарычнай навукі і ўздыму гістарычнай адукацыі ў СССР, якія маюць важнейшае значэнне для справы нашай дзяржавы, нашай партыі і для абучэння падрастаючага пакалення.

У адпаведнасці з гэтым Соўнарком Саюза ССР і ЦК ВКП(б) пастанавілі стварыць для прагляду і карэннага палепшання, а ў выпадку неабходнасці і для пераробкі ўжо напісаных падручнікаў па гісторыі, камісію Соўнаркома і ЦК ВКП(б) у складзе тт. Жданава (старшыня), Радэка, Сванідзе, Горына, Лукіна, Якаўлева, Быстранскага, Затонскага, Файзулы Хаджаева, Баумана, Бубнова і Бухарына. Гэтай камісіі прадастаўлена права арганізаваць групы для прагляду паасобных падручнікаў, а таксама абвяшчаць конкурс на падручнікі ўзамен тых, якія будуць прызнаны камісіяй падлягаючымі карэннай пераробцы.

Соўнарком і ЦК пастанавілі таксама апублікаваць у друку заўвагі тт. Сталіна, Кірава і Жданава і іншыя матар'ялы па гэтаму пытанню.

# Пастанова ЦК ВКП(б) і СНК Саюза ССР

Для прагляду і палепшання, а ў неабходных выпадках і для пераробкі ўжо напісаных падручнікаў па гісторыі, арганізаваць камісію ў складзе тт. Жданава (старшыня), Радэка, Сванідзе, Горына, Лукіна, Якаўлева, Быстранскага, Затонскага, Файзулы - Хаджаева, Баумана, Бубнова і Бухарына.

Камісіі прадаставіць права арганізаваць групы для прагляду паасобных падручнікаў, а таксама абвяшчаць конкурс на падручнікі ўзамен тых, якія будуць прызнаны падлягаючымі карэннай пераробцы. У першую чаргу павінны быць прагледжаны падручнікі па элементарнаму курсу гісторыі СССР і па новай гісторыі.

Старшыня СНК Саюза ССР — В. МОЛАТАЎ.

Сакратар ЦК ВКП(б) — І. СТАЛІН

26 студзеня 1936 года.

# Заўвагі з поваду канспекта падручніка па „Гісторыі СССР"

Група Ванага не выканала задання і нават не зразумела самога задання. Яна склала канспект **рускай** гісторыі, а не **гісторыі СССР**,— г. зн. гісторыі Русі, але без гісторыі народаў, якія ўвайшлі ў склад СССР (не ўлічаны даныя па гісторыі Украіны, Беларусі, Фінляндыі і іншых прыбалтыйскіх народаў, паўночна-каўказскіх і закаўказскіх народаў, народаў Сярэдняй Азіі і Далёкага Ўсходу, а таксама волжскіх і паўночных народаў,—татары, башкіры, мардва, чувашы і т. д.).

У канспекце не падкрэслена анексіяністка-каланізатарская роля рускага царызма разам з рускай буржуазіяй і памешчыкамі («царызм—турма народаў»).

У канспекце не падкрэслена контррэвалюцыйная роля рускага царызма ў знешняй палітыцы з часоў Екацерыны II да 50-х гадоў XIX стагоддзя і далей («царызм, як міжнародны жандар»).

У канспекце звалены ў адну кучу феадалізм і дафеадальны перыяд, калі сяляне не былі яшчэ запрыгонены; самадзяржаўны лад дзяржавы і лад феадальны, калі Расія была раздроблена на мноства самастойных поўдзяржаў.

У канспекце звалены ў адну кучу паняцці рэакцыя і контррэвалюцыя, рэвалюцыя «наогул», рэвалюцыя буржуазная і рэвалюцыя буржуазна-дэмакратычная.

У канспекце не даны ўмовы і вытокі нацыянальна-вызваленчага руху пакароных царызмам народаў Расіі і, такім чынам, окцябрская рэвалюцыя, як рэвалюцыя, вызваліўшая гэтыя народы ад нацыянальнага гнёту, астаецца нематываванай, роўным чынам нематываваным астаецца стварэнне Саюза ССР.

Канспект багаты ўсякага роду зацяганымі трафарэтнымі азначэннямі накшталт «паліцэйскі тэрор Нікалая I», «Разіншчына» і «Пугачоўшчына», «наступленне памешчыцкай контррэвалюцыі ў 70-х гг. XIX стагоддзя», «першыя крокі прамысловага перавароту», «першыя крокі царызма і буржуазіі ў барацьбе з рэвалюцыяй 905—907 г.» і так далей. Аўтары канспекта слепа капіруюць зацяганыя і зусім ненавуковыя азначэнні ўсякага роду буржуазных гісторыкаў, забываючы аб тым, што яны абавязаны даць нашай моладзі марксісцкія, навукова-абгрунтаваныя азначэнні.

Канспект не адлюстроўвае ролі і ўплыву заходне-еўрапейскіх буржуазна-рэвалюцыйных і соцыялістычных рухаў на фармаванне буржуазнага рэвалюцыйнага руху і руху пралетарска-соцыялістычнага ў Расіі. Аўтары канспекта відаць забылі, што рускія рэвалюцыянеры лічылі сябе вучнямі і паслядоўцамі вядомых карыфеяў буржуазна-рэвалюцыйнай і марксісцкай мыслі на Захадзе.

У канспекце не ўлічаны карэнні першай імперыялістычнай вайны і роля царызма ў гэтай вайне, як рэзерва для заходне-еўрапейскіх імперыялістычных дзяржаў, роўна як не ўлічана залежная роля як рускага царызма, так і рускага капіталізма ад капітала заходне-еўрапейскага, з прычыны чаго значэнне окцябрскай рэволюцыі, як вызваліцельніцы Расіі ад яе поўкаланіяльнага становішча, астаецца нематываваным.

У канспекце не ўлічана наяўнасць агульнаеўрапейскага палітычнага крызісу перад сусветнай вайной, які выразіўся, між іншым, у заняпадзе буржуазнай дэмакратыі і парламентарызма, з прычыны чаго значэнне советаў з пункту погляду сусветнай гісторыі, як носьбітаў пролетарскай дэмакратыі і органаў вызвалення рабочых і сялян ад капіталізма, застаецца нематываваным.

У канспекце не ўлічана барацьба плыней у кіруючай комуністычнай партыі СССР і барацьба з трацкізмам, як з праяўленнем дробнабуржуазнай контррэволюцыі.

І так далей і таму падобнае.

Наогул трэба сказаць, што канспект складзен вельмі неахайна і не зусім граматна з пункту погляду марксізма.

Мы ўжо не гаворым аб недакладным стылі канспекта і аб гульні ў «славечкі», накшталт таго, што Лжэдзімітрый назван Дзімітрыем «Названым» або накшталт «трыумфу старых феадалаў у XVIII стагоддзі» (невядома, аднак, куды падзеліся і як сябе вялі «новыя» феадалы, калі яны наогул існавалі ў гэты час) і т. д.

Мы лічым неабходным карэнную перапрацоўку канспекта ў духу прыведзеных вышэй палажэнняў, пры гэтым павінна быць улічана, што гутарка ідзе аб стварэнні **падручніка**, дзе павінна быць узважана кожнае слова і кожнае азначэнне, а не аб безадказных журнальных артыкулах, дзе можна балбатаць аб усім і як хочаш, ухіляючыся ад пачуцця адказнасці.

Нам патрэбен такі падручнік гісторыі СССР, дзе-б гісторыя Велікаросіі не адрывалася ад гісторыі іншых народаў СССР—гэта папершае,—і дзе-б гісторыя народаў СССР не адрывалася ад гісторыі агульнаеўрапейскай і, наогул, сусветнай гісторыі,—гэта па-другое.

**І. СТАЛІН**

**А. ЖДАНАЎ**

**С. КІРАЎ**

8. VIII. 34 г.

# Заўвагі аб канспекце падручніка „Новай гісторыі"

З прычыны таго, што новая гісторыя, самая багатая зместам, перанасычана падзеямі, а таксама з прычыны таго, што самае галоўнае ў новай гісторыі буржуазных краін, калі мець на ўвазе перыяд да окцябрскай рэволюцыі ў Расіі, гэта перамога французскай рэволюцыі і ўцвярджэнне капіталізма ў Еўропе і Амерыцы,—лічым, што было-б лепш, калі-б падручнік новай гісторыі адкрываўся главой аб французскай рэволюцыі. Для сувязі з папярэднімі падзеямі можна было прадпаслаць невялікія ўводзіны з кароткім пераказам асноўных падзей нідэрландскай і англійскай рэволюцый, аднёсшы падрабязны пераказ падзей нідэрландскай і англійскай рэволюцый к канцу падручніка сярэдняй гісторыі.

Стала быць, мы прапануем выкінуць з канспекта першую частку (6 глаў), г. зн. увесь першы раздзел, замяніўшы яго кароткімі ўводзінамі.

Галоўным недахопам канспекта лічым тую акалічнасць, што ён недастаткова рэзка падкрэслівае ўсю глыбіню розніцы і процілегласці паміж рэволюцыяй французскай (буржуазнай рэволюцыяй) і окцябрскай рэволюцыяй у Расіі (социялістычнай рэволюцыяй). Асноўнай воссю падручніка новай гісторыі павінна быць гэта іменна ідэя процілегласці паміж рэволюцыяй буржуазнай і соцыялістычнай. Паказаць, што французская (і ўсякая іншая) буржуазная рэволюцыя, вызваліўшы народ ад ланцугоў феадалізма і абсалютызма, наклала на яго новыя ланцугі, ланцугі капіталізма і буржуазнай дэмакратыі, тады як соцыялістычная рэволюцыя ў Расіі разбіла ўсе і ўсякія ланцугі і вызваліла народ ад усіх форм эксплаатацыі,—вось у чым павінна заключацца чырвоная ніць падручніка новай гісторыі.

Таму нельга дапускаць, каб французскую рэволюцыю называлі проста «вялікай»,—яе трэба называць і трактаваць, як рэволюцыю **буржуазную**.

Роўным чынам нельга называць нашу соцыялістычную рэволюцыю ў Расіі проста рэволюцыяй окцябрскай,—яе трэба называць, трактаваць, як рэволюцыю **соцыялістычную,** рэволюцыю **совецкую.**

Адпаведна з гэтым трэба перабудаваць канспект падручніка новай гісторыі з падборам адпаведных азначэнняў і тэрмінаў.

Разбіўку новай гісторыі ў канспекце на дзве часткі лічым мала матываванай і выпадковай, зробленай па нейкаму незразумеламу прызнаку. Мы-б лічылі мэтазгодным разбіць новую гісторыю на тры часткі:

Першая частка—ад французскай буржуазнай рэволюцыі да

франка-прускай вайны і Парыжскай Комуны (выключна). Гэта будзе перыяд перамогі і ўцвярджэння капіталізма ў перадавых краінах.

Другая частка—ад франка-прускай вайны і Парыжскай Комуны да перамогі оксябрскай рэволюцыі ў Расіі і сканчэння імперыялістычнай вайны (уключна). Гэта будзе перыяд пачаўшагася заняпаду капіталізма, першага ўдару па капіталізму з боку Парыжскай Комуны, перарастання старога «свабоднага» капіталізма ў імперыялізм і звяржэння капіталізма ў СССР сіламі окцябрскай рэволюцыі, якая адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва.

Трэцяя частка ад канца 1918 года (год сканчэння вайны) да канца 1934 года. Гэта будзе перыяд пасляваеннага імперыялізма ў капіталістычных краінах, эканамічнага і палітычнага крызіса ў гэтых краінах, перыяд фашызма і ўзмацнення барацьбы за калоніі і сферы ўплыву з аднаго боку, і з другога боку—перыяд грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі ў СССР, перыяд першай і пачатак другой пяцігодкі ў СССР, перыяд пераможнага будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне, перыяд выкаранення апошніх астаткаў капіталізма, перыяд перамогі і ўздыму ў СССР соцыялістычнай індустрыі, перамогі соцыялізма ў вёсцы, перамогі калгасаў і соўгасаў. Мы лічым вялікай памылкай, што аўтары канспекта абрываюць гісторыю на 1923 годзе. Гэту памылку трэба выправіць, давёўшы гісторыю да канца 1934 года. У адпаведнасці з гэтым прыдзецца зрабіць пераробку і перараз-меркаванне матар'ялу, раздзелаў і глаў.

Добра было-б вызваліць канспект ад старых зацяганых выразаў, накшталт «стары парадак», «новы парадак» і інш. Лепш было-б замяніць іх словамі «дакапіталістычны парадак» або яшчэ лепш «абсалютысцка-феадальны парадак», а замест «новага парадку» сказаць «парадак капіталізма і буржуазнай дэмакратыі». Пры такой змене так званы «новы парадак» г. зн. капіталістычны парадак, будзе выглядаць ужо як парадак **стары**, у параўнанні з совецкім ладам у СССР, які прадстаўляе вышэйшы тып устройства чалавечага грамадства.

Добра было-б таксама вызваліць канспект ад празмернага багацця «эпох». «Эпоха консульства», «эпоха Напалеона» «эпоха дырэкторыі»,—ці не занадта шмат эпох?

Нам здаецца таксама няправільным, што каланіяльнаму пытанню ўдзелена ў канспекце несуразмерна мала месца. У той час, як Жорж Зандам, Шпенглерам, Кіплінгам і т. д. удзелена дастаткова многа ўвагі, каланіяльнаму пытанню і становішчу, скажам, у такой дзяржаве, як Кітай, удзелена мала ўвагі.

Было-б таксама добра замяніць формулу «аб'яднанне Германіі і Італіі» формулай «вассаедзіненне Германіі і Італіі ў самастойныя дзяржавы». Інакш можа атрымацца ўражанне, што гутарка ідзе не аб барацьбе за вассаедзіненне такіх раней раздробленых дзяржаў, як Германія і Італія, а аб аб'яднанні гэтых дзяржаў у адну дзяржаву.

Увогуле канспект новай гісторыі складзен, па-нашаму, больш талкова, чым канспект гісторыі СССР, але сумбуру ў гэтым канспекце ўсё-ж дастаткова многа.

**І. СТАЛІН**

**С. КІРАЎ**

**А. ЖДАНАЎ**

9. VIII. 34 г.

---

# ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б

## Аб ходзе праверкі якасці ачысткі і гатункаабмену насенфондаў у калгасах і соўгасах БССР

*Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б*

СНК БССР і ЦК КП(б)Б адзначаюць, што становішча работ па ачыстцы насення, праверцы яго на ўсхожасць, міжкалгаснаму абмену і гатункаабмену на складах Дзяржсортфонда і Заготзярна ў раёнах Мсціслаўскім, Касцюковіцкім, Магілеўскім, Горацкім, Багушэўскім, Чырвонапольскім, Старадарожскім, Дрысенскім і радзе іншых зусім нездавальняючае і не адказвае прынятым на сябе гэтымі раёнамі абавязацельствам па ўзняццю ўраджайнасці ў 1936 г. У Магілеўскім раёне, напрыклад, цэлыя сельсоветы (Машынацкі, Мастоцкі і інш.) не прыступалі яшчэ да ачысткі насення. План гатункаабмену і абмен кандыцыйнага насення праз Заготзярно выканан на 10 лютага 1936 г. толькі на 39,8 проц.

Па Горацкаму раёну выяўлена недапушчальна дрэннае хаванне насення, асабліва ў калгасах «Шлях соцыялізма», «Авангард», «Барацьба» і іншых.

На 13 лютага 1936 г. план абмену ячменю выканан толькі на 24,2 проц., пшаніцы—31,3 проц. Асобныя калгасы разбазарылі насенфонды («Чырвоны маяк», «Чырвоны Кастрычнік» і інш.). У Касцюковіцкім раёне план міжкалгаснага абмену яшчэ не размешчан па сельсоветах.

Гэта сведчыць аб тым, што партсовецкае кіраўніцтва гэтых і іншых раёнаў, дырэктары МТС і соўгасаў не вядуць сапраўднай бальшэвіцкай барацьбы за выкананне адной з важнейшых умоў высокага ўраджаю—падрыхтоўкі высокага па гатунковасці, чыстаце і ўсхожасці насення.

Белзаготзярно, не гледзячы на папярэджанні СНК БССР і ЦК КП(б)Б аб арганізацыі справы абмену гатунковага і палепшанага насення, працягвае працаваць дрэнна. Да гэтага часу ў радзе складаў насенне не падрыхтавана да абмену (Мсціслаўскі, Смалявіцкі, Клімавіцкі і інш.). Дапушчан рад фактаў змешвання гатунковага насення з радавым (Барысаўскі, Касцюковіцкі пункты).

Магілеўскі пункт Заготзярна пад відам пасеўнага насення аўса і ячменю адгрузіў фуражнае зярно.

Райза і МТС у радзе раёнаў (Касцюковіцкі, Горацкі, Магілеўскі, Смалявіцкі і інш.) не толькі не аказалі дапамогі пунктам Заготзярна ў падрыхтоўцы насення да абмену, а нават не пацікавіліся праверыць становішча насення і затрымалі прадстаўленне планаў абмену пунктам Заготзярна.

СНК і ЦК КП(б)Б **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць сакратароў РК КП(б)Б і старшынь РВК указаных вышэй раёнаў прыняць канкрэтныя меры па падрыхтоўцы насення да сяўбы, яго ачыстцы і праверцы на ўсхожасць, міжкалгаснага гатункаабмену гатунковага і палепшанага насення з дзяржаўных складаў, забяспечыўшы не пазней 10 сакавіка поўнае сканчэнне гэтай работы.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б абавязваюць магілеўскі РК і РВК неадкладна арганізаваць ачыстку насення ў Машынацкім, Мастоцкім і іншых сельсоветах, якія яшчэ не прыступілі да гэтай работы, узяўшы ў свае рукі штодзенны кантроль за ходам абмену гатунковага і кандыцыйнага насення на пунктах Заготзярна. Горацкаму РК і РВК прыняць меры да палепшання хавання насення ў калгасах «Шлях соцыялізма», «Авангард», «Барацьба» і інш. Выявіць вінаватых і прыцягнуць да найстражэйшай адказнасці за разбазарванне насення ў калгасах «Чырвоны маяк», «Чырвоны Кастрычнік» і іншых і дабіцца ў гэтых калгасах поўнага аднаўлення насеннага фонду. Касцюковіцкаму РК КП(б)Б і РВК неадкладна распрацаваць план міжкалгаснага абмену, прыцягнуўшы да адказнасці вінаватых у затрыманні гэтага плана.

2. СНК БССР і ЦК КП(б)Б папярэджваюць загадчыкаў райза Касцюковіцкага раёна—т. Паршыну, Мсціслаўскага—т. Кардовіча і Магілеўскага—т. Муху, што ў выпадку калі на працягу бліжэйшых 10 дзён не будзе забяспечана сканчэнне ачысткі насенфондаў міжкалгаснага гатункаабмену, а таксама абмену насення з дзяржаўных складаў, да іх будуць ужыты рашучыя меры ўздзеяння.

3. Загадчыку Горацкага пункта Заготзярна т. Шварцману за выдачу калгасам Дрыбінскага раёна 16,6 тоны пшаніцы гатунку «Цэзіум 0111» замест «Лютэсцэн 062» і дрэнную арганізацыю работы па абмену насення абвясціць вымову.

4. Указаць Белзаготзярну (т. Марыненка) на недапушчальныя адносіны да адгрузкі, прыёмкі, захавання і падрыхтоўкі насення да абмену па сістэме Заготзярна.

Абавязаць т. Марыненка ў пяцідзенны тэрмін закончыць па ўсіх пунктах ачыстку выдаваемага ў абмен насення і праверку яго пасеўнай якасці, катэгарычна забараніўшы выдачу па абмену неправеранага насення. Прапанаваць т. Марыненка вінаватых у псаванні чыстагатунковага зярна, адгрузцы і выдачы калгасам некандыцыйнага па чыстаце і ўсхожасці насення прыцягнуць да суровай адказнасці.

5. СНК БССР і ЦК КП(б)Б абавязваюць усіх сакратароў РК КП(б)Б, старшынь РВК, загадчыкаў райза і дырэктароў МТС на працягу з 1 па 10 сакавіка г. г. правесці суцэльную праверку падрыхтоўкі насення да сяўбы па ўсіх калгасах, мабілізаваўшы для правядзення гэтай работы ўсіх без выключэння аграномаў райза, МТС, соўгасаў і інш. арганізацый, а таксама адказных работнікаў раённага актыва.

Вынікі праверкі пасля абгаварэння іх на бюро РК КП(б)Б і прэзідыумах РВК прадставіць ЦК не пазней 15 сакавіка г. г.

6. Абавязаць рэдакцыі газет «Звязда», «Рабочий» і райгазет рэгулярна асвятляць на старонках друку падрыхтоўку насення і іншых работ да веснавой сяўбы.

Старшыня СНК БССР Сакратар ЦК КП(б)Б

**ГАЛАДЗЕД** **ГІКАЛО**

Галоўлітбел №П—5005.
Тыраж 12.465. (6½ арк.)
Здана ў набор 10-III—36 г.
Падпісана да друку 23-III—36 г.

Рэдкалегія: К. Мінкін (адказны рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 293.

ЦАНА 40 кап.






**ДА ВЕД**
**ПАРТЫЙНЫХ, СОВЕЦКІХ, ГРАМАДСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ і ЎСТАНОЎ**

# АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1936 ГОД

**НА ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ШТОМЕСЯЧНІК — ОРГАН ЦК КП(б)Б**

**═ ГОД ВЫДАННЯ X ═**

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1936 г.**

| | |
|---|---|
| на 1 мес. | — 40 к. |
| на 3 мес. | 1 р. 20 к. |
| на 6 мес. | 2 р. 40 к. |
| на 12 мес. | 4 р. 80 к. |

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА

штомесяц усімі райбюро „Саюздруку“, паасобнымі ўпаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі

**МЕНСК**

**ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“**